БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 18 (13498)

29 красавіка — 5 мая 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы—20 кап.)

## *1 Мая — Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных*




## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

# «Боль Чарнобыля»

**Такую назву мела мастацка-публіцыстычная выстава, што працавала з 13-га да 30 красавіка ў выставачнай зале на пр. Машэрава, 7. Гэта, бадай, першая спроба асэнсавання трагедыі зямлі беларускай, Беларусі чарнобыльскай...**

*«Вялікі дзякуй за тое, што расказваеце праўду...»*

*(З кнігі водгукаў).*

ЭКСПАЗІЦЫЯ прыцягвае нестандартным падыходам: спалучэнне дакументальнага з мастацкім, рэальнага з ілюзорным, праўды з хлуснёю.

Беларусь, як заложніца панавання каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, ва ўмовах якой галоўным памкненнем улад з'явілася не выратаванне людзей ад чарнобыльскай бяды, а, наадварот, утойванне ад шырокай грамадскасці памераў аварыі, уплыву яе на здароўе людзей — асноўная тэма дакументаў, упершыню прадстаўленых шырокаму гледачу. Напрыклад, паказчыкі вытворчасці калгаса, з тэрыторыі якога «рукой падаць» да Чарнобыля, «план» і «факт» за 86-ы, 87-ы, 88-ы г.г. Адпаведна росту «плана» — рост «факту», прычым з перавыкананнем. Маўляў, так трымаць, ардэнаноска-гераічная Беларусь, Чарнобыль Чарнобылем, але Саюзу мяса з бульбай давай!

На фоне фактычнага матэрыялу нават змрочныя, працятыя болем за лёс свайго народа творы беларускіх мастакоў Ул. Кожуха, С. Крыштаповіча, А. Марачкіна, М. Цудзіка, В. Шкарубы і інш. не здаюцца занадта песімістычнымі. Але чалавек, які творыць, заўсёды спадзяецца... Як спадзяецца гераіня карціны А. Кішчанкі «...Ён будзе жыць?..».

«Пажадана, каб выстаўка не перапыняла сваёй работы, а ператварылася ў музей» (з кнігі водгукаў). З гэтым нельга не пагадзіцца. Але трэба яшчэ, на маю думку (выстава пераконвае ў гэтым), рыхтаваць грамадзянскі суд над тымі, хто ці па жаданню «прагнуцца» перад вышэйстаячымі, ці па элементарнай бесклапотнасці за лёс іншых людзей не зрабіў элементарных захадаў па выратаванні насельніцтва.

Выставу арганізаваў беларускі камітэт «Дзеці Чарнобыля» пры ўдзеле МП «Тэхнаэкс» і МП «Інфарменеджмент». На жаль, Міністэрства культуры не знайшло сродкаў дапамагчы ў арганізацыі выставы, што пры ўмове экспанавання за мяжой (а заяўкі ўжо ёсць) не спрыяе наладжванню належнага кантролю за валютнымі паступленнямі ў фонд Чарнобыля. А прэцэдэнты ўжо былі. На леташнім тэлемарафоне немаведама куды падзеліся ахвяраванні на суму каля чатырох мільёнаў долараў. Вядома адзінае — у СССР яны паступілі... Не ўмеем мы вучыцца на ўласных памылках...

**В. АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Амерыканскія школьнікі ў Мінску



На пытанне, якія першыя ўражанні аб Расіі, амерыканскі школьнік Кен Сузукі з горада Портланд адказаў: «Вельмі халодна». Вучні 103-й школы, па запрашэнню якой у Мінск з ЗША прыехалі восем падлеткаў і два выкладчыкі, пастараліся, каб гасцям у Беларусі было цёпла і ўтульна.

Гэта сустрэча савецкіх і амерыканскіх рабят — не першая. У мінулым годзе група пабывала ў ЗША, а амерыканцаў — у нас у рэспубліцы. І вось — новая сустрэча. Два тыдні амерыканскія школьнікі жылі ў сем'ях сваіх савецкіх равеснікаў, знаёміліся з горадам, з культурнымі і гістарычнымі традыцыямі Беларусі. Збіраючыся ў паездку ў СССР, рабяты марылі «пажыць два тыдні так, як савецкія людзі жывуць усё жыццё». І хоць гэта наіўная мара падлеткаў выклікае ўсмешку, сустрэча аказалася ўзаемна карыснай. Яна дапамагла рабятам расшырыць уяўленні аб дзвюх краінах, удасканаліць моўныя навыкі, а, галоўнае, набыць новых сяброў.

Фота В. ТАЛОЧКІ. (БЕЛТА).

# «Кветка Палесся»

Рызыкнуць прыняць удзел у брэсцкім гарадскім конкурсе прыгажосці Анжэліку Мешачко прымусіў яе ўпарты характар. Захацела выпрабаваць сябе, а, магчыма, і самазацвердзіцца. І стала пераможцай. Цяпер яна — міс «Цудоўная кветачка Палесся».

Пяцікурсніца юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта цяпер праходзіць пераддыпломную практыку ў родным горадзе. Яна будучы работнік пракуратуры, яе спецыялізацыя — расследаванне крымінальных спраў.



Э. КАБЯК (БЕЛТА).

## *Сустрэча ў Коласавым доме*

ЧАРГОВЫ літаратурны чацвер у Коласавым доме розніўся з папярэднімі. Тыя прымяркоўваліся, як правіла, да памятных датаў у жыццяпісе песняра. Адбыліся, скажам, вечарыны, прысвечаныя 65-годдзю з часу выхаду ў свет паэмы «Новая зямля», 95-годдзю з дня нараджэння знакамітага прапагандыста коласавай творчасці, брата народнага паэта Іосіфа Міхайлавіча, дзядзькі Юзіка, 45-годдзю з часу заканчэння Вялікай Айчыннай вайны («Якуб Колас — Перамозе»), 100-годдзю з дня нараджэння Марыі Дзмітраўны, жонкі вялікага песняра...

Гэты літаратурны чацвер прысвячаўся лаўрэатам-коласаўцам апошняга «прызыву». Як вядома, за мінулы год імі сталі: Алег Лойка — за раман-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» і Генадзь Кісялёў — за кнігі гісторыка-літаратурных даследаванняў «Адшукваецца класік» і «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча».

Слова пра лаўрэатаў сказалі загадчык кафедры беларускай літаратуры Мінскага педінстытута імя М. Горкага Мікола Мішчанчук і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Уладзімір Мархель. Віноўнікі ўрачыстасці адказалі на пытанні слухачоў.

Шаноўных гасцей павіншавалі з 60-годдзем з дня нараджэння У. Г. Кісялёва. Яно было 19 сакавіка, у А. Лойкі прыпадае на 1 мая. Віншавальнікі — сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч і вучоны сакратар музея Валянціна Курыловіч.

Гэта — першая сустрэча ў Коласавым доме новага цыкла.

**К. СЦЕПАНЮК.**

## *Анонс!*

### БЕЛАРУСКАЯ СТУДЭНЦКАЯ ВЯСНА-91 ГОРАД ВІЦЕБСК, 7—12 МАЯ 1991 ГОДА

Нам здаецца, гэта будзе «крутое» мерапрыемства. Ва ўсялякім выпадку, так сцвярджаюць Ю. М. Прахараў, прэзідэнт асацыяцыі студэнтаў ВНУ Віцебска і В. М. Кірылава, мастацкі кіраўнік І Рэспубліканскага фестывалю студэнтаў.

Асноўная наша мэта,—сцвярджаюць яны,—убачыць, ці сапраўды існуе адраджэнне, аб якім сказана апошнім часам так шмат слоў. Студэнты—стрэлка барометра стану грамадства, і на нашым фестывалі будзе праман магчымасць убачыць, куды схіляецца гэта стрэлка.

У фестывалі будуць удзельнічаць прадстаўнікі студэнцкіх калектываў ВНУ не толькі Беларусі, але і Польшчы, Масквы, Ленінграда і Мурманска. Акрэдытацыя прэсы ў Віцебскім абкоме камсамола.

## *А вы чулі?*

### МЭТАЙ ТЭРАРЫСТАЎ У РАСТОВЕ БЫЎ ГЕНЕРАЛ В. САФОНАЎ

Забіты ў Растове палкоўнік В. Блахоцін быў адной з генерал-маёрам В. Сафонавым камплекцыі. Нумар яго машыны адрозніваўся ад сафонаўскага толькі адной лічбай. В. Блахоцін, у адрозненне ад Сафонава, былшага камендантам раёна надзвычайнага становішча ў Нагорным Карабаху, не зрабіў армянам нічога дрэннага. Так што хутчэй за ўсё, тэрарысты проста памыліліся, — паведаміў загадчык абласнога аддзела па справах бежанцаў Нагорнага Карабаха Лявон Мелік Шахназаран.

Член прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі Арменія Давід Варданян падкрэсліў, што гэты акт — небяспечны сімптом распаўсюджвання нагорнакарабахскай праблемы за межамі вобласці. У Арменіі асуджаюць такія дзеянні.

### РУСКАЯ ХАТА БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА

Як паведамляе ў рубрыцы «Вашынгтонскія чуткі» амерыканскі часопіс «Ю. ЭС. Ньюс Энд Уорлд Рыпорт» ад 22 красавіка 1991 г., Барыс Ельцын, не атрымаўшы ў свой час афіцыйнага запрашэння ад Джорджа Буша на наведванне Белага Дома, можа ў якасці суцяшальнай перспектывы чакаць верасня, калі расійская рэспубліка адкрые неафіцыйнае прадстаўніцтва ў Вашынгтоне.

На мінулым тыдні, — паведамляе часопіс, — амерыканскія прыхільнікі расійскага прэзідэнта выплацілі 700 тысяч долараў за чатырохпавярховы будынак у 1,4 мілі ад тэрыторыі савецкага пасольства. Ён будзе служыць у якасці палітычнага, дзелавога і культурнага цэнтра РСФСР у амерыканскай сталіцы. Прадстаўніцтва, зараз займаемае пасольствам Сенегала, не будзе мець дыпламатычнага статуса, у рэшце рэшт да таго часу, пакуль Расія і Ельцын не атрымаюць афіцыйнага прызнання Белага Дома.

### АХВЯРЫ РЭПРЭСІЙ. ПРАЦЭС АДНАЎЛЕННЯ ПРАЎ ПАСКОРЫЦЦА

У жніўні мінулага года выйшаў Указ Прэзідэнта СССР аб аднаўленні правоў ахвяр палітычных рэпрэсій 20—50-х гадоў. У Магадане, дзе знаходзіцца самы буйны з захаваўшыхся архіў МУС, вызначыўся сур'ёзны зрух у гэтай праблеме. Аблсавет выдзеліў 170 тысяч рублёў на фінансаванне архіўна-інфармацыйнай службы. Куплены ЭВМ, памнажальная тэхніка, з'явілася магчымасць на год наняць 10 дадатковых супрацоўнікаў для архіва. Паводле паведамлення агенцтва «Сібінформ», прэзідыум аблсавета звярнуўся да арганізацый і ведамстваў вобласці з просьбай падзяліць затраты на рэабілітацыю бязвінна пацярпеўшых суграмадзян. Таму што справіцца з такой работай за 1 год немагчыма нават з павялічанымі сіламі.

### ІНДЫЙСКІЯ ПРАСТЫТУТКІ БАЛАЦІРУЮЦЦА Ў ПАРЛАМЕНТ

У Індыі завяршаецца кампанія па вылучэнню кандыдатаў, якія будуць балаціравацца ў канцы мая г. г. на выбранне ў вышэйшы заканадаўчы орган краіны.

На сённяшні дзень ад сталічнай акругі зарэгістравана ўжо 217 кандыдатаў. Паводле паведамленняў прадстаўніка ўлады, сярод іх ёсць дзве вядомыя прастытуткі, вылучаныя ад выбарчай акругі Чандзі Чоук.

Абедзве яны займаюць, як у нас гавораць, высокія грамадскія пасады, з'яўляючыся прэзідэнтам і віцэ-прэзідэнтам Дэлійскага аддзялення Усеіндыйскага добраахвотнага таварыства сацыяльнага забеспячэння, прадстаўляючага інтарэсы больш чым двух мільёнаў прастытутак Індыі.

### ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ З БЕЛГАРАДА

Камерцыйнай дзейнасцю заняўся партыйны архіў Арлоўскага абласнога камітэта КПСС. Ён выконвае заказы ўстаноў і прадпрыемстваў на тыражаванне і мініяцюрызацыю тэкстаў, дакументаў, чарцяжоў.

Рэкламным «цвіком» стала факсімільная сістэма «Старт». Атрыманыя на ёй мікраафішы ўмяшчаюць да 90 машынапісных старонак. Даюць больш як дваццацікратнае памяншэнне ў размерах, што забяспечвае неабмежаванае тыражаванне.

Высокапрадукцыйная тэхніка ставіць партыйны архіў па-за канкурэнцыяй і прыносіць архіварыусам стабільны прыбытак.

### МЫ ДАВЕДВАЕМСЯ АБ ТЫМ, ШТО ВЯДОМА ЎСЯМУ СВЕТУ

У канцы мінулага года ТАСС зняў грыфы «для службовага карыстання» з усіх «закрытых» бюлетэняў і веснікаў, чытачамі якіх былі чыноўнікі ЦК КПСС, КДБ, МЗС і некаторых іншых ведамстваў. Цяпер на гэтыя выданні аб'яўлена свабодная падпіска. Аб гэтым паведаміў газеце «Аргументы і факты» прадстаўнік ТАСС.

Так, бюлетэнь «Мір і СССР» стаў прамым пераемнікам засакрэчанага «Белага ТАСС», які лічыўся ў кіруючых колах «клубнічкай». У «Дасье міжнародных праблем» далучыўся былы закрыты веснік для вышэйшага кіраўніцтва, які друкаваўся ўсяго ў 250 экземплярах.

### ВЫЖЫЦЬ У ВАРКУЦЕ ЦЯЖКА НАВАТ ТАКОМУ «ЗУБРУ», ЯК ЯЦЭК ПАЛКЕВІЧ

ВАРКУТА. Трэніроўкі на выжыванне закончыліся тут для кандыдатаў у касманаўты. Сярод іх — 6 журналістаў. Ва ўмовах Крайняй Поўначы яны «дэсанціраваліся ў касмічным спускаемым апараце» і двое сутак павінны былі абыходзіцца аварыйным запасам і падручнымі сродкамі. Савецкія людзі, як больш звыклыя да цяжкасцей, паспяхова выжылі ў люты мароз, пад ураганным ветрам у адкрытай тундры. А вось вядомаму спецыялісту па выжыванню ў экстрэмальных умовах, дырэктару школы выжывання ў Італіі Яцэку Палкевічу, які спецыяльна прыбыў паспрабаваць свае сілы, прыйшлося цяжка. Тым не менш, летам ён збіраецца прыехаць на новы этап трэніровак кандыдатаў у касманаўты — у гарачыя казахстанскія стэпы.

### ДЗЯКУЙ, В'ЕТНАМЦЫ. АЛЕ ЛЕПШ — НЕ ТРЭБА...

З Белгарадскай вобласці ад'язджаюць на радзіму в'етнамскія рабочыя. Толькі за апошнія некалькі дзён з прамысловага цэнтра Старога Аскола паехала 140 чалавек.

Ініцыятарам выступіў савецкі бок: затраціўшы на навучанне в'етнамцаў амаль 6 тысяч рублёў, прадпрыемствы тым не менш ліквідавалі кантракт і прапанавалі ім паехаць. Прычына — імкненне в'етнамскіх рабочых не працаваць, а займацца спекуляцыяй, што выклікае рэзкае незадавальненне мясцовых жыхароў.

А ці патрэбна нам высокааплачваемая, але малакваліфікаваная рабочая сіла з В'етнама, калі ў краіне ўжо ўзнік атрад людзей, якіх мы далікатна называем «незанятым насельніцтвам»?

(Па матэрыялах ІАН).

**Не так даўно па тэлебачанні паказвалі стары, 50-х гадоў фільм. Зусім невытворчы, меладраматычны сюжэт суправаджаўся ўнушальнай панарамай заводскіх труб з строга паралельнымі доўгімі слупамі дыму над кожнай. У той час, напэўна, усё гэта павінна было сімвалізаваць стойкі дабрабыт, дыхтоўнасць нашага сацыялістычнага жыцця.**

**А сёння мы вымушаны канстатаваць, што нарошчванне эканамічнага патэнцыялу без уліку экалагічных вынікаў не толькі нанесла непапраўны ўрон навакольнаму асяроддзю, але і прыкметна пагоршыла здароўе насельніцтва. У нашай рэспубліцы за апошнія гады адзначаецца тэндэнцыя росту захворваемасці з часовай стратай працаздольнасці, павялічваецца колькасць выпадкаў прафесіянальных захворванняў.**

**Пражыванне ў цэлым радзе гарадоў рэспублікі стала небяспечным для здароўя. Скажам, у Мінску рознай ступені забруджвання шкоднымі рэчывамі падвергнута 96,9 працэнта тэрыторыі. У тым ліку 12,5 тысячы гектараў—а гэта складае 67,2 працэнта — у небяспечнай ступені. Тут сярэднясутачныя гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі шкодных рэчываў перавышаны ў 4—10 разоў.**

**Як жыць, як выжыць у такой без перабольшвання крытычнай сітуацыі?**

**Экалогія і здароўе — тэма нашай гутаркі з галоўным урачом Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР Уладзіславам Генрыхавічам ЖУКОЎСКІМ.**

# ЛЬГОТЫ ўзамен здароўя.

**— Уладзіслаў Генрыхавіч, сёння, здаецца, — дзякуй намаганням вучоных і публіцыстаў — ніхто ўжо благадушна і тым больш замілавана не пазірае на дымячыя заводскія трубы. Слова «экалогія» знаёмае нават дзецям. І тым не менш экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы толькі пагаршаецца.**

— На жаль. І адбываецца гэта таму, што ўсе рашэнні, прынятыя ўрадам па экалагічных праблемах, недастаткова кантраляваліся, недастаткова падтрымліваліся фінансава. Возьмем хоць бы нашу службу, на якую ўскладзены функцыі дзяржаўнага санітарнага нагляду. Мы кіруемся палажэннем, зацверджаным Саветам Міністраў БССР. Але ж гэта не заканадаўчы акт для кіраўнікоў прадпрыемстваў і гаспадарак і юрыдычнай сілы не мае. Не было ў нас і дакладнай дыферэнцыяцыі кантрольных функцый. Я разумею так: Дзяржаўны камітэт па экалогіі павінен вырашаць глабальныя пытанні — забруджванне вадаёмаў, лясоў, глебы, біясферы і г. д. А мы павінны ўжо вывучаць канкрэтны ўплыў неспрыяльных экалагічных фактараў на здароўе людзей.

**Недастаткова развівалася лабараторная база Дзяржкампрыроды, на якую да нядаўняга часу былі ўскладзены абавязкі сачыць за станам навакольнага асяроддзя. Вызначаліся нейкія фонавыя забруджванні па самых элементарных паказчыках. Цяпер Дзяржкампрыроды рэарганізаваны. Наша служба — Дзяржсаннагляду — працуе больш прагрэсіўна, бо дакладней улічвае спецыфіку рэгіёнаў. Але і ў нас дрэнная кантрольная матэрыяльная база. Практычна няма сучаснай, а значыць імпартнай апаратуры, з дапамогай якой толькі і можна вызначыць пэўныя фонавыя канцэнтрацыі.**

**І яшчэ адна, надзвычай важная, на мой погляд, акалічнасць. У развітых краінах Захаду разам з дзяржаўным ажыццяўляецца грамадскі экалагічны кантроль. Там кіраўнік прадпрыемства перыядычна трымае справаздачу: што ім зроблена па ахове навакольнага асяроддзя.**

А вось вам прыклад з нашай рэчаіснасці. Гады два назад мы паставілі пытанне аб прыцягненні да адказнасці кіраўніцтва лаўсанавага завода за невыкананне прыродаахоўных мерапрыемстваў. Але дагэтуль з боку пракуратуры — поўнае маўчанне. І ўсё таму, што экалагічныя патрабаванні не падмацаваны ў заканадаўчым акце.

Зараз мы распрацавалі праект закона аб санітарна-эпідэміялагічнай ахове здароўя грамадзян рэспублікі і аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўства Беларускай ССР. Дакумент гэты ўжо накіраваны для абмеркавання ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў рэспублікі, у аблвыканкомы. У праекце нашым, у прыватнасці, прадугледжана адказнасць кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў за вырашэнне экалагічных праблем — ад штрафаў да зняволення. Інакш з месца нам ніяк не скранучца.

Пакуль жа паспрабавалі мы, скажам, закрыць адзін з цэхаў Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава, у якім асабліва дрэнныя ўмовы працы і які згубна ўплывае на экалогію ў рэгіёне, дык нас ледзь ворагамі народа не абвясцілі. Людзі атрымліваюць даплату за шкоднасць і ім напляваць, што іх вытворчасць атручвае ўсё наваколле, а гэта, між іншым — дзіцячы парк імя Горкага, некалькі дашкольных устаноў, вялікі жылы масіў.

**— Блізарукая абыякавасць нашых суграмадзян да пытанняў свайго ж здароўя часам проста ашаламляе. Старшыня жансавета аднаго з прадпрыемстваў рэспублікі скардзілася мне, што яе намаганні па паляпшэнню ўмоў працы работніц натыкаюцца на супраціўленне... саміх жа работніц. Прычына — усё тая ж славутая даплата за шкоднасць. Да чаго трэба давесці жанчыну, каб прымусіць забыць пра само сваё прызначэнне! Бо здароўе маці — гэта ж здароўе яе дзяцей, цяперашніх і будучых, гэта лёс яе сям'і ў рэшце рэшт.**

— І нас надзвычай хвалююць праблемы працы і быту жанчын. Сёння ў рэспубліцы ва ўмовах, не адпаведных сучасным патрабаванням, працуюць больш як 95 тысяч прадстаўніц «слабага» полу. У асноўным гэта адбываецца на прадпрыемствах машынабудавання, хімічнай і лёгкай прамысловасці, Дзяржаграпрома БССР. Так на льнозаводах апошняга ў шкодных умовах працуюць 55 працэнтаў жанчын — больш паловы! На многіх з гэтых прадпрыемстваў запыленасць паветра на рабочых месцах падвязчыц, сартавальніц, трасільшчыц, закладчыц валакна перавышае дапушчальную канцэнтрацыю ў 6—10 разоў.

Дагэтуль ганебна вялікая для рэспублікі, што лічыць сябе цывілізаванай, і колькасць жанчын, якія заняты ручной працай, працуюць у начныя змены, на цяжкіх фізічных работах (на цагельных заводах, напрыклад, жанчыны пераносяць за змену ад 20 да 40 тон пры норме 7).

У выніку ўздзеяння на жаночы арганізм усяго комплексу неспрыяльных вытворчых умоў зніжаецца яго ўстойлівасць да рознага роду захворванняў. Узровень іх сярод жанчын рэспублікі вышэй на 23,5 працэнта, чым сярод мужчын.

**Зрэшты, і ўмовы працы многіх прадстаўнікоў моцнага полу таксама далёкія ад нармальных: павышаныя ўзроўні шуму, высокая запыленасць і загазаванасць паветра, нездавальняючае тэмпературнае асяроддзе. І што самае крыўднае — састарэлая, недасканалая тэхніка і тэхналогія вытворчасці закладваюцца яшчэ пры праектаванні прадпрыемстваў. Кожны трэці праект, кожнае чацвёртае прадпрыемства, якое сёння ўводзіцца ў эксплуатацыю, кожныя 8 з 10 адзінак выпускаемага абсталявання не адпавядаюць нормам аховы працы.**

**А вынік — прыкметны рост прафесіянальных захворванняў, павелічэнне колькасці выпадкаў часовай непрацаздольнасці.**

Між тым, эканамічныя службы прадпрыемстваў, міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі не валодаюць інфармацыяй аб эканамічным уроне ў выніку пагаршэння стану здароўя працоўных. І па-ранейшаму на нашых заводах і фабрыках замест стварэння здаровых і бяспечных умоў працы перавага аддаецца прадастаўленню льгот і кампенсацый за работу ў шкодных умовах. Калі ў рэспубліцы штогод на паляпшэнне ўмоў працы расходуецца каля 450 мільёнаў рублёў, то на прадастаўленне льгот і кампенсацый — у 2—2,5 раза больш.

**— У многім гэта, напэўна, тлумачыцца агульнай экалагічнай бязграматнасцю. І ўсё ж, думаецца, што датычыць кіраўнікоў, то тут хутчэй мы маем справу са збоямі ў маральнасці, — бо яны ж пераважна людзі дасведчаныя.**

— Не зусім так. Шырокай, грунтоўнай экалагічнай падрыхтоўкі спецыялістаў у нас як не было, так і няма. Даўно ўжо наспеў час у ВНУ тэхнічнага, сельскагаспадарчага, медыцынскага, педагагічнага профілю ўвесці спецкурсы па праблемах экалогіі, а магчыма, нават — і прадмет у сярэдняй школе, з абавязковай здачай па ім выпускнога экзамену.

Хоць, вядома, і маральны аспект, пра які вы гаворыце, скідваць з рахунку нельга. Скажам, амаральна наладжана ў многіх сельскіх гаспадарках ужо само захоўванне ядахімікатаў: у дрэнна абсталяваных памяшканнях, паблізу вадаёмаў. Угнаенні дагэтуль уносяцца без уліку надвор'я — у дождж, і таму забруджваюць студні, рэкі. Нягледзячы на нашу забарону, дагэтуль у некаторых гаспадарках прымяняецца аміячная вада. А хіба не амаральна ўзяць хімікаты з прайшоўшым тэрмінам захоўвання і закапаць на беразе возера?



Ды што казаць, калі мы не можам дабіцца элементарнай добрасумленнасці пры выкарыстанні сродкаў хімічнай абароны раслін. Між тым, ёсць ужо канкрэтныя вынікі эпідэміялагічных даследаванняў Усесаюзнага НДІ гігіены, таксікалогіі, пестыцыдаў, палімерных матэрыялаў і пластычных мас. Яго вучоныя ўстанавілі прамую залежнасць паміж павышаным утрыманнем пестыцыдаў у сельскагаспадарчай прадукцыі і ўзнікненнем такіх захворванняў, як жалезна-дэфіцытная анемія, дзіцячы параліч, халецыстыт, прыродныя анамаліі сэрца і сасудзістага кровазвароту, вірусны гепатыт, грып, неўрозы, псіхапатыя і г. д.

Адзін з важных фактараў, ад якіх залежыць здароўе людзей, — вада. І працэнт нестандартных проб яе ў апошнія гады павысіўся.

Асаблівую трывогу выклікае стан Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Пры яе стварэнні былі распрацаваны і зацверджаны водаахоўныя зоны — яны паўсюль парушаюцца. На іх тэрыторыі працуюць некалькі буйных сельскагаспадарчых ферм. Увогуле з дзіўнай настойлівасцю шмат дзе прыбярэжныя палосы водаахоўных зон рэк выкарыстоўваюцца як ворныя землі (а значыць там прымяняюцца арганічныя і мінеральныя ўгнаенні, ядахімікаты), як летнія лагеры для жывёлы. Гэта супярэчыць усім правілам. Невыпадкова за апошнія пяць гадоў у рэспубліцы зарэгістравана тры водныя ўспышкі вострых кішэчных інфекцый.

**— Уладзіслаў Генрыхавіч, а ці не апасаецеся вы, што пераход да рынку пры нашай цяперашняй маральнасці, абернецца новымі экалагічнымі праблемамі? Асабіста я — апасаюся.**

— Так, экалогія — гэта ў многім фінансавыя сродкі. І не выключана, што некаторыя незадачлівыя гаспадарнікі пачнуць на ёй эканоміць. Скажам, з мэтай зберажэння электраэнергіі адключаць на 3—4 гадзіны ў дзень ачышчальныя збудаванні...

Але, каб працістаяць гэтаму, нам і патрэбны адпаведныя заканадаўчыя акты, пра якія мы гаварылі ў пачатку нашай размовы. Неабходна, вядома, таксама наладзіць экалагічны ўсенавуч насельніцтва, фарміраваць грамадскую думку.

**Ужо цяпер можна сказаць, што кааператыўны рух, стварэнне малых прадпрыемстваў таксама здольныя прыпаднесці нам не надта прыемныя сюрпрызы. Яны самі смела бяруцца за экалагічную ацэнку тэхналогіі вытворчасці. Гэта трэба катэгарычна забараніць: кваліфікаванае заключэнне могуць даць толькі дзяржаўныя санітарныя службы.**

Нямала бяздумнасці пакуль і ў супрацоўніцтве з замежнымі фірмамі. Скажам, купілі ў італьянцаў праект жывёлагадоўчых комплексаў, а пра сістэму ачысткі забыліся. Тое ж самае са скураным заводам у Гатава.

Зараз, калі ўжо купляць за мяжой нейкую тэхналогію, то толькі з вырашанымі экалагічнымі праблемамі.

Увогуле ж нам трэба не баяцца рынку, а вучыцца выкарыстоўваць яго рычагі. Напрыклад, дагэтуль мы не можам забяспечыць нашых дзяцей экалагічна чыстымі прадуктамі. А ўся справа ў тым, што сёння гаспадаркам проста нявыгадна іх вырабляць. Затрат працы, часу яны патрабуюць больш, а на памеры аплаты гэта не адбіваецца аніяк. Значыць, трэба аплату за экалагічна чыстую прадукцыю павялічыць.

Цывілізаванага падыходу патрабуе і ўзгадненне экалагічных праблем паміж рэспублікамі. Дагэтуль, напрыклад, размяшчаючы ў сябе аб'екты са шкоднай вытворчасцю, кожная з іх мала думала пра суседзяў. Але ж паветраная прастора, водныя магістралі межаў не маюць. І сёння пры заключэнні дагавораў аб супрацоўніцтве абавязкова трэба ўнесці ў іх і мерапрыемствы па экалагічнай бяспецы. Катастрофа Арала, катастрофа Чарнобыля даказалі нам гэта.

Але калі ўжо нейкае мерапрыемства запланавана, то яно павінна быць поўнасцю эканамічна пралічана, поўнасцю матэрыяльна забяспечана. Інакш здарыцца тое, што здарылася з рэспубліканскай праграмай «Здароўе», якая так і засталася толькі на паперы. Новыя эканамічныя ўмовы патрабуюць новых, рэалістычных падыходаў.

**Гутарку вяла Галіна ПШОНІК.**



# «Паварот да сталінізму немагчымы...»

**Інтэрв'ю былога эканамічнага саветніка Гарбачова Мікалая Петракова газеце «Цайт» (Германія)**

**«Цайт»:** Спадар прафесар Петракоў, Вы адзін з распрацоўшчыкаў праграмы «500», якая павінна была ў рэкордна кароткі час вывесці Савецкі Саюз да рыначнай эканомікі. Але план не быў прыняты, Вы як саветнік Гарбачова пайшлі ў адстаўку. Ці знаходзіцца цяпер ваша краіна на дарозе назад у планавую гаспадарку?

**Петракоў:** Савецкі Саюз знаходзіцца ў глыбокім крызісе. Рух да рынку запаволіўся...

**Ц.:** Толькі запаволіўся?

**П.:** Але, я веру ў гэта. Эксперымент пабудаваць альтэрнатыву рынку, які працягваўся 70 гадоў, пацярпеў крушэнне.

**Ц.:** Але ж, несумненна, што ў сённяшнім кіраўніцтве дзяржавы сапраўднага рынку ніхто не хоча?

**П.:** Сапраўды, тут Вы маеце рацыю. Але мы прайшлі ўжо той момант, з якога можна было яшчэ вярнуцца назад. Канешне, можна яшчэ супраціўляцца, тармазіць. Але самае галоўнае тое, што людзі, якія хочуць вярнуцца да былой адміністрацыйна-каманднай сістэмы, не змогуць проста накарміць людзей.

**Ц.:** Але гэтыя людзі сцвярджаюць, што змогуць?

**П.:** Гэта як у японскай барацьбе сумо. Паказваюць адзін аднаму свае мускулы. Але часта здараецца, што мускулы напоўнены паветрам. Народ цяпер знясілены ў барацьбе за выжыванне. Яму вельмі часта абяцаюць многа, нічога пры гэтым не выконваючы. 70 гадоў даваліся абяцанні, асабліва за апошнія пяць гадоў.

**Ц.:** Ці ёсць небяспека, што вайскоўцы захопяць уладу?

**П.:** Вядома, могуць генералы захапіць уладу, але яны таксама не змогуць накарміць народ. Пры дапамозе «Калашнікава» нельга напячы хлеба.

**Ц.:** Можаце Вы растлумачыць, чаму ў вашай краіне дэмакратыя і рынак павінны заўсёды абараняцца?

**П.:** Гэта Вас можа здзівіць, але я думаю, што дэмакратычныя сілы хочуць хутчэй прыйсці да ўлады. У нашай краіне няма дэмакратычных традыцый; было некалькі месяцаў у 1917 годзе, але гэты маленькі перыяд быў хутка задушаны бальшавіцкай дыктатурай. Гарбачоў здзейсніў цэлую рэвалюцыю, калі дазволіў людзям сказаць тое, што яны думаюць. Але калі правялі свабодныя выбары, людзі зразумелі, што тое, што яны выбралі, не з'яўляецца дэмакратыяй.

**Ц.:** Народ не хоча дэмакратыі?

**П.:** Я не ведаю, чаго ён хоча. І я думаю, гэта не ведае сам народ. А ведаюць людзі, якія прафесійна займаюцца палітыкай. З часоў Брэжнева меншасць вядзе барацьбу за свабоду слова. І калі гэтая свабода прыйшла, выявіліся ўсе хваробы таталітарнай сістэмы ў выказваннях асобных людзей. Напрыклад, вельмі мала людзей займаліся пытаннем аб правах чалавека, калі грузін лічылі лепшымі за рускіх, рускіх лепшымі за ўкраінцаў і г.д. Пры гэтым можна зразумець, чаму дэмакратычныя сілы стварылі апазіцыю.

**Ц.:** Гэта значыць, стварылі партыю?

**П.:** Ствараюць партыі, распрацоўваюць праграмы, спрабуюць пабудаваць альтэрнатыву каманднай сістэме і самастойна вучацца дэмакратыі. Дэмакраты разумеюць, што далей так жыць мы не можам, але яны і не ведаюць, як мы павінны жыць. Ад новай свабоды яны ап'янелі, як ад віна, і цяпер хочуць любымі сродкамі ўзяць уладу ў свае рукі. Хоць дэмакраты і адмаўляюць бальшавізм, усё часцей яны адносяць сябе да неабальшавізму. Яны не ставяць на чале партыі людзей, якія сапраўды адлюстроўваюць дэмакратычныя сілы, а ставяць тых, хто папулярны ў народзе і стаяць у апазіцыі да сённяшняга кіраўніцтва.

**Ц.:** Вы маеце на ўвазе Б. М. Ельцына?

**П.:** Але. Так стварыўся міф Ельцына. Я яго вельмі паважаю, але не думаю, што ён можа павесці дэмакратычныя сілы за сабой, у першую чаргу з-за свайго інтэлектуальнага патэнцыялу і свайго мінулага.

**Ц.:** Вы пайшлі ў адстаўку, з пасады саветніка Гарбачова. Вашы адносіны да Прэзідэнта і да Ельцына?

**П.:** За год, які працаваў разам з Гарбачовым, уведаў яго вельмі добра. З Ельцыным я гутарыў некалькі разоў. Я перакананы, што Ельцын і Гарбачоў павінны пайсці на кампраміс. Гэта перакананне апіраецца на тое, што яны абодва з аднаго палітычнага «гнязда» і ў 1987 годзе іхнія погляды былі ідэнтычныя. У канцы жніўня 1990 г. яны сустрэліся і доўга гутарылі, засталіся задаволены адзін адным. Але, на жаль, на абодвух баках дастаткова сілы, таму ніхто не хоча збліжацца.

**Ц.:** Чаму, на вашу думку, тармозяцца рэформы?

**П.:** Я думаю, што пазіцыя Гарбачова не зменіцца. Без рэформ, асабліва ў эканоміцы, мы нічога не зробім. Але з верасня мінулага года на яго ўзмацніўся націск з боку кансерватараў. Пры гэтым аб'ядналіся тры сілы: ваенна-прамысловы комплекс, чырвоныя памешчыкі — дырэктары саўгасаў і старшыні калгасаў і ўсе звязаныя з партапаратам. Дзейсная сіла належыць першым дзвюм групоўкам, якія маюць за сабой мільённую армію рабочых і сельскагаспадарчую прадукцыю. Партыйныя функцыянеры акрамя балбатні нічога не могуць прапанаваць. Толькі з гэтымі сіламі можна займацца сапраўднай палітыкай. Як вы ведаеце, у мінулым годзе мы сабралі неблагі ўраджай. І дзе ён? Гэта нельга назваць інакш, як эканамічны сабатаж.

**Ц.:** Вы лічыце, што Гарбачоў на 100 працэнтаў гатовы да ўвядзення рыначнай эканомікі і прыватнай уласнасці?

**П.:** Гарбачоў часткова з'яўляецца палонным ідэалагічных стэрэатыпаў, але што датычыцца дэмакратычных пераўтварэнняў, то ён тут адкрыты для ўсяго.

**Ц.:** Як Вы лічыце, якія першыя крокі павінны быць па дарозе да рынку?

**П.:** Дзве рэчы: прыватызацыя і грашовая стабілізацыя. Для гэтага мы павінны стварыць умовы для канкурэнцыі. Без канкурэнцыі няма рынку, але рынак і без сапраўдных грошай не будзе дзейнічаць. Зямля павінна быць аддадзена сялянам, калі яны гэтага хочуць. Гандаль, служба быту і маленькія прадпрыемствы павінны прыватызавацца. Патрэбна таксама ператварыць вялікія прадпрыемствы ў акцыянерныя таварыствы. І пусціць у краіну замежны капітал.

**Ц.:** Адна з прычын «ледніковага перыяду» перабудовы — нацыянальнае пытанне. Ці ёсць у Вас рэцэпт па вырашэнню яго?

**П.:** Але, я маю такі рэцэпт. У нашай праграме «500» мы прапаноўвалі эканамічныя саюзы паміж рэспублікамі.

**Ц.:** Пад эканамічным саюзам Вы маеце на ўвазе і валютны саюз.

**П.:** Так. Мы прапаноўваем адзіную банкаўскую сістэму, адзіную валюту, нам патрэбна эканамічная прастора са свабодным абарачэннем капіталу.

**Ц.:** А калі, напрыклад, Літва захоча выйсці з гэтага саюза?

**П.:** Калі Літва хоча мець палітычную незалежнасць, калі ласка. У эканамічных пытаннях літоўцы нас не пакінуць. Таварамі экспарту ў іх з'яўляюцца свініна і бульба, якія яны пастаўляюць толькі на Усход, бо Захад ужо насыціўся.

**Ц.:** Вы хочаце стварыць саюз па тыпу Еўрапейскага супольніцтва?

**П.:** Так. Не патрэбна яшчэ раз вынаходзіць веласіпед. Я лічу, што адносіны паміж рэспублікамі выйдуць з тупіка тады, калі гэтыя адносіны будуць раўнапраўнымі.

**Ц.:** І апошняе пытанне: як Вы лічыце, што чакае краіну ў будучым?

**П.:** Эканамічнае палажэнне будзе пагаршацца далей. Урад знаходзіцца ў цісках ваенна-прамысловага комплексу і папулістаў. Трэба чакаць эканамічных і палітычных забастовак па ўсёй краіне. Але дзесьці ў сярэдзіне года мы павінны цвёрда стаць на ногі. Настрадамус прадказаў, што бяда для Расіі прадоўжыцца 73 гады і 7 месяцаў. Возьмем 1917 год за пачатак, тады «ледніковы перыяд» павінен закончыцца ў маі гэтага года. Больш дакладным прагноз не можа быць.

## *Кампрэс—навіны*

### 15 ПРАЦЭНТАЎ — ЧАЯВЫХ

Грошы падлік любяць — гэтую вядомую ўсім ісціну на ўласным прыкладзе пацвердзілі віцябчане. Яны паспрабавалі адказаць на пытанне «5 працэнтаў — гэта мала»? І вынікі аказаліся ўражальныя. Усяго за адзін месяц, люты, жыхары Віцебска выплацілі ні за што, так званых «прэзідэнцкіх», 1652000 рублёў. З іх 496000 былі пералічаны на матэрыяльную падтрымку «старэйшага брата» ў Маскву, 826000 — у рэспубліканскі бюджэт і ўсяго 330000 засталіся на патрэбу горада і вобласці. Думаю, было б цікава даведацца, колькі за першыя некалькі месяцаў сабрала рэспубліка і якая агульная сума пералічаных на Маскву «халяўных» грошай.

### «ХТО КАПАЦЬ БЕЛАМОРКАНАЛ!»

Гарадскі цэнтр па працаўладкаванню г. Гродна заносіць у свае спісы штомесяц ад 1200 да 2000 чалавек, што нідзе не працуюць. Лічба гэта павялічваецца з кожным днём. Калі ўлічыць плануемае «рыначнае» скарачэнне штатаў і, магчыма, увогуле закрыццё некаторых заводаў і прадпрыемстваў, то становіцца зразумелым, што і нам ніяк не пазбавіцца «язваў» капіталістычнага грамадства і яго вытворчасці. Пакуль жа, паводле меркаванняў незалежных экспертаў, да канца года ў Гродна будзе налічвацца да 13 тысяч беспрацоўных. Дзе шукаць новыя працоўныя месцы, ці будзе выплачвацца грашовая дапамога беспрацоўным і колькі — гэтыя і шмат іншых пытанняў у хуткім часе павіснуць дамоклавым мечам не толькі над Гародняй, але і над усёй рэспублікай.

### Я ДРУГОЙ ТАКОЙ СТРАНЫ НЕ ЗНАЮ...

З гэтага можна было б смяяцца, калі б усё ж не было так сумна. Факт гэты можна з поўным правам аднесці да навінак сацыялістычнай эканомікі — кожнаму, хто не пашкадуе 400 грамаў сваёй крыві, будзе выдадзены талон на пакупку пары абутку «Белвест». У горадзе Сянно ўжо 300 чалавек атрымалі такую магчымасць. Добрая рэклама абутковай фабрыкі — нічога не скажаш.

### ЛЕПШ БЫЦЬ БАГАТЫМ І СВАБОДНЫМ

Не так даўно на гродзенскім аб'яднанні «Хваля» прайшла канферэнцыя, на якой абмяркоўвалася надзённае пытанне — аб прыватызацыі прадпрыемства. Значная большасць супрацоўнікаў, праявіўшы, здавалася, страчанае ўжо пачуццё ўласніка, пажадалі валодаць акцыямі, стаць рэальнымі гаспадарамі, атрымаць магчымасць быць вынесенымі «Хваляй» да берага матэрыяльнай забяспечанасці. Аднак канчатковага рашэння вынесена не было. Час бы ўжо і Вярхоўнаму Савету падумаць над пытаннямі прыватызацыі. Бо ці ж можна стаць незалежнымі палітычна, будучы эканамічнымі рабамі сістэмы?

### ПРЫЙДЗЕ БАРЫН — НАС РАССУДЗІЦЬ

У Мінску пабывала дэлегацыя інвестыцыйнага фонду. Галоўнае пытанне, пастаўленае на абмеркаванне, — аб магчымасці стварэння ў сталіцы Беларускай незалежнай Савецкай рэспублікі завода па выпуску легкавых аўтамабіляў. Канчатковага «барскага» вердыкту вынесена пакуль што не было, і мы чакаем і спадзяёмся: няўжо і ў беларусаў будзе свая малалітражка, якая-небудзь «Свіслач», альбо «Мінчук»? Вось толькі адно турбуе — няўжо мы свае пытанні на ўзроўні іх пастаноўкі і то не можам вырашыць самі? Ці, нават калі вядома, што машына патрэбна і ёсць магчымасць яе выпускаць, па-ранейшаму патрэбны «вышэйшы дазвол»?

### ДЗЯРЖАГРАПРОМ НЕ ПАПЯРЭДЖВАЕ

Як ні ваявала наша кіраўніцтва з п'янствам, а перамагчы яго так і не змагло. Але, відаць, вырашылі пагуляць на слабасці людской і атрымаць дадатковы прыбытак. За мінулы год ад продажу алкагольных вырабаў дзяржава атрымала ўсяго 50.760 млрд. рублёў. Кожны ведае, колькі каштуе бутэлька віна або гарэлкі. Нагадваць — толькі раны церабіць. Але, думаю, не кожны ведае, у колькі абыходзіцца Дзяржаграпрому вытворчасць гэтай атруты (ці мо лекаў для душы, як каму), яе сабекошт. А звесткі гэтыя вельмі цікавыя. Вось яны: сабекошт літра гарэлкі — 40 кап., віна — 1 рубель 30 кап., каньяку — 5 руб. 50 кап., шампанскага — 1 руб. 60. Як бачым, лічбы далёка не тыя, што на прылаўку. У адрозненне ад Міністэрства аховы здароўя Дзяржаграпром ні аб чым не папярэджвае.



Гэты невялічкі матэрыял, што прапануецца вашай увазе ніжэй, вельмі мяне здзівіў і прымусіў задумацца. Але не сваімі пракамуністычнымі настроямі. Людзей такіх я сустракаў даволі шмат і лічу, што існаванне іх нармальна і апраўдана. Створана ж у Расіі асацыяцыя (ці партыя, не ведаю дакладна) аднадумцаў Ніны Андрэевай. Чаму ж і ў Беларусі не можа быць яе прыхільнікаў? Уразіла яго няўхільная ўпэўненасць у тым, што былі б мы пад крылом кіруючай і накіроўваючай і трымаліся паводдаль ад «непрадуманай перабудовы» — усё было б «ажур». Дзесьці ў глыбіні душы я іх, такіх людзей, разумею. Ды й, як кажуць, «рэдакцыя друкуе і матэрыялы, пункт погляду аўтараў якіх не падзяляе». Кожная думка мае права на жыццё. Толькі не трэба навязваць яе іншым. Таму хай кожны робіць свае высновы.

# Небяспечная двудушнасць...

ГІСТОРЫЯ развіцця чалавечага грамадства пераканаўча сведчыць аб тым, што ва ўсе часы і ва ўсіх дзяржавах, да якой бы сістэмы яны ні адносіліся, прыход да ўлады некампетэнтных асоб прыводзіў да дэстабілізацыі эканомікі, прыводзіў яе ў крызісны стан. І выправіць гэта становішча такія вось «прышэльцы» стараліся шляхам абрабавання народных мас. Вось і мы з вамі, дарагія суграмадзяне, паверылі нашым прэтэндэнтам у дэпутаты, у іх гучныя фразы і абяцанні, што яны будуць выказваць нашу волю і абараняць нашы інтарэсы, і аказаліся ля разбітага карыта замест прававой дзяржавы.

Якраз з часу выбараў народных дэпутатаў СССР, утварэння новай дзяржаўнай структуры — З'езда народных дэпутатаў СССР — КПСС практычна адышла ад кіраўніцтва эканомікай краіны, перадаўшы свае ранейшыя функцыі нашым выбраннікам і Саветам. Менавіта з таго часу і пачаўся працэс спаўзання нашай краіны ў балота эканамічнага крызісу на аснове сацыяльна - палітычных узрушэнняў. Нашы «прышэльцы» разумеюць нешта ў эканоміцы і кіраванні ёю, у дзяржаўных справах і псіхалогіі чалавека, як я ў медыцыне. І свой прыход да ўлады яны звязалі з барацьбой за ўладу і прывілеі, забыўшыся аб сваіх абяцаннях працоўным. Але і сёння яны сваю некампетэнтнасць і ідэйна-маральную нясталасць адносяць на рахунак КПСС. І трэба адзначыць, што пакуль ім удаецца такім непрыгожым метадам падманваць сваіх выбаршчыкаў.

Але кожны разважлівы чалавек пагодзіцца з тым, што пасля XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС і ўзнікнення З'езда народных дэпутатаў СССР і РСФСР партыйныя органы адышлі ад усёй эканамічнай работы, перадаўшы стырно ўлады кіравання эканомікай і народнагаспадарчым комплексам народным дэпутатам. І можна сказаць, што **з таго часу, калі мы выгналі з ЦК КПСС мудрых камуністаў з вялікім жыццёвым вопытам, якія выступалі супраць «непрадуманай перабудовы», адправіўшы іх на пенсію, пачаўся працэс самаўхілення партыі ад кіраўніцтва і развіцця сацыяльна-палітычнага і эканамічнага крызісу.**

Дэстабілізацыя эканомікі, няўпэўненасць грамадзян у заўтрашнім дні ніколі і нідзе не садзейнічалі «павелічэнню вытворчасці тавараў народнага спажывання». Заўсёды з імі быў звязаны працэс зніжэння прадукцыйнасці працы, і гэта пераканаўча пацвярджаецца нашай рэчаіснасцю. Мы даём сціплыя лічбы аб прадукцыйнасці працы ў СССР у 1990 г. А на справе трэць рабочага або вытворчага часу нашы прадпрыемствы і арганізацыі прастойвалі, а значыць, трэць прадукцыі мы недадалі ў мінулым годзе і выплацілі трэць незаробленай заработнай платы за вымушаныя прастоі. Але калі мы дрэнна працавалі ў 1990 г., то яшчэ горш пачалі 1991 год. Нашых жа **народных выбраннікаў гэта не хвалюе і яны вядуць барацьбу за ўладу, за дзяржаўныя «партфелі»,** забыўшыся пра свае абяцанні райскага жыцця на зямлі.

Нельга пагадзіцца і з тым, што «ў мэтах барацьбы са спекуляцыяй і ценявой эканомікай» ажыццяўляецца рэформа рознічных цэн. Якраз, наадварот, рэформа рознічных цэн абумовіла проста ўспышку спекуляцыі на ўсіх узроўнях — ад дзяржавы да самага маральна нядобрасумленнага яго індывіда. І б'е яна больш за ўсё па кішэні самых сумленных людзей нашага грамадства, самых малазабяспечаных членаў яго: падлеткаў, студэнтаў, іх бацькоў. З часу з'яўлення думкі аб неабходнасці правядзення рэформы цэн самая несумленная частка нашага грамадства, магнаты ценявой эканомікі, г. зн. спекулянты ўсіх узроўняў, запрацавалі на поўную сілу: скуплялі тавары і хавалі іх да ажыццяўлення ценявой эканомікі. У той час, калі працаўнікі нашага грамадства стаялі ля станкоў і добрасумленна выконвалі свой грамадскі і вытворчы абавязак, спекулянты ўсіх масцей за іх кошт нажываліся з дапамогай недальнабачнай палітыкі нашых выбраннікаў-кіраўнікоў.

Пераканаы ў тым, што кожны думаючы чалавек згодзіцца з тым, што і ўсе словы аб мэтах рэформы цэн нельга інакш успрымаць, як спекуляцыю на даверы народных мас, як двудушнасць.

**Міхал ЛЯШКО,**
**юрыст, кандыдат гістарычных навук.**

## *Кампрэс-навіны*

**Кожны новы дзень эканамічнага жыцця нашай шматпакутнай Радзімы прыносіць новыя звесткі — рэформы і прынятыя законы, абмены і забастоўкі, падаткі і мітынгі пратэстаў, абяцанні прэм'ер-міністра Паўлава і чарговыя падаражэнні. Як разабрацца ва ўсёй гэтай каламуці падзей!! Тым больш, калі «Чырвонка» стала штотыднёвікам і не можа аператыўна адгукнуцца на нечаканы ўсплеск народнага абурэння і раптоўныя рашэнні кабінета прэм'ер-міністра. Але па магчымасці «ЧЗ» будзе рабіць гэта, ды й, наколькі вы заўважылі, робіць. Самыя надзённыя эканамічныя праблемы і пытанні знаходзяць сваё адлюстраванне пад рубрыкай «Эканоміка». А каб нам было лягчэй працаваць, а вам цікавей чытаць нашу газету, дасылайце свае лісты з думкамі і матэрыяламі, звесткамі і паведамленнямі, звоніце па тэлефоне 32-13-04.**

### ПАШКАДУЙЦЕ ДЗЯДУЛЮ ІЛЬІЧА

Заідэалагізаванасць нашага грамадства праяўляецца на кожным кроку. І мы да такой ступені звыкліся з ёю, што нават не звяртаем увагі на ўсе гэтыя лозунгі, транспаранты і помнікі заснавальнікам і героям рэвалюцыі. Упэўнены, што калі б у адну цудоўную і таемную ноч зняць слязлівы заклік невядомых ідыёлагаў да светлай будучыні, узбоч якога вы кожную раніцу ідзяце на работу, то гэта так і засталося б незаўважаным. Вось з помнікамі складаней, іх заўважаеш хоць бы таму, што даводзіцца іх абыходзіць. І таму «мастацкія» эксперыменты над удасканальваннем вобраза Ільіча, прадпрынятыя невядомымі ў г. Іўе, не засталіся незаўважанымі мясцовымі жыхарамі і, у асобку, старшынёй Савета мясцовых ветэранаў. Што ж адбылося ў ціхім і спакойным Іўі? Галоўнаму рэвалюцыянеру адбілі нос. Не будзем унікаць у складаныя маральна-ідэалагічныя і патрыятычныя пытанні адбыўшагася гвалту. Сённяшні дзень унёс свае карэктывы і ў гэты аспект нашага жыцця. Няхай кожны вырашае гэта для сябе. «Кампрэс-навіны» больш цікавіць эканамічны бок «мастацкіх» памкненняў невядомых ворагаў рэвалюцыйнай гісторыі і архітэктурных помнікаў і ўпрыгожванняў Іўя. Гарвыканкомам было выдзелена некалькі дзесяткаў тысяч (па некаторых звестках 100 тысяч) рублёў галоўнаму архітэктару раёна Варанюку на набыццё аднаго з дэманціраваных у суседняй Літве помнікаў Ульянаву. Як чалавек, я магу па-рознаму ставіцца да таго, што адбылося,— на тое маю права. А вось як аглядальнік па эканоміцы... ну, а пакуль што Ільіч пастаіць з прыклееным носам.



### ДЫХАЙЦЕ ГЛЫБЕЙ — БУДЗЕ ЯШЧЭ ГОРШ...

Улічваючы рост кошту на тавары ў студзені—лютым і Закона БССР аб індэксацыі, пяціпрацэнтны падатак і іншую трасцу, грашовы мінімум, неабходны для таго, каб хоць якнебудзь выжыць у барацьбе за перамогу і г. д., пабольшаў і дасягае на сённяшні дзень 139 рублёў. Нармалёва? Рухаем далей?

### А НАРОДЫ ТАНЧАЦЬ І СПЯВАЮЦЬ

З вялікім задавальненнем паведамляю, што ў сувязі з новымі цэнамі больш не бярэцца 5-працэнтны падатак з продажу прадуктаў дзіцячага харчавання, мяса і мясапрадуктаў, акрамя далікатэсаў (хоць на сённяшні дзень усе мясапрадукты —далікатэсы), малака і малочных прадуктаў, хлеба і хлебавырабаў, круп, мукі, макаронных вырабаў, яец, цукру, солі, нехарчовых дзіцячых тавараў, эксплуатацыі жылфонду і інтэрнатаў, на ўтрыманне дзяцей у дашкольных установах. Дзякуй сардэчны, дзядзечку прэм'ер-міністру БССР В. Кебічу.

### КАМСАМОЛ: ПА ЧЫМ ПАПУЛЯРНАСЦЬ...

Адмовіўшыся ад ідэй выхоўваць савецкую моладзь «у духу і г. д.»... камсамол вырашыў заняцца больш наяўнай і плённай працай. Накірунак гэты падтрымлівае і камітэт камсамола завода «Спадарожнік» г. Маладзечна. У памяшканні інтэрната радыёзавода па вуліцы імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка распачало сваю работу маладзёжнае відэакафэ. Таму, хто жадае наведаць сеанс, не трэба набываць квіток: камсамольская арганізацыя фінансуе кафэ, таму членаў ВЛКСМ прапускаюць у першую чаргу і бясплатна. А калі ў зале застаюцца вольныя месцы, то прапускаюць і, як сказаў Іван Клімовіч, сакратар камітэта камсамола радыёзавода, і «спачуваючых». Праўда, Іван сцвярджае, што юнакі і дзяўчаты не паказваюць ля ўвахода ў кафэ як візітку камсамольскія білеты — сваіх, заводскіх камсамольцаў добра ведаюць у твар. Справа, што распачаў камітэт камсамола, вельмі добрая і карысная. Толькі няўжо на такім вялікім заводзе так мала камсамольцаў, што іх ведаюць пайменна і ў твар?

Малюнкі да «эканомікі» маляваў Віктар ДУБОВІК.




**Старонку падрыхтаваў аглядальнік «ЧЗ» па пытаннях эканомікі Зміцер ЛУКАШУК.**



# І гдзе мы ня будзем — цябе не забудзем, Любімы наш край

## Споведзь жанчыны, якая ад 4 мая 1986 года не жыве ў роднай вёсцы

— Ой, сумна мне было ў той год, як сюды пераехала. Ой, тужліва! Пайду да хлява, зірну ў тэй бок, дзе родная старонка, паплачу. Пайду на гародчык, лягу на зямлю, паляжу, паплачу... Не знаходзіла месца анідзе. Пабуду-пабуду ў хаце, выходжаю на двор, а людцы ж усе на рабоце. Памардавалася я гэтак колькі часу, памучылася, ды і ўзяла гектар лёну...

**У Марыі Ігнатаўны Удод адабралі радзіму, родную вёску. Пажылая жанчына, перажыўшая нямецкую навалу, пакутуе цяпер ад інтэрвенцыі айчыннага паходжання. Марыя Ігнатаўна адная з тых, каго вывозілі-эвакуіравалі на тры тыдні. На тры тыдні, якія паступова, з бюракратычнай мужнасцю, ператвараліся пазней у «100—200 гадоў». Але аднавяскоўцам Марыі Ігнатаўны, відаць, нестае цярплівасці чакаць стагоддзі, і яны рознымі шляхамі, з розных куткоў краіны ўсё ж такі прабіраюцца за калючы дрот, у родныя Чыкалавічы. Гэта здараецца раз у год, на вясеннія дзяды.**

### Радаўніца

— Дазвол на тое, каб трапіць у зону, трэ было браць у Хойніках,—**распачынае аповед мая субяседніца і працягвае:** —Узялі мы патрэбныя паперы і паехалі на зяцевай машыне туды, дзе я чатыры гады не начавала... Едзем паўз безгаспадарчыя палеткі, апусцелыя паселішчы, едзем і мяркуем: а хто яшчэ, акрамя нас, у Чыкалавічы завітае? Прыязджаем і рады сваім вачам не далі. Вакол могілак столькі людзей завіхаецца! Усе чыкалаўскія паз'язджаліся. Было багата аўтобусаў, і трактарамі папрыязджалі, і на свойскіх машынах шмат каго было. Здаецца, семнаццаць легкавых машын...

Адтуля мы накіраваліся ў вёску. А яе, ну, не пазнаць. Глеба ўсюды дзікамі перакапана, па-над школай нейкія незнаёмыя пабудовы. Дык мая дачка кажа: «Мама, ты не ўгадала? Гэта ж казармы ліквідатараў». Не, кажу, донька, я ўжо тут не жыла, калі сюды вайскоўцаў нагналі. Едзем далей, а адной вуліцы наогул няма. Спалена.

Пад'ехалі да сваёй хаты, бульняком усё пазарастала, хаты чэзнуць, гніюць, проста падаюць ніц. Усё адкрыта, вокны пабіты. Заходзім мы ў хату, а й там нічога не пазнаць. Уся мэбля пааблівана нейкімі хімікатамі. Тры ложкі ў вялікай хаце было, дык яны на сваіх месцах і стаяць, а вось коўдры ды падушкі на ніты з пер'ем растрыбушаны. Цяпер мышы на маіх ложках спяць. Што там мышы! У адной з хат ваўчыца логава зрабіла ды акацілася.

Шэсць мяхоў жыта пакінула я ў 86-м, калі ўязджала. Нямашака ані жыта, ані мяхоў. А вось граблі свае любімыя я знайшла. І забрала з сабою. Яны мне ўсе гэныя гады сніліся. Я нават вырашыла: паеду забяру. Мае граблі і прыгожыя, і зручныя. А тут як зробяць! Грабільна неачэсанае, ніякае... Падрэзалі мы крыху дзяржанне ды і паклалі граблі ў багажнік машыны.

Яшчэ я хацела абразы вывезці. Дарэмна. Адную ікону хтосьці разбіў, а другую зусім знеслі.

Злазіла ў склеп, дзе ў мяне розныя слоікі ды бутылі стаялі. Дачка пытаецца: «Хіба ты, мама, з гэтага шклянога хламу што-небудзь скарыстаеш?» А я кажу: ды не, донька, проста цікава паглядзець на свае закаткі.

Сада майго таксама не ўгадаць. У мяне ірга была і шаўкавіца была, слівы і вішні таксама. Нават некалькі абрыкосавых дрэў у садзе расло. Не такім цветам цяпер усё цвіце. Іначай цвіце. Пазанывалі пладовыя дрэвы. Дзядоўнік — вышэй за хату. З траўня 86-га года ніхто яго не касіў.

### Як яно было ў 86-м

**Аб аварыі на станцыі жыхары Чыкалавічаў і іншых суседніх вёсак даведаліся не з газет, не з радыё, а вуснаў сваіх аднавяскоўцаў. Многія з іх працавалі на ЧАЭС ці ў горадзе Прыпяць энергетыкамі, пажарнымі, міліцыянерамі і інш. Многія з іх атрымалі ў Прыпяці дзяржаўныя кватэры і жылі там дабро нажывалі. Але на святы ці ў адпачынак прыязджалі ўсё ж такі на радзіму, да якой і было ўсяго 18 кіламетраў, альбо чатыры чыгуначныя прыпынкі: Прыпяць, Зімовішча, Пасудава і Калыбань.**

**Вось і Марыя Ігнатаўна даведалася аб аварыі ад свайго стрыечнага ўнука Сашкі, які працаваў у Прыпяці энергетыкам, але праводзіў свой красавіцкі адпачынак у роднай вёсцы.**

— Толькі паехаў Сашка ў Прыпяць, 28 яму было трэба на работу выходзіць, ды, гляджу, ён зноўку па вёсцы ходзіць. Пытаюся: чаго ты тут? А ён адказвае: «Работа мне пакуль не належыць, на 4-м энергаблоку аварыя атрымалася». А сам ён на другім блоку рабіў. Дык вось усіх прыпятчан на Украіну эвакуіравалі, а ён жа беларус, таму да нас прыехаў. І жыў з намі, пакуль нашу вёску ў Мікулічы не «запрасілі».

У тыя травеньскія дні надвор'е стаяла цудоўнае, сонечнае. Усе мы сеялі свае соткі і нічога такога не адчувалі. Мужыкі нават жартавалі: «Гэта не вайна, не журыцеся, бабы! Вайна — дык страляюць, а гэта што, а ні паху, а ні водару! Да апошняга дня працавалі мы ў калгасе, бульбу ў сеялкі засыпалі. Усё смяёмся, як старшыня прыязджае, ды з дазіметрам нас правярае. Я ў паўкедах працавала, кажу старшыні, каб праверыў мой абутак. «Не, Марыя—кажа,—нічога ў цябе няма, зусім мала: 0,5». А што такое «нуль-пяць» — хто яго ведае? Праўда, у аднаго шафёра нашага на галаве шмат радыяцыі вынайшаў. А ў паштальёнкі нашай, дык і рыска зашкаліла. Паштарка тая за апошнія гады зрабілася такая здаравенная, тоўстая, раздзьмула яе. Відаць, ад радыяцыі... А яшчэ самалётаў у небе значна пабольшала. Раней адзін-два за дзень пралунаюць, а цяпер толькі запар штук семнаццаць праімчыць. Ды з нейкімі палкамі на старану. Мабыць, радыяцыю гэтымі «палкамі» замяралі? Ці агонь тушыць ляцелі? А яшчэ ўначы праз Чыкалавічы пажарныя машыны пачалі ездзіць. А тут адна мая знаёмая з Украіны прыходзіць да мяне па лямпачку і расказвае, што бліжэйшыя да Чарнобыля ўкраінскія вёскі ўжо вывозяць. Вось і ўсё, што мы ведалі пра тую аварыю.

### 4-га мая

з расна да нас нейкія начальнікі прыехалі і з калгасным актывам у праўленне накіраваліся. Да раніцы ўжо ўся вёска ведала, аб чым яны там гутарылі, людскае радыё паведаміла: вывозіць нас будуць. А мне ніхто не сказаў, баяліся, што не засну.

І вось раніцай выходжаю карову падаіць, а суседкі ўжо на вуліцы стаяць. Я пытаюся: ці вы ўжо падаілі? А яны адказваюць: «Дой і ты, Марыя, бо будзем эвакуіравацца. Першых цялят адводзім, а пасля кароў». Пайшла я, падаіла сваю Мурашку, выліла вядро малака пад плот, ды адвяла яе ў кашару. Потым завяла цялят, пагрузіла на скатавоз парсючкоў і вяртаюся да хаты — прадукты ў дарогу збіраць. Падыходжаю да свайго двара, а побач ужо аўтобусы стаяць, людзі рэчы пераносяць. Аўтобуснікі ў карты гуляюць.

У мяне было семнаццаць курэй, дык я вядро яец наклала. Ды іншых прадуктаў розных назапасіла — да Вялікдня ж рыхтавалася... Хлопцы, кажу аўтобуснікам, хадземце ў хату паснедаць. Накарміла я іх, дала на вячэру дзве пляшкі... І мы паехалі...

### Прыехалі

спачатку ў Мікулічы. Там усе нашыя людзі і худоба першыя дзесяць дзён знаходзіліся. А я да дачкі ў Зашчоб'е падалася. Вяртаюся да аднавяскоўцаў праз некаторы час, а сястра і кажа:



— Я тваю карову прадала дзяржаве. У яе хутка малако па-за скураю пайшло б. Карова дабрэнная, а даіць яе ніхто не хоча, каб на двор малако выліваць. Я табе яе не пакажу. Бо ты зусім нядужая і Мурашка — за табою, дык вы ўдвох там паляжаце.

У Мікулічах чыкалаўскія шмат часу не затрымліваліся. Цяпер там жыве толькі два нашыя чалавекі. Ды і Мікулічы тыя высяляць збіраюцца. Большасць нашых пераехала ў Акцябрскі раён, у Валасовічы. Мая самая любімая суседка ў Крамянчуг да дзяцей паехала. І на Украіне шмат каго засталося, некаторыя ў Кіеве прабываюць.

### На новым месцы

**Першыя два гады Марыя Ігнатаўна жыла ў зяцевай кватэры, а як унучка пайшла замуж, то тут ужо жылплошчы перастала хапаць. Вырашыла Марыя Ігнатаўна аддзяліцца ад дачкі з зяцем і пачала клапаціцца аб сваім кутку. Кватэру, аднапакаёвую, з газавай плітой і цэнтральным ацяпленнем атрымала хутка. Можа дапамагла ўплывовасць дачкі, якая працавала тады парторгам саўгаса, а мо і так усё само сабой наладзілася, так што жыве цяпер Марыя Ігнатаўна як у Бога за пазухай, на адной вуліцы з дзецьмі і ўнукамі, у кватэры гарадскога тыпу, у вёсцы, якую з маленькім гарадком параўнаць можна. За свойскую жывёлу і за гаспадарчыя пабудовы, што засталіся на Брагіншчыне, яна атрымала вялікую кампенсацыю, недзе каля 7 тысяч рублёў.**

**І ўсё было б добра, ды няма святаў на душы. Запрашаюць яе новыя сяброўкі ў вясковы хор, а яна аднекваецца: не цягне мяне на песні, не пяецца мне.**

— Не, дома так сабе я і спяваю, і плачу, але ісці выступаць сорамна мне. Жанчыны з вясковага хору запрашалі некалькі разоў, кажуць: мы адну тваю песню выступаем, «Север» завецца, хадзем з намі спяваць. Вам, адказваю, весела жыць на свеце, а ў мяне, кажу, проста замірае цела... Не находзіла месца нідзе. Пакуль работу не ўзяла. Аднойчы Шура кажа: «Хто хоча працаваць?» Я кажу, што інцерасуюся лёнам. «Дык няхай Кірылаўна адмерае гектар». Зрання дачка пакіне мяне на полі, а ўвечары прыязджала дапамагаць. Там і людзі лён бралі, дык мне не так сумна было. Спярва і абедаць не садзілася. Да змерку, пакуль не сцямняло, на полі й жыла. Зарабіла я 140 рублёў. А тады далі даплаты зноў 140, а тады трынаццатую падкінулі... Весялей стала жыць. З суседзямі перазнаёмілася. Калі Кандрацюкі і Зельманы са мной жылі — азарней было. Ды яны з'ехалі. Цяпер у мяне засталася толькі адна блізкая сяброўка — Караткевіч Праскоўя Сцяпанаўна, на НПС «Зашчоб'е» жыве. Як далі мне гэтую «халупку», дык яна да мяне прыйшла, прынесла і кубачкі, і імбрычак для чаю, прынесла капу, хусткі. Я кажу: Сцяпанаўна, на што яно мне. Я ж ка ў дачкі магу ўзяць, што захачу...

**Праскоўя Сцяпанаўна — былая партызанка, шмат гора ў вайну пабачыла. Вось таму, пэўна, і ўспрыняла боль перасяленкі як свой. Зусім іншыя эмоцыі выклікаюць «забруджаныя навалокі» ў чыстых раёнах Беларусі, куды тыя пераязджаюць паасобку ці сем'ямі, ці нават калгасамі. Там іх нярэдка сустракаюць як чужынцаў, як іншаземцаў, як прывілеяваных канкурэнтаў на жылплошчу, як на «разносчыкаў нуклідаў». Можа таму і абвастраецца ў перасяленцаў пачуццё радзімы, боль за родны кут. Можа таму і загадваюць пажылыя людзі, каб іх везлі хаваць на родныя клады, у зону.**

### Замест эпілога

**Калі я спытаў у Марыі Ігнатаўны, ці шмат чыкалавіцкіх памерла пасля 86-га, яна без паўзы адказала:**

— Багата. І маладыя паміраюць. Адзін малады мужчына, гадоў мо 30-ці, яшчэ летась быў на Радаўніцу ў Чыкалавічах, праходзіць побач, кажа: здароў, Марыя! А я яму: здароў, Федзя! А ўжо сей год мне даслалі ліст, пішуць, што памёр.

— **Можа гарэлкі шмат піў?— пытаюся.**

— Хіба ж шмат?.. А-а-а... Людзі з трывогі паміраюць, з чаго ім яшчэ паміраць. Мая нябога Ніна памерла з-за таго, што яна рабіла на орсаўскай базе ў Прыпяці. Там жа столькі прадуктаў! Я была на той базе. Калісь мы як паедзем туды па прадукты, дык ужо зойдзем, пусцяць да свайго роднага. Тыя прадукты... Пакуль эвакуіравалі адтуля, дык яна папала трохі пад абпраменьванне. У яе печань забалела... Такая ж вясёлая была! Два гады як памерла. Цяпер там яе сын робіць. Я яму кажу, навошта табе гэтыя 500 рублёў, кідай ты гэтую работу. А ён: усё роўна камусьці ж трэба. Жыве цяпер у Славуцічы.

**Пра ўсе навіны аб аднавяскоўцах Марыя Ігнатаўна даведваецца з лісьмаў сваіх сябровак і сваякоў. Ёсць у яе спецыяльны сшытачак, у які яна складвае лісты і паштоўкі. Там жа ў сшытачку і запісана паэма «Успамінаніе»:**

Да разве аб гэтам раскажаш,
Якія ты годы жыла?
Дзяліла і гора і радасць,
Радная дзярэўня мая.
Мы помнім твае галубыя прасторы,
Твае дарагія паля і ляса,
І тыя радныя сцяжынкі, дзе зарасль
Расце як сцяна.
Там нашыя продкі засталісь.
Дзярэўня Чыкалавічы была нам радной.
І гдзе мы ня будзем — цябе не забудзем,
Любімы наш край дарагой...

**Паэма напісана на «трасянцы» беларускімі літарамі па-руску, але перасыпана роднымі і дыялектнымі слоўкамі. Паўпісьменны аўтар гэтай паэмы невядомы. Вось так, пэўна, і нараджаюцца маркотныя, слязлівыя народныя песні. Час адшліфуе іх форму, але ж змест застанецца светлым і чыстым, як памяць пра людзей, што просяць пахаваць сябе ў забруджаных жвірах.**

**Андрэй СМІРНОЎ.**

**На фотаздымку:** Марыя Ігнатаўна **(крайняя справа) з аднавяскоўцамі на ганку сваёй былой чыкалавіцкай хаты.**

## Востраў надзеі

НА САМАГУБСТВА рашаюцца людзі рознага ўзросту. Але, паводле даных сусветнай статыстыкі, найбольш небяспечнай у гэтым сэнсе з'яўляецца старасць. Што ж прымушае старых людзей уласнаручна паскорыць сустрэчу з і без гэтага блізкай смерцю.

Аднаго разу давялося пачуць наступную думку: «Наш сацыялізм — грамадства для маладых, здаровых і дужых». У той час (а было гэта колькі гадоў таму) прыгаданы вынёсак падаўся мне няслушным. Але сёння прыходзіцца пераконвацца ў праваце таго чалавека.

З 1983 па 1987 год доля старых сярод ахвяр самагубства пабольшала з 17,2 да 24 працэнтаў, у той жа час агульная смяротнасць па згаданай прычыне скарацілася з 81 тыс. чалавек да 54 тыс. чалавек.

На думку некаторых аналітыкаў, на такі раптоўны і доўгачаканы спад паўплывала станоўча антыалкагольная кампанія, кампанія тая сканала, ледзьве нарадзіўшыся. А найбольш небяспечныя з нашага пункту гледжання катэгорыі замест гарэлкі ўжывалі розныя сурагаты, тая ж статыстыка падае яскравыя прыклады гэтага.

**Колькасць самагубстваў па саюзных рэспубліках (на 100 тыс. жыхароў), 1986 г.**

| Саюзная рэспубліка | Усё насельніцтва | Гарадское | Вясковае |
|---|---|---|---|
| Эстонія | 27.4 | 24.5 | 35.6 |
| Літва | 25.3 | 21.3 | 32.5 |
| Латвія | 25.3 | 21.2 | 33.9 |
| РСФСР | 22.9 | 21.2 | 27.5 |
| Малдова | 18.6 | 13.5 | 23.1 |
| Украіна | 18.5 | 16.7 | 22.1 |
| БЕЛАРУСЬ | 17.8 | 14.5 | 23.3 |
| Казахстан | 16.5 | 17.7 | 14.7 |
| Кіргізія | 9.2 | 12.1 | 7.2 |
| Туркменія | 8.6 | 12.1 | 5.6 |
| Узбекістан | 7.5 | 11.0 | 5.0 |
| Таджыкістан | 5.2 | 10.8 | 2.4 |
| Грузія | 4.6 | 4.0 | 5.2 |
| Азербайджан | 3.4 | 4.8 | 1.9 |
| Арменія | 1.8 | 1.9 | 1.6 |
| У сярэднім | 18.8 | 18.4 | 19.4 |

* Паводле даных Дзяржкамстата.

Трэба адзначыць, што колькасць жадаючых пакінуць наш цудоўны свет узрастае ў сакавіку — ліпені і скарачаецца ў верасні — снежні.

На працягу тыдня пік прыпадае на аўторак, спад на сераду-чацвер. Але мужчыны часцей падбіваюць рахункі ў дні адпачынку, чым жанчыны. Уплыў гарэлкі відавочны яшчэ пра адным паказчыку — у буйных гарадах пікавыя дні — 4—6, 15—17, 22—24, калі грошы даюць у мужчын і на дзень-два пазней у жанчын. Апошнія, мабыць, не вытрымліваюць п'яных здзекаў.

Дынаміка самагубства абумоўлена таксама шэрагам чыннікаў. Гэта, акрамя згаданага ўжо ўзросту, узровень адукацыі. Паводле даследавання ленінградскіх навукоўцаў Я. І. Гілінскага і Л. Г. Смалінскага сярод самагубстваў асобы, якія не маюць сярэдняй адукацыі, складаюць 63 працэнты, у той час калі іх частка ў насельніцтве не болей за 1/4.

У той жа час узровень смяротнасці з прычыны самагубства складаў у Вялікабрытаніі — 9, у ЗША — 12, ФРГ — 21, Францыі — 22 чалавекі на 100 тыс. насельніцтва.

Колькасць самагубстваў звычайна ў 3 разы болей, чым забойстваў, суадносіны паміж імі звычайна стабільныя. Што б ні казалі, а пік гэтай сумнай статыстыкі прыйшоўся на 1984 год. Мужчыны прымаюць фатальнае рашэнне ў 3 разы часцей за жанчын, асабліва у найбольш актыўным узросце. Больш за 3/4 самагубстваў у мужчын прыпадае на працаздольны ўзрост, а ў жанчын больш за палавіну на пенсіённы ўзрост.

Але, спытаецеся вы, усё папярэдняе не больш чым лічбы і разважанні. Хто ведае, што было ў душы тых людзей?

Паводле даных А. Г. Амбрумавай і Л. І. Пуставалавай (Социологические исследования, 1987, № 6) кожны шосты самагубца пакідае ліст да жывых. Лісты гэтыя сведчаць, што бядакі не адмаўляюць самое жыццё, яны супраць існуючага варыянта гэтага жыцця.

Нягледзячы на выключны трагізм і своеасаблівасць сітуацыі, у кожным канкрэтным выпадку людзі не здольны выйсці з межаў мыслення і мовы, што дадзены ім грамадствам і ягонай культурай.

Матывы самагубства, як і тэксты лістоў, не больш чым варыяцыя некалькіх тэм. Людзі ўжываюць тыя ж самыя словы, стыль і аргументацыю. На падставе іх лістоў даследчыкі выявілі пэўную колькасць груп і сітуацый.

Гэта канфлікты паміж асобамі. Няшчаснае каханне. Раптоўныя трагічныя здарэнні і цяжкія захворванні. Душэўныя хваробы. Старасць.

Самае страшнае ў гэтых лістах тое, што яны мала чым адрозніваюцца ад нашых, што пісалі іх такія ж самыя людзі, як кожны з нас. Іх выбар — магчымасць такога выбару для кожнага.

Мінулі часы, калі самагубства каралася як злачынства, у тым выпадку, калі чалавеку пашэнціла выжыць. Пасля рэвалюцыі кару за гэты ўчынак скасавалі.

А ці зменшыла гэта нашу маральную адказнасць за сваё жыццё, за жыццё кожнага, хто жыве побач з намі?..




**НЕ ПАКІДАЙЦЕ НАС. ТАГО СВЕТУ НЯМА. ТОЙ СВЕТ — ГЭТА НАШ СВЕТ, У ЯКІМ УЖО НЕ БУДЗЕ ВАС...**

Здаецца, маладых спыняла перад апошнім крокам пані Надзея. Ад тугі несвабоды можна было пайсці ў час, калі несвабода гэтая была жудасна стабільнай, а багна, у якой танула чалавечае жыццё,— невычарпальнай. Прывід свабоды, што паказаў людзям пачатак перабудовы, вабіў, не даваў адысці, не дагледзеўшы да канца займальны «жывы спектакль».

Старыя рэдка забіваюць сябе з-за злоўжывання алкаголем: большасць з іх не мае грошай на гарэлку. Затое ніхто не бароніць іх перад бяссіллем, хваробамі, самотай, мізэрнай пенсіяй. Аніхто...

Абрываюцца сацыяльныя сувязі, з'яўляецца шмат вольнага часу, а разам з ім думкі пра тое, што жыццё прайшло дарэмна, бязглузда. Усё часцей давodзіцца рабіцца сведкам гора і смерці — такое асяроддзе. Спачатку паміраюць бацькі, потым браты і сёстры, потым дзеці. Чужым робіцца свет: іншыя людзі, іншая мова, іншыя каштоўнасці, а ты нікому не патрэбны са сваёй памяццю аб мінулым, з якім робяць хто што хоча.

Страшэнная стома ад навакольнай мітусні, гвалту, барацьбы і ад нераўнавагі ў душы ўсё часцей і часцей выклікае ў чалавека нецярплівасць, чаканне фіналу.

Што можна проціпаставіць такому настрою асобы грамадства? Культуру ў выглядзе нядзельнага батона з Менска і чарговай просьбы пазычыць грошы, п'янай таўканіны ў паўпустым клубе і злых кпінаў з «тямнаты калхознай»? Веру, што не можа раптам узнікнуць, а ўзнікнуўшы, не стане шчырай, бо падстаў для гэтага не мае? Жыццёвы ўклад, які разарваны паміж перанасычанымі людзьмі гарадамі і спустошанай нашай эканамічнай палітыкай вёскай? А можа сям'ю? З сям'ёй не кожнаму шанцуе. Адсюль і вынікае...

Ніжэй за ўсё смяротнасць ад самагубства ў рэспубліках Азіі і на Каўказе, дзе адносіны да старых больш спрыяюць іх выжыванню. Беларусь і ў гэтай сумнай справе застаецца ў сярэдзіне статыстычных табліц.

Запас трываласці ў чалавека не бясконцы. Прадзіраючыся праз церні жыцця, ён па кроплі страчвае яго. Крывавыя кроплі гэтыя збіраюцца недзе, раўнавага парушаецца і надыходзіць урэштку гадзіна, калі адчай падпіхвае да кроку ў цемру.

Мы так мала ведаем гэты свет і такія саманадзейныя, што спатрэбіўся раптоўны зрух перабудовы і з'яўленне безлічы гешэфтмахераў ад астралогіі, каб асэнсаваць хоць часткова тое, што было вядома разумным людзям ужо на пачатку нашага стагоддзя. Наш суайчыннік А. Л. Чыжэўскі ў тыя часы, калі і самалётаў сапраўдных не было, дзякуючы свайму таленту назіральніка і вучонага адкрыў, што чалавек, як дробная часцінка Сусвету, залежыць ад яго не меней, чым усё астатняе.

Мы жывём літаральна ў паветры Сонца. Кожны ягоны подых нябачна адбіваецца на ўчынках, самаадчуванні мільёнаў людзей. Нельга, паводле слоў Чыжэўскага, разлічваць на тое, што лічбы дапамогуць знайсці поўны паралелізм паміж смяротнасцю ўвогуле і сонечнай актыўнасцю.

Тым не менш, пакінем для зацікаўленых магчымасць пазнаёміцца з ходам думак і разлікаў вучонага ў ягонай кнізе «Земное эхо солнечных бурь». Прывядзём толькі адзіны прыклад з яе. Ён не страціў сваёй актуальнасці таму, што ўсё разлічана на падставе шматлікіх даных.

Вось скарочаны спіс з'яў, якія залежаць ці, ва ўсялякім выпадку, супадаюць па перыядычнасці з сонечнай актыўнасцю: ураджай вінаграду, збожжа, кармавых культур; рост дрэў, таўшчыня гадавых кольцаў; час і пышнасць цвіцення красак; час вяртання птушак з выраю; вага нованароджаных і немаўлят; псіхапатычныя эпідэміі; афектыўныя злачынствы; няшчасныя выпадкі і здарэнні; раптоўныя смерці; абвастрэнні хвароб; смяротнасць; нараджальнасць; эпідэміі.

Было б дылетанцтвам дапаўняць гэты спіс, кожны радок якога абгрунтаваны ў выніку навуковых даследаванняў. Але, дзеля цікавасці, прыгадаю з той жа кнігі даныя аб сонечнай актыўнасці:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1750 | 1816 | 1883 | 1953. |
| 1761 | 1829 | 1894 | 1965. |
| 1769 | 1837 | 1905 | 1979. |
| 1778 | 1848 | 1917 | 1991. |
| 1788 | 1860 | 1929 | |
| 1805 | 1870 | 1941 | |

Вазьміце падручнік па гісторыі і паспрабуйце знайсці там гэтыя даты. Абяцаю вам сацыяльна-палітычныя параўнанні, здольныя ўразіць. Менавіта на згаданыя гады прыходзіліся перыяды найбольш актыўнага ўтварэння плям на Сонцы.

Самота ўзмацняе жаданне развітацца з жыццём. Сямейныя самагубствы складаюць прыкладна 40 працэнтаў ад агульнай колькасці, у той жа час у насельніцтве сямейных каля 3/4.

Сацыяльнае становішча моцна ўплывае на прыняцце фатальнага рашэння. Пераможны рабочы клас утрымлівае першынство — 54 працэнты самагубцаў.

Безумоўна, адбіваецца на сітуацыі і псіхічны стан чалавека.

**Медыка-псіхічны стан суіцыдэнтаў з улікам прыналежнасці да розных груп рызыкі (працэнты)**

| Наяўнасць паталогіі | Павышаная рызыка | Паніжаная рызыка |
|---|---|---|
| Псіхапатычныя забурэнні | 22.4 | 18.9 |
| Межавае становішча | 20.1 | 13.5 |
| Алкагалізм | 18.7 | 10.8 |
| Практычна здаровыя | 38.8 | 56.8 |

* ДАНЫЯ ГЛ.: СОЦИОЛОГИЧЕСКИЕ ИССЛЕДОВАНИЯ, 1988, № 5, с. 62.

З табліцы вынікае, што тыя ці іншыя адхіленні ў стане здароўя ўласцівыя амаль што палавіне самагубцаў. Менавіта для іх уплыў кожнага з чыннікаў, у тым ліку і касмічнага, можа стаць апошнім штуршком да непапраўнага ўчынку.

Грунтуючыся на гэтай тэорыі, можна крыху інакш глядзець на статыстыку самагубстваў у СССР і Беларусі.

**Колькасць загінуўшых з прычыны самагубства ў СССР**

| Год | Колькасць загінуўшых, тыс. чал. | На 100 тыс. насельніцтва | У тым ліку: мужчын | У тым ліку: жанчын |
|---|---|---|---|---|
| 1975 | 66 | 26 | | |
| 1980 | 71 | 27 | | |
| 1984 | 81 | 30 | | |
| 1985 | 68 | 25 | 50.5 | 11.3 |
| 1986 | 53 | 19 | | |
| 1987 | 54 | 19 | 30.3 | 9.3 |
| 1988 | 56 | 19 | | |
| У тым ліку ва ўзросце: | | | | |
| до 20 | | | 3.5 | 1.1 |
| 20—24 | | | 22.2 | 5.5 |
| 25—29 | | | 34.5 | 5.5 |
| 30—39 | | | 42.3 | 7.1 |
| 40—49 | | | 53.8 | 12.2 |
| 50—59 | | | 56.1 | 15.4 |
| 60—69 | | | 47.8 | 17.5 |
| св. 70 | | | 72.3 | 27.5 |

* Паводле даных Дзяржкамстата і артыкула С. Г. Смідовіча ў часопісе «Социологические исследования», № 4 за 1990 г.

М. ЗАЛЕСКІ.



**Толькі з БДУ і БПІ штогод выключаюць больш як паўтысячы студэнтаў. Калі падсумаваць усіх, пазбаўленых магчымасці вучыцца ў вышэйшай школе, то ў нашай рэспубліцы можна закрыць адзін інстытут, бо ён застаецца без навучэнцаў.**

# ПАКАРАННЕ ЗА... ЖАДАННЕ ВУЧЫЦЦА

АСНОЎНАЯ частка няўдачнікаў прымусова пакідае навучальныя ўстановы, таму што не можа пераадолець вучэбны план, г. зн. набор дысцыплін, складаючых асобу будучай прафесіі. У «адсева» (існуе такі здзеклівы тэрмін) ёсць свае законы, якія, між іншым, дапамагаюць зразумець гэту складаную з'яву. Масавае адлічэнне (амаль 70 працэнтаў) ад агульнай колькасці на першым курсе. Гэтыя лічбы зніжаюцца да апошняга года вучобы.

Сталая грамадская думка прызнае гэты працэс аб'ектыўным, непазбежным і нават заканамерным. Зразумела, што лепш пазбавіцца няздатных да вучобы на першым ці другім курсе, каб не марнаваць дзяржаўныя сродкі і нават не псаваць лёс маладога чалавека.

Урэшце, адлічыць выпадковых людзей, трапіўшых на прэстыжную спецыяльнасць дзеля моды, хто пайшоў у інстытут па жаданню бацькоў, або таму, што не хацелася працаваць на вытворчасці.

Ды толькі такіх усё ж мізэр і размова тут не аб іх. Лепш успомніць тых, хто марыў пра універсітэт запальнай юнацкай думкай, адплакаў за кожны ўступны экзамен трапяткой дзявочай слязой і аплаціў студэнцкі білет амаль перадінфарктным становішчам сваіх бацькоў.

Калі вось так занатаваць усе акалічнасці, то праблема вучобы-невучобы вырастае да вельмі напружанай сацыяльнай з'явы, падобнай на своеасаблівы млын, у якім трагічна пераціраецца лепшая частка моладзі.

Пасля такіх стрэсаў раптам стукне першы семестр — і запаветная мара разбіваецца, як найхрупкае шкло аб каварную «двойку» і сваімі бязлітаснымі асколкамі зноў раніць родных і блізкіх.

Што гэта? Масавая ракавая выпадковасць, калі выкладчык адной нездавальняючай адзнакай перакрэслівае дзесяцігадовую працу ў школе, прыёмнай камісіі на ўступных экзаменах, ці гэта брак вышэйшай адукацыі?

Можна сказаць адназначна: і сама сістэма, формы і метады навучання прыйшлі ў супярэчанне з сучасным узроўнем навуковай думкі, вузкай спецыялізацыяй у кожнай галіне ведаў і галоўнае — практыкай выкарыстання спецыялістаў.

Адна з прычын абясцэненых адносін да студэнтаў заключаецца ў тым, што ў рэспубліцы ніхто не вывучае, а значыць і дакладна не ведае, колькі спецыялістаў спатрэбіцца сёння, праз пяць, а тым больш на дзесяць гадоў наперад. А калі, як, напрыклад, у сучасны момант, палітыка-эканамічныя абставіны прадыктуюць тэрміновасць вялікай патрэбы выкладчыкаў беларускай мовы, юрыстаў, эканамістаў, журналістаў, то хутка павярнуць няўклюдную сістэму адукацыі да вырашэння гэтай праблемы вельмі цяжка: маральна і матэрыяльна. Таму планы прыёму студэнтаў часта «падганяюць» пад выкладчыкаў, якім патрэбна «нагрузка», спецыялізацыю пад кафедру, якая пад пагрозай развалу, пад факультэт, ад якога адвярнулася фартуна фаварыцтва. Таму вышэйшая школа і існуе ў стане некіруемых дыспрапорцый. Свае «грахі» яна перакладвае на моладзь і дзяржаўны бюджэт.

Зразумела, што кожная справа аздоблена благачыннасцю. Сёння ў навучальных установах дэкларуецца індывідуальная падрыхтоўка, але паточны метад пануе ўсюды. Па-першае, універсітэты і інстытуты перапоўнены звыш усялякай меры, па-другое — выкладчыкі толькі выказваюць сваю гатоўнасць працаваць з кожным студэнтам, а зрабіць гэтага не могуць, таму што самі не падрыхтаваны да такой складанай справы ні псіхалагічна, ні прафесійна.

Спрацоўвае вядомы стэрэатып: лекцыя — справа святая. Адчытаў яе выкладчык і ачысціў сваю душу. А далей — як ускладанне крыжа на студэнта: захоча — будзе вучыцца!

Але хіба ж ведае першакурснік, куды яму плысці? Прызнаемся шчыра, калегі, што, праяўляючы аднолькава высокія патрабаванні да толькі што ўступіўшых у студэнцтва, асноўную яго частку мы ставім у лік асуджаных.

Ні для каго не сакрэт таксама, што на першым курсе ў асноўным працуюць маладыя педагогі. Яны могуць добра валодаць сваім прадметам, але, як паказвае практыка, слаба ўсведамляюць методыку навучання і, што вельмі важна, а для студэнтаў небяспечна, і з-за недахопу вопыту, не адчуваюць асабістай адказнасці за вынікі экзамену і часта кіруюцца шкоднай пазіцыяй: «прыціснуць», «паказаць», «паставіць на месца» і г. д. Не дапамагае тут і існуючая інструкцыя. Маладых выкладчыкаў яна яшчэ больш заводзіць у зман, поўнасцю нівеліруючы індывідуальны падыход.

Няма неабходнасці прэпараваць складаную псіхалагічную сітуацыю на экзамене, але дзе шмат нездавальняючых адзнак і ўзнікаюць канфлікты, там выпадае са зроку асноўны фактар—як выкладчык падрыхтаваў сваю групу, кожнага студэнта паасобку. Ці выкарыстаў ён усе сродкі, каб на экзамене не было «пракалаў лёсу»?

Прайшоўшая сесія пацвердзіла факт: ніводзін вопытны дацэнт, прафесар не сталі ўдзельнікамі непаразуменняў са студэнтамі, у іх няма праблем з вызначэннем паводзін у любых сітуацыях і, зразумела, мінімум нездавальняючых адзнак. Сакрэт тут просты: мудры педагог разумее, што экзамен — гэта кантроль узвышэння ведаў студэнта, праверка творчага працэсу яго мыслення, урэшце — гэта самакантроль працы настаўніка. Такога ўсведамлення маладыя выкладчыкі часам пазбаўлены і таму «рэжуць» сваіх вучняў у час сесіі, як вобразна характарызуецца гэта з'ява ў студэнцкім фальклоры.

Больш таго, на кожным факультэце ёсць так званыя «звышпрынцыповыя» педагогі. За сваё кафедральнае жыццё яны ўверавалі ў асабістую меру разумення магчымасцей канкрэтных маладых людзей і могуць вельмі будзённа выносіць жорсткі прысуд: з яго не атрымаецца матэматыка, хіміка, настаўніка... Колькі гіне талентаў у гэтым выпадку — невядома, а што з такіх парадоксаў вырастаюць самародкі, — гісторыя сведчыць геніяльнымі імёнамі. Успамінаецца сумнае здзіўленне такімі метадамі навучання: «Цікава, як спяць выхавальнікі пасля таго, як «зарэжуць» студэнта і ці ёсць у іх дзеці»?

Дэкан механіка-матэматычнага факультэта універсітэта Л. П. Прымачук катэгарычна зазначае: першакурснікам нельга ставіць «двойкі»! За тры месяцы з чатырох першага семестра (адзін месяц адводзіцца на «бульбу») школьнікі не могуць стаць масцітымі студэнтамі, якія гатовы здаць нават кітайскую мову і пераадолець негуманныя правілы вышэйшай школы. Не пагадзіцца з гэтым немагчыма.

Выкладчыкі ведаюць і тое, што сярэдняя школа, што адстала ў часе, нават нягледзячы на ўручаныя выпускнікам медалі, не можа падрыхтаваць сваіх выхаванцаў да вучобы ва універсітэце па метаду перасадкі з адной парты за другую. Нездарма цяпер узнікаюць ліцэі і каледжы для мэтанакіраванай і грунтоўнай падрыхтоўкі.

А пакуль сярэдняя школа зарыентавана на ўсе навучальныя ўстановы. Таму школьнікі-студэнты адразу сустракаюцца з такімі прадметамі, якіх і назвы раней не чулі. Каб іх асвоіць, патрэбен значны час, новы псіхалагічны апарат, прыстасаванне да нязвыклых умоў, методык, рытму жыцця і працы. Гэта вельмі цяжкая навука. Калі ўлічыць розныя стылі жыцця, маральныя, матэрыяльныя характарыстыкі нашай моладзі і розную агульнаадукацыйную падрыхтоўку, то зразумела, што вытворча-паточны метад навучання ёй не падыходзіць.

Пры абмеркаванні праблем навучання на вучоным савеце рэктар універсітэта член-карэспандэнт АН БССР Ф. М. Капуцкі падкрэсліў слушную думку: можа мы не змаглі навучыць тых, каго выключылі з універсітэта? Навошта мы іх тады прымалі?

Сапраўды, на іншыя факультэты конкурс амаль адсутнічае. Між тым, спланаваныя месцы запаўняюцца жадаючымі, каб потым у першую сесію адправіць іх за дзверы. Які ж гэта храм навукі, які так патарджальна адносіцца да сваіх прыхаджан.

Толькі недасведчаныя не ведаюць, якія вялікія выдаткі прыносіць грамадству брак у рабоце вышэйшай школы. Пра маральныя страты гаворка ўжо ішла. Зазначым толькі, што яны агромністыя і не паддаюцца колькаснаму ўліку. Без драматызму цяжка пісаць аб тым, што сотні юнакоў і дзяўчат на ўзлёце падаюць, як падранкі, надоўга страчваюць арыенцір у жыцці, а многія і не знаходзяць яго потым ужо ніколі. Мноства выпадкаў, калі малады чалавек паступае і раз, і два, і тры разы. Яго таварышы ўжо заканчваюць універсітэт, а ён усё б'ецца дарэмна ў дзверы. Грамадства страчвае інтэлектуалаў, а дзяржава — спецыялістаў. Мысліцельная атмасфера краіны не запаўняецца поўнасцю і своечасова, а ў выніку — штучнае тармажэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу і няўмольнае адставанне нашай рэспублікі ад вяршынь цывілізацыі.

Гэтыя паняцці вызначальныя ў самых розных вымярэннях. Мудрацы гавораць, што адлучэнне, нават і з добрай мэтай, заўсёдна прыводзіць да трагедыі. А былыя студэнты застаюцца пакутнымі душамі ў сваім асяроддзі. Каб апраўдаць гэты грэх, прыдумана «канцэпцыя», што выключэнне—гэта нібыта санітарная акцыя, якая падымае прэстыж навучальнай установы, ачышчае спецыяльнасць ад пасрэднасці. Цікава будзе, калі студэнты скора пачнуць плаціць грошы за навучанне, што цяпер абмяркоўваецца ў нашай краіне, а іх захочуць выключыць з універсітэта. Хто тады будзе аддаваць даўгі за дрэнныя вынікі вучобы: дзяржава, выкладчыкі ў складчыну, ці той, хто паставіў «двойку»? Ужо надараліся такія падсудныя справы, калі навучэнцы патрабавалі вярнуць свае грошы.

Такім чынам, патрэбна шукаць выйсце са становішча такіх сацыяльных траўм.

Неабходна змяніць статус экзаменацыйнай адзнакі. Яна павінна стаць асаблівай вяхой у класіфікацыйнай характарыстыцы спецыяльнасці. Сэнс просты да геніяльнасці — высокія адзнакі ў дыпломе — гэта лепшая праца і пасада, адпаведны першапачатковы аклад пасля вучобы. Кожны студэнт, пачынаючы з першага курса, павінен усвядоміць, што ён не можа вучыцца па формуле: абы здаць прадмет і ўсё забыць (што, на жаль, бытуе цяпер), а атрымліваць на экзаменах толькі выдатныя адзнакі за глыбокія і змястоўныя веды. І што ад гэтага залежыць уладкаванне на прэстыжную пасаду, адпаведную яго інтэлекту.

Патрэбна (і гэта залежыць больш ад выкладчыкаў), каб студэнты глыбока ўсвядомілі ісціну, што яны прыйшлі ва універсітэт, каб набываць веды, ад чаго залежыць іх поспех у жыцці і будучыня. Але гэта не павінна быць голай дэкларацыяй, якой ніхто цяпер не верыць. Студэнты ведаюць, што дыплом для ўсіх аднолькава шэры і ён пасля вучобы з'яўляецца толькі допускам да працы па спецыяльнасці, а не мерай яго каштоўнай кваліфікацыі.

Неабходна таксама адказацца ад сістэмы адсеву, прасеву, адлічэння, выгнання—усіх адміністрацыйна-рэпрэсіўных мер, якія вымяраюць студэнтаў на адзін пасрэдны аршын і не дае магчымасці вызначаць і градуіраваць розныя здольнасці. Гэта нешта іншае, як пакаранне за жаданне вучыцца.

Перакананы, што патрэбна скіраваць энергію педагогаў не на ацэнку няведання, гэта бачна і простым вокам, а на пошук індывідуальнай методыкі, якая адкрые магчымасць кожнаму студэнту ісці сваім шляхам да агульнага высокага ўзроўню. Таму выкладчыку неабходна зноў стаць настаўнікам, каб весці за сабой вучняў, а не быць пастухом, які паганяе бізуном свой статак.

Цяпер абмяркоўваецца праблема двухступеньчатага працэсу навучання, што, думаецца, патрабуе абнаўлення сістэмы народнай адукацыі, прыдасць гібкасць узаемадзеянню ўсіх яе структур.

Пасля першага ці другога семестра, напрыклад, не асіліўшыя вучэбны план студэнты пераводзяцца на скарочаную праграму, скіраваную на вузкую спецыялізацыю. Зразумела, што да трох гадоў змяншаецца і тэрмін навучання. Гэта можа быць бакалаўр (ідзе размова аб аднаўленні гэтага забытага звання) або малады працаўнік з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Гэта не летуценні, а ява, якая даўно б'ецца ў вокны навучальных устаноў. Толькі рухаецца яна чарапашым крокам. Напрыклад, да гэтага часу няма тэхналогіі навучання адначасова на дзвюх спецыялізацыях.

Хаця выйгрыш тут відавочны. Атрымлівае прастору свабоднага развіцця асоба, якая стаіць перад невядомасцю адкрыцця свайго таленту, асабістых, толькі яму дараваных прыродай, непаўторных здольнасцей. Дзеля гэтага ніхто не павінен шкадаваць ні сіл, ні сродкаў, тады хутчэй будзе створана асяроддзе таленавітых людзей, якія вылучаць народных геніяў.

Акрамя таго, спецыялісты з незакончанай вышэйшай адукацыяй, выхаваныя ва універсітэцкай атмасферы, атрымаюць вельмі моцную прафесійную арыентацыю і праз невялікі час могуць прадоўжыць навучанне і атрымаць дыплом магістра.

Відавочна, што настала пара ахаваць студэнта ад казарменных умоў вучэбнага плана і скіраваць яго намаганні на шырокую рэалізацыю сваёй індывідуальнасці ў неабмежаваных магчымасцях кожнай спецыяльнасці. Гэта асноўная задача вышэйшай школы — знайсці і выпеставаць таленты новага беларускага ўваскрэсення.

**А. СЛУКА,**
**дэкан факультэта журналістыкі, прафесар.**



# Роднае слова

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!

Францішак Багушэвіч.

Гутаркі на прызбе

## Дзед Мікалай расказвае...

(Працяг. Пачатак у №№ 5, 10)

Наша трэцяя сустрэча з Мікалаем Якаўлевічам Пінчуком адбылася зноў-такі ў ягоным сціпла мэбліраваным пакойчыку, за круглым, яшчэ хрушчоўскіх часоў, сталом. Красавіцкае заходзячае сонейка настойліва зазірала ў «канферэнц-залу», дзе я намерыўся было закідаць пытаннямі свайго дзевяностагадовага субяседніка. У карэспандэнцкія абавязкі ўваходзіла распытаць дзеда Мікалая аб рэлігійных ды народных святах, якія меліся адбыцца ў апошні месяц вясны на золку дваццатага стагоддзя. А вось настойлівае красавіцкае сонейка падбухторыла мяне зусім на іншыя пытанні:

**— Дзедусь, а сонейка ўжо і праз шыбу пячэ?**

**—...**

**— Я кажу, што на дварэ сёння цёпла, можна на прызбу йсці гутарыць. І рубрыка акурат кліча.**

**— А ты ведаеш, што такое прызба?**

**— Хіба не тое ж, што па-расійску «завалінка»?**

**—...**

**— Ну, невысокі такі насып з глебы ці пяску, вакол хаты... Не вышэй за другі вянок будынка, так?**

**— У нашых Касарычах прызбай называлі тое месца перад хатай, дзе збіраліся людзі сталага і старэйшага ўзросту, каб пагутарыць, абмяняцца вясновымі навінамі. Дык вось дзеля таго, каб было ямчэй сядзець, скарыстоўвалі доўгае, тоўстае, пазбаўленае кары бервяно, абчэсанае з верхняга боку. Альховая ці бярозавая калода. Чаму акурат гэтыя дрэвы? Яліна ды сасна выдзяляюць з сябе смалу, сядзеш у новых штанах ці ў святочнай сукенцы — і абпэцкаешся. Людзі сюды звычайна прыбранымі выходзілі. Ды не штодня. У рабочы час прызба сумавала ў адзіноцтве. А вось, калі надыходзіць нядзеля, ці свята якое — поўна на прызбе люду. Адзін сыйдзе, другі на ягонае месца прыладкоўваецца. Чалавек дзесяць — дванаццаць іншы раз умесціцца. На лаўку стольні не ўвапрэш. На лаўку шырачэзная дошка патрэбна, ды яшчэ некалькі ўпорных слупкоў. А бервяно ніякага канструявання не патрабавала, дый зламаць яго — ніхто б не зламаў.**

**Прызба тая размяшчалася не ля кожнай хаты. Тры — чатыры на вуліцу, а то й на вёску. Выходзілі на прызбу людзі ўранні, дзесьці каля адзінаццаці гадзін, а ўходзілі з прыцемкамі. Шмат каго там за дзень убачыш. І сваіх, і чужых. Свае — суседзі ды аднавяскоўцы сыходзілі па хатніх справах, худобу даглядаць. А чужыя йшлі па сваіх шляхах далей. Яны распавядалі нашым пра сваю вёску, а мы ім — пра наскую. Хто прасіў папіць, давалі яму калодзежнай вады ці бярозавага квасу. Адзін аднаго гарбузікамі частавалі — белымі семкамі. Або чорнымі — сланечнікамі.**

**— А гарманісты прыходзілі да прызбы? Весела там было?**

**— Не, музыка ля прызбы не гучала. Гэта было месца для старых людзей, а моладзь у іншых мясцінах збіралася. Маладых тая прызбавая гутарка не вабіла. Хіба цікава ім было слухаць, што, напрыклад, Базылёў па грыбы пайшоў ды шмат дабракоў нарэзаў. Значыцца, грыбы пайшлі — уся вёска хутка ведаць будзе. А яшчэ прызба абмяркоўвала вясковыя здарэнні: кажуць, у аднаго чалавека конь утапіўся, а ў другога — карова з-за Гіцічы не вярнулася. Вось аб гэтым і гаманілі на працягу дня, кожны сваю ацэнку выказваў.**

**— А як вылучалася тое месца, дзе клалі калоду?**

**— Асноўная ўмова — каб было суха, таму вылучаліся больш высокія месцы, на грудку. Ну, і каб прыгожа там было, ля бэзу або ліпы, ці проста пад старым дрэвам. Калоду з лесу, на кані, прыцягваў гаспадар той хаты, дзе людзі прызвычаіліся бачыць прызбу. Займаўся ён гэтым узімку. Спарахнелае дрэва йшло на дровы, а новая прызба «прыязджала» з лесу па снезе, прывязанай да кароў. Ужо ўвесну, пасля сыходу снежных сумётаў, калода ўмацоўвалася ў зямлю, прыкладна ў паўметра ад хаты...**

...А што тычыцца веснавых святаў, якія прыходзіліся на май, дык я памятаю не ўсі з іх, а толькі галоўныя.

Напачатку мая йшоў дзень Юрыя, Ягорыя і Георгія. Юрый, Ягорый і Георгій — гэта адное й тое ж імя. Святкаваўся Юрый двойчы: увесну і восенню. Людзі так і казалі: «Два Юрыі, і абодва дурні. Адзін галодны, а другі халодны».

Яшчэ святкавалі ў нас Ушэсце — шостую нядзелю пасля Вялікадня, Сёмуху — сёмую нядзелю і Міколу. Апостал Мікола, па святому вучэнню, быў вучнем Ісуса ў справах земляробчых. У суседняй вёсцы Бабровічы Мікола лічыўся прастольным святам. У гэты дзень ніхто не працаваў. Цікава, што да Міколы на любых паплавах можна было пасвіць жывёлу, а пасля Міколы — толькі на тых, што не адводзіліся пад сенакосы. Інакш трава да наступнага ўкосу не вырасце.

Самым значным з майскіх святаў тады лічылася Троіца — бласлаўленне Бога айца, Бога сына і Бога духа святога. На Троіцу тры дні не працавалі. А сена першага ўкосу сухое, надвор'е стаіць добрае, толькі працуй! Ды нельга, грэх!

Яшчэ ў маі быў такі дзень, што называўся Русалкай. Гэта было зусім не рэлігійнае свята, а згадка пра наша колішняе паганства. Бабы ў той дзень баялі пра русалак, што жылі некалі ў Пцічы, у тых ярах, куды давалі нырца касарыцкія хлопцы. Бабы палохалі дзятву тым, што русалкі выбіраюць самых адважных і прыгожых і забіраюць іх з сабою на дно ракі...

...Каб хтосьці не падумаў, што мы ў маі толькі святкаваннямі займаемся, я распавяду і пра нашы вясеннія працы. Па-першае, у гэтым месяцы завяршалася ўся сяўба. Па-другое, людзі займаліся перасыпаннем хаты, рамонтам сельскагаспадарчых прылад і пабудоў.

..Жыў у нашай вёсцы адзін чалавек, Паўлам яго звалі. Дык ён зацягваў на дрэвы зламаныя вазовыя колы ці непатрэбныя ўжо драўляныя бароны. Да шасцідзесяці сямі гадоў на дрэвы лёгка ўзлазіў. Вясёлы ён чалавек быў. Сабакі яго любілі. А вось з сынамі яму не пашанцавала. Нараджаліся ў яго толькі дочкі. Мо таму і дбаў ён аб буслах, як ніхто іншы...

**Запісаў А. СМІРНОЎ.**



## Май

### Наш каляндар

**1.** Імяніны Івана, Кузьмы.

Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных.

60 гадоў з дня нараджэння (1931) беларускага савецкага паэта, крытыка і літаратуразнаўца Лойкі Алега Антонавіча.

**2.** Імяніны Нічыпара, Трыфана, Зыгмунта.

**3.** Імяніны Фёдара, Марыі, Антаніны.

**4.** Імяніны Януарыя, Монікі, Фларыяна.

80 гадоў з дня нараджэння (1911) беларускага савецкага пісьменніка Рунца Пятра (Пятра Мікалаевіча).

**5.** Імяніны Віталя, Клімента, Лукі, Ірэны, Вальдэмара.

**6.** Імяніны Ягора, Анатоля, Аляксандры, Юдзіты.

**7.** Імяніны Валянціна, Савы, Лізаветы, Людмілы, Гізэлі.

**8.** Імяніны Марка, Сільвестра, Станіслава, Эльзы.

**9.** Імяніны Васіля, Сцяпана.

СВЯТА ПЕРАМОГІ.

80 гадоў з дня нараджэння беларускага савецкага паэта і літаратуразнаўца Ліхадзіеўскага Сцяпана Іванавіча (1911—1979).

**10.** Імяніны Сямёна, Антаніна, Ісідара.

60 гадоў з дня нараджэння беларускага савецкага паэта Гаўрусёва Сцяпана Захаравіча (1931—1988).

**11.** Імяніны Кірылы, Яўсея, Міры.

**12.** Імяніны Арцёма, Філімона, Даміцэлі.

**13.** Імяніны Якава, Глорыі, Раберты.

З народных прыкмет. Цёплы вечар «на Якава» і зорная ноч — будзе цёплае лета і добры ўраджай.

50 гадоў з дня нараджэння беларускага савецкага паэта Сербантовіча Анатоля Станіслававіча (1941—1970).

**14.** Імяніны Марыі, Саламеі, Сюзаны, Тамары, Мацея.

**15.** Імяніны Барыса, Глеба, Зоі, Соф'і, Надзеі.

З народных прыкмет. «Барыс» — салаўіны дзень. «Барыс і Глеб — сеюць хлеб».

20 гадоў з дня афіцыйнага адкрыцця (1971) Беларускай бібліятэкі і музея імя Францыска Скарыны ў Лондане.

**16.** Імяніны Фядоса, Цімоха, Маўры, Андрэя.

Ушэсце (Воскресение, 3 мая па ст. ст.)

80 гадоў з дня нараджэння (1911) беларускага савецкага паэта Віткі Васіля. Сапраўднае імя Крысько Цімох Васільевіч.

**17.** Імяніны Мікіты, Палагеі, Славаміра.

**18.** Імяніны Ірыны, Эрыка, Яна.

Міжнародны дзень музеяў.

З народных прыкмет. «На Ірыну» садзілі капусту, а каб не было на ёй шкоднікаў, па канцах грады садзілі крапіву.

**19.** Імяніны Міхея, Пятра.

**20.** Імяніны Ніла, Базыля, Бернарда.

**21.** Імяніны Івана, Арсеня, Пімена, Віктара.

**22.** Імяніны Мікалая, Ісая, Веславы, Гелены.

Мікола-веснавы, старадаўняе каляндарна-абрадавае свята.

**23.** Імяніны Сымона, Таісы, Івоны.

**24.** Імяніны Макея, Мяфодзія, Кірыла, Сюзаны, Івана.

З народных прыкмет. «На Макея» туман і ўдзень мокра — усё лета мокрае, і наадварот, суха — лета сухое.

**25.** Імяніны Германа, Барыслава, Грыгорыя, Урбана.

Дзяды.

25 мая 1917 года ў Ялце пасля працяглай хваробы памёр Максім Багдановіч.

**26.** Імяніны Макара, Філіпа.

Сёмуха (Дзень Святой Тройцы, 13 мая па ст. ст.)

**27.** Імяніны Сідара, Максіма, Яна, Юлія.

**28.** Імяніны Пахома, Дзмітрыя, Аўгусціна, Яраміра.

Пахом — веснавы прысвятак народнага календара. «Пасееш агуркі, калі Пахом — будзеш хадзіць з мяхом» (ураджаем).

**29.** Імяніны Лаўрэна, Музы, Магдаліны.

**Дзіцячы фальклор**

Пяяў бы я песні,  
Ды не знаю ноты.  
Абарваны кажушок,  
Дзіравыя боты.  
Куры, куры, куранятачкі.  
Не крычыце каля хатачкі.  
Наша хатачка старэнькая,  
А я ў мамкі маладзенькая.

**30.** Імяніны Ефрасінні, Фелікса, Фердынанда.

**31.** Імяніны Фядота, Аляксандры, Клаўдзіі, Фаіны, Юліі, Анелі.

*Паштовая скрынка*

## Вось вам і калі ласка!

Ехаў на цягніку ад маці з Клецка да Слуцка. І раптам чую: «Асцярожна, калі ласка, дзверы зачыняюцца. Наступны прыпынак Зубкі...» Сядзеў да Слуцка і радаваўся, як дзіця. Але ж вось прыехалі ў Слуцк, далей гэты самы цягнік ішоў на Асіповічы. І тут зноў пасажыры пачулі: «Осторожно, дверь закрывается...»

Вось вам і калі ласка. Дык чаму ў нас не выконваецца Закон аб мовах? А таму, што прынялі мы яго і — забыліся. Зноў прыклад. Усе мы слухаем і глядзім сесію Вярхоўнага Савета БССР. М. І. Дзямянцей звычайна пачынае размову на беларускай мове. А «загатоўка» заканчваецца і ўсё пачынаецца на рускай мове. Вось вам першы прыклад. А колькі мы чуем русізмаў з радыёпрыёмнікаў і экранаў тэлевізараў! Дык што скажаш каторай звычайнай настаўніцы гарадской ці вясковай школы, у якой лексікон беларускай мовы, як той вінегрэт?

Вельмі добра, што многія рускамоўныя выданні рэспублікі даюць старонкі на беларускай мове. Я лічу, што гэта трэба рабіць часцей і даваць такія матэрыялы не толькі на тэмы культуры, але і іншыя.

Беларускую мову, мову нашага народа, бацькоў, дзядоў мы павінны не толькі паважаць, а шанаваць яе, карыстацца ёю, прывіваць любоў дзецям. Бо гэтага заслужыла наша мова. Не трэба саромецца размаўляць на ёй, а трэба вучыць гэтаму і іншых.

**І. СЦЯПУРА,**
**беларус, журналіст.**

## Трэба ведаць праграмы

**Дзякую вам за артыкулы, прысвечаныя лёсу беларускай мовы. Прыемна чуць яе жывыя гаворкі на вашай цудоўнай Бацькаўшчыне. Цікава было б прачытаць у рубрыцы «Роднае слова» пра гісторыю развіцця мовы, распрацоўку яе сучаснага літаратурнага варыянта. Якая праграма ў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, іншых нефармальных аб'яднанняў?**

**Сяргей СІНЯЎСКІ.**
г. Перм.

## Подых беларусізацыі

На сучасны момант відавочна, што беларускаму ўраду нестае лібералізацыі ў адносінах да нацыянальнага адраджэння. І нават Закон аб мовах у Беларускай ССР не ў стане пераканаць у адваротным: «гэта не больш як чарговы бюракратычны манеўр, нацыянальны падман», як слушна і трапна заўважыў В. Быкаў. І ўсё ж... Працэс вяртання народа да вытокаў, да сваё гаротнае мовы пачаўся — і ён ужо, на шчасце, неабарачальны. Пацвярджэнне таму — свежая крынічка беларусізацыі, што прарвалася скрозь затхлае, застаялае балота абыдзеншчыны нават да нас, у палескую правінцыю.

Нядаўна Столінскі аўтапарк № 12 абвясціў аб пераводзе справаводства з 1991 года на мову нацыянальную. І гэта не пустаслоўе, да якога мы даўно прызвычаіліся. У мастака прадпрыемства з'явіліся новыя клопаты: ён прыступіў да стварэння беларускамоўных трафарэтаў. І калі яшчэ аўтобусы раённага прызначэння не адчуваюць пакуль ніякіх змен, то міжгароднія аўтобусы абзавяліся шыльдамі, напісанымі толькі па-беларуску.

Неяк больш утульна стала і на тутэйшай аўтастанцыі, хоць, здавалася б, усё засталося па-ранейшаму, калі, праўда, не лічыць, што расклад руху аўтобусаў пададзены на беларускай мове. Ёсць і невялікая гарчынка ў гэтай радасці: там-сям пракідваюцца памылкі. Аднак гэта першая спроба практычнай беларусізацыі на Століншчыне. Праўда, Міхаіл Мікалаевіч Галавач, начальнік аўтапарка № 12, запэўніў, што беларусізацыя — не толькі змена аўтобусных шыльдаў і пераафармленне салона аўтавакзала. Будзе ажыццяўляцца пераклад на мову крэўную і дзелавых папер. У НДІ аб'яднання «Цэнтрааўтатэх» адпраўлены заказ на змену клішэ ў касавых машынках — беларускія замест рускіх. І на білетах будзе ўжо выбіта не «Спасибо», а «Дзякуй» ці іншы беларускі адпаведнік. Не выклікае здзіўлення і той факт, што на вучобу з мэтай авалодання роднай мовай адпраўяцца справаводы і сакратары.

Дарэчы, пераклад справаводства на беларускую мову ажыццяўляе і ўсё рэспубліканскае аб'яднанне «Цэнтрааўтатэх», у якое ўваходзіць і Столінскі аўтапарк № 12.

**Юрась ДУБІНА,**
**студэнт БДУ.**

## «Сцяжыны»

**Вось ужо некалькі гадоў пры прафсаюзнай бібліятэцы завода пускавых рухавікоў актыўна дзейнічае мастацка-літаратурнае аб'яднанне «Сцяжыны». У склад яго ўваходзяць людзі розных прафесій і ўзросту: рабочая Праскоўя Шлыкава, дырэктар клуба Зоя Іосіфаўна Хазяенка, ветэран працы Валянціна Мікалаеўна Журавель і многія іншыя. Усіх яднае любоў да паэзіі і народнага мастацтва. Самадзейныя паэты і артысты рэгулярна сустракаюцца, чытаюць свае вершы, спяваюць. Такія сустрэчы, дарэчы, праходзяць у цёплай, дамашняй абстаноўцы, за самаварам, са шклянкай чаю. Між іншым, усе грашовыя расходы ўзяў на сябе заводскі прафсаюзны камітэт.**

**«У наш нялёгкі час, — гаворыць камендант інтэрната № 1 Антаніна Іванаўна Мартыненка, — галоўнае, не страціць душэўную раўнавагу, міласэрнасць і спагаду да блізкага, захаваць усё добрае і прыгожае, зрабіць наша жыццё больш сонечным і радасным. На пасяджэнні «Сцяжыны» запрашаюцца не толькі вядомыя паэты і празаікі.**

**Напрыклад, у лютым госцем завадчан была асістэнт кафедры рускай літаратуры дзяржаўнага універсітэта Аліса Аляксееўна Дарафеева. А вось днямі адбылася сустрэча з артысткай абласнога драмтэатра Налінай Іванаўнай Анчышкінай. Яны расказалі пра жыццё і творчасць паэтэс Марыны Цвятаевай і Ганны Ахматавай, прачыталі іх вершы.**

Ганна **АТРОШЧАНКА.**
г. Гомель.

*Анонс*

## Беларуская мова і літаратура ў школе

**«...Тым імя мілае вышэй» — гэты радок з вядомага верша Максіма Багдановіча стаў загалоўкам артыкула, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння Паэта. Ён змешчаны ў майскім нумары часопіса «БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЛІТАРАТУРА У ШКОЛЕ». Аўтар прапануе чытачам задумацца над тым, якую багатую духоўную спадчыну пакінуў нам слынны зямляк, інфармуе аб ходзе падрыхтоўкі да святкавання яго юбілею, запрашае настаўнікаў і вучняў стаць удзельнікамі ўсебеларускага духоўнага руху «Зоркі надзеі», ідэя якога нарадзілася ў супрацоўніцтве рэдакцыі часопіса з Беларускім фондам Рэрыхаў. У часопісе змяшчаецца каляндар асноўных святочных урачыстасцей да юбілею М. Багдановіча.**

**Чарговы нумар часопіса багаты на матэрыялы метадычнага характару (раздзел «Методыка і вопыт»). У раздзеле «Філалогія» працягваецца размова аб творчасці пісьменніка Івана Чыгрынава, падаецца артыкул «Беларускія Сярэдневякоўе і Адраджэнне» — гэта «бенефісная» публікацыя вучонага і літаратара Алега Лойкі да яго ўласнага 60-годдзя. І яшчэ аднаму юбіляру супрацоўнікі часопіса зычаць творчых поспехаў, здароўя, светлых думак — казачніку Васілю Вітку, якому ў маі спаўняецца 80. «Часцей глядзіце на зоры» — так называецца інтэрв'ю з ім.**

**Іван ЖДАНОВІЧ,**
**адказны сакратар рэдакцыі часопіса.**



## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

*Роздум ля паштовай скрынкі*

## Таўчы ваду ў ступе

Прасцей было б без лішняга роздуму ізноў, што называецца, запусціць млын па другому кругу і пачаць малоць тую самую муку, якую, здаецца, ужо і прасеяць паспелі. Толькі ці стане мукі болей? А ўвогуле ці муку мелем? Мо таўчом ваду ў ступе?

Мінула больш як тры месяцы з часу публікацыі допісаў В. Сугойдзя з Мінска і настаўнікаў з Гродна А. Курылы, Н. Карпенкі, Э. і К. Мілюнкевічаў. За гэты час мы надрукавалі дзве падборкі водгукаў на тыя допісы, а пошта прыносіць усё новыя і новыя лісты, слушныя, нераўнадушныя, шчырыя, з'едлівыя і нават злосныя — і ўсе нечым падобныя. Не палічы за абразу, паважаны чытач, але, мабыць, псіхалогія ўспрыняцця чужое нязгоднае думкі ў штыкі яшчэ моцна трымае нас за каршэнь у балоце ўласнага абсалютызму. Падумаем, а ці не тым самым абухом размахваем зараз мы, якім доўгі час таўклі, яшчэ й зараз таўкуць нашы лбы?

Між тым вельмі мала яшчэ ў загашніках паштовае скрынкі «Роднага слова» канкрэтных прапаноў, цікавых і слушных разваг аб тым, як Закону аб мовах на Беларусі надаць другое дыханне, бо і, першы раз уздыхнуўшы, захлынаецца ў атмасферы густога нацыянальнага нігілізму, а калі і пачынае працаваць — няйначай на халастых абаротах. Спрачацца добра, але ці ж бачылі вы калі, каб на пажары спрачаліся? Дый не ўсякая спрэчка нараджае ісціну.

З Мурманскай вобласці, з вайсковай часці прыйшоў вельмі прыемны ліст.

«Калі ж нарэшце абудзіцца ў нас нацыянальная годнасць, калі мы перастанем саромецца сваёй мовы? — пытаецца **Тадэвуш Шарынскі,** па ўсім відаць, малады хлапец, учарашні школьнік. — Калі зразумеем, што без мовы нам няма шляху ў будучыню як народу, як нацыі?»

Пытанні, бадай, для эпіграфа і, на жаль, рытарычныя. Хочацца верыць, Тадэвуш, што яны не застануцца такімі, калі найперш твае равеснікі задумаюцца над імі. Дарэчы, удвайне прыемна чуць такі пакутліва-балючы роздум ад вайскоўца тэрміновай службы, якому, ведаеш, ТАМ, удалечыні ад дому, у спецыфічнай казарменнай атмасферы не заўсёды застаецца час для філасофіі. І ўсё ж, калі людзі нават і ТАМ успамінаюць сваю бядачую мову, значыць, не ўсё яшчэ страчана.

Дзіва, мы ўсё часцей атрымліваем пошту з-за межаў Беларусі ад людзей, якім, здавалася б, няма вялікае прычыны хвалявацца за мову нашую. Але ж чалавек сапраўды адукаваны, які здольны нашу трагедыю ацаніць прафесійным вокам, мабыць, не можа заставацца абыякавым.

**Валдас Банайціс,** як сам піша, «вучыўся ў літоўскіх школах за 200 км ад мяжы Беларусі, а калі пасяліўся ў новай Вільні, не забыўся ні пра літоўскую, ні пра рускую мовы, але вывучыў польскую, а потым і беларускую, якую любіць, як і належыць патрыёту гэтай зямлі».

Не можа Валдас зразумець настаўнікаў з Гродна:

«Замест «вяртанне» кажуць «увядзенне», як бы «ўвядзенне войска», «акупацыя школы», «навязванне чагосьці чужога, непатрэбнага», словам, «нагрузка». І аргументацыя такая, што гэты працэс можа абысціся і без нас».

«І цяпер пра прымусовае вывучэнне беларускай мовы ў небеларускіх школах — дык гэта не раней, як з пятага класа! Каб не псаваць дзетак небеларусаў! Каб яны перш засвоілі родную рускую мову, ну, а потым не страшна, якую дадуць — яна ўжо роднай не стане. Так разважаюць тыя, хто не лічыць сябе беларусамі, не мае беларускіх каранёў».

У лісце Валдаса Банайціса, дарэчы, багата слушных прапаноў і заўваг, чым ён выгадна асобіцца. Мы будзем рады прыслухацца да іх.

У адказ на падборку водгукаў даслаў свой ліст і **Вадзім Яўгенавіч Сугойдзь.** Заўважым, ён вельмі здзіўлены рэакцыяй на допіс:

«Панове, хто вам сказаў, што я адношуся так да роднай мовы? Не разумею вашага гневу. У асноўным на мову я нічога дрэннага не пісаў. А што ў творчасці Я. Коласа няма слова «спадар», дык гэта так. Не ўжываў яго і Янка Купала, і Максім Багдановіч. Абышліся без яго чамусьці Шамякін і Быкаў. Ды вось прачытаў кнігу Аляшкевіча «У кіпцюрах ГПУ». І там яго не заўважыў. А ўжо Аляшкевіча не абвінаваціце ні ў любові да Сталіна, ні ў страху перад ім».

«Я плююся не ад роднай мовы, а ад тых слоў, якія цяпер навыдумляў БНФ. Не трэба тут другі раз вынаходзіць веласіпед».

На жаль, далей аўтар пасылае даволі прыватныя рэплікі ў адрас сваіх апанентаў, і, думаецца, чытаць іх на старонках газеты было б нецікава. Тым болей, мы не хацелі б, паддаўшыся амбіцыям, ізноў з лёгкае рукі прадоўжыць «таўчы ваду ў ступе».

Але ж хочам і мы запытацца ў чытача парады. Калі вы заўважылі, з новага года наша «Роднае слова» па-новаму апранасцца. З'явілася свая «Кнігарня», сатырычная «Трасянка», куточак для дзяцей «Немаўля». Дарэчы, ідэю дзіцячага куточка прапанаваў наш пастаянны аўтар і чытач з Бабруйска Анатоль Пазняк. Дзякуем вам, Анатоль. А «Паштовая скрынка» чакае новых прапаноў. Асабліва ж хочацца пачуць думку настаўніка роднай мовы і літаратуры. Гэта для цябе «Кнігарня». А ці карыстаеш ты яе? І што хацеў бы ўбачыць на яе старонках у бліжэйшы час? А мо і сам маеш цікавы, патрэбны дапаможнік? Мы ахвотна памножым тваю знаходку на наклад «Чырвонкі».

Чакаем новай пошты!

**Уладзімір МІХНО,**
**аглядальнік газеты па пытаннях адраджэння мовы, тэл. 32-14-33.**

РОДНАЕ СЛОВА

*Скарбніца*

**«Веснавы дзень год корміць»,—гаворыцца ў народнай прыказцы. Невыпадкова селянін заўсёды рыхтаваўся да веснавых палявых работ з вялікай адказнасцю. Першы выхад у поле звычайна суправаджаўся ўрачыстым рытуалам. З ім былі звязаны розныя прыкметы, павер'і. У святочных дзеяннях гарманічна спалучаліся рэшткі старажытнай язычніцкай магіі, хрысціянская сімволіка і рацыянальныя элементы жыццёвага вопыту земляроба. Селянін паважаў маці-зямлю і рабіў свайго роду ахвярапрынашэнне з мэтай атрымаць добры ўраджай.**

# Заворванне

## (ПЕРШЫ ВЫХАД У ПОЛЕ)

ПАВОДЛЕ народнага звычая, нельга было кранаць зямлю да Благавешчання (7 красавіка). У далейшым можна было ўжо пачынаць заворванне (аральбу). У залежнасці ад стану надвор'я і глебы гэта важная ў жыцці селяніна падзея адбывалася ў розных мясцовасцях Беларусі на працягу красавіка і нават іншы раз у пачатку мая. Лепшымі для заворвання днямі тыдня лічыліся аўторак, чацвер, субота. Рытуальную семантыку мела і становішча месяца: араць пачыналі пад «поўна», каб быў поўны колас і поўныя засекі.

Па традыцыі ў абрадзе заворвання захоўваліся пэўныя рэгіянальныя і лакальныя асаблівасці. На паўночным захадзе і ў цэнтры Беларусі селянін уставаў на золку, умываўся, надзяваў чыстае белае адзенне, «каб поле было чыстым ад пустазелля». З гэтай жа мэтай араць трэба было басанож і нашча. Напярэдадні вечарам гаспадыня чыста прыбірала ў хаце: мыла падлогу, лавы, стол. Раніцай гаспадар выводзіў валоў з хлява, акрапляў іх крынічнай вадой, асвячонай у царкве, браў з сабою хлеб, загорнуты ў белы абрус, ваду і соль і адпраўляўся ў поле. Перахрысціўшы ніву, пачынаў араць. Прайшоўшы некалькі барознаў, вяртаўся дамоў. Гаспадыня ў гэты дзень гатавала святочны абед, пякла абрадавае пячэнне ў форме сахі, бараны, сярпа. На Магілёўшчыне перад выхадам у поле качалі на спіне каня курынае яйка, каб конь быў «гладак і повен, як яйцо». На Усходнім Палессі араты браў у поле апрача хлеба і солі велікодныя яйкі і мяса. Частку прадуктаў (хлеб, соль, яйка, часцей косці ад пасхальнага мяса і шкарлупінне з яек) закопвалі на мяжы або ў баразне, г. зн. прыносілі ахвяру зямлі, выказвалі ёй сваю павагу, каб яна была ўрадлівай. У некаторых вёсках хлеб і соль скормлівалі каню са словамі: «Дай, божа, у час добры». Бытаваў таксама звычай рассяваць на краю раллі мак, пры гэтым араты гаварыў: «Радзіся, поле, так густа, як мак». У Заходнім Палессі (Кобрынскі павет) заворванне пачыналі на захадзе сонца, узяўшы з сабою загорнутыя ў чысты абрус хлеб і соль. Пінчукі бралі акрамя таго грамнічную свечку, асвячоную ў царкве на Грамніцы. Араты клаў хлеб і соль на абрус, рабіў нізкі паклон зямлі і пачынаў ворыва. Пасля першай баразны ён стукаў вала па лбу і прыгаворваў: «Няхай дасць бог здароўе і сілу табе». «Дома гаспадара чакала святочная вячэра. На поўначы Беларусі заворванню папярэднічалі правідкі, г.зн. селянін як бы праведваў сваё поле, браў з сабою хлеб, соль і асвячоныя галінкі вярбы. Ён абыходзіў поле з вярбой у руцэ і затым утыкаў галінкі на мяжы побач з хлебам і соллю. Бралі ў поле таксама велікодныя яйкі, шкарлупінне закопвалі і закладвалі камянямі. Народнае павер'е прыпісвала вярбе магічныя ўласцівасці — здольнасць павысіць урадлівасць зямлі.

У савецкі час абрад першага выхаду ў поле адрадзіўся пад назвай «Свята першай баразны». Сёння ён шырока бытуе ў калгасах і саўгасах рэспублікі. Хаця атрыбутыка абрада некалькі змянілася, сэнс яго застаўся ранейшым— услаўленне працы, маці-зямлі, праверка гатоўнасці хлебаробаў да веснавых работ. Тэатралізаванае відовішча з ужываннем мясцовага фальклору, народных песень у выкананні калектываў мастацкай самадзейнасці ўпрыгожвае сучасны быт жыхароў вёскі.

**Н. БУРАКОЎСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Зайграй, музыка!..



**Яркае, незабыўнае свята дорыць гледачам кожнае выступленне этнаграфічнага ансамбля народнага танца, музыкі і песні «Лёс» з вёскі Бабічы Чачэрскага раёна. У праграме гэтага калектыву — і вельмі папулярныя «Лявоніха», «Кракавяк», і арыгінальныя карагоды, танцы, лічылкі, прыпеўкі, якія народжаны на мясцовых святах і вячорках і перадаюцца з пакалення ў пакаленне.**

**Сярод артыстаў ансамбля, якому нядаўна прысвоена званне «народны самадзейны калектыў» — людзі вельмі рознага ўзросту, розных прафесій: ветэраны калгаснай вытворчасці, сельская інтэлігенцыя, вучні мясцовай школы. А значыць — і наперад жыць у гэтай палескай вёсцы народным звычаям і танцам са сваім непаўторным каларытам і багатай музычнай палітрай.**

**НА ЗДЫМКАХ:** выступае адна са старэйшых удзельніц ансамбля Вольга Макараўна Багданава; на сцэне — ансамбль «Лёс».

Фота **У. Мяжэвіча.** (БЕЛТА).



# Кожнае лета—у вёску

ЗУСІМ невыпадкова ў назве свайго артыкула я ўжыла гэтыя словы. Справа ў тым, што я — лабарант кабінета народнай музыкі і адначасова студэнтка Белдзяржкансерваторыі, вось ужо чацвёртае лета на некалькі тыдняў выязджаю ў фальклорную экспедыцыю. Вядома, не куды-небудзь, а ў беларускую вёску, да пранікнёнай, кранаючай за душу песні, да роднай, казачна прыгожай прыроды.

Усе гады нязменным «галоўным» кіраўніком гэтых экспедыцый з'яўляецца Касцюкавец Л. П., якая сваімі адносінамі да роднага фальклору, актыўнай дзейнасцю, ведамі літаральна «зараджае» студэнтаў любоўю да роднай музыкі, слова, звычаяў беларускага народа. Ёсць у нас і яшчэ кіраўнік — Якіменка Т. С., якая таксама шмат робіць, каб захаваць нашу музычную спадчыну.

Экспедыцыя 1990 года адбылася з 23 чэрвеня па 17 ліпеня на тэрыторыі Лепельскага раёна Віцебскай вобласці.

Віцебшчына — сапраўды прыгожы край. Цудоўныя люстраныя воды шматлікіх маленькіх і вялікіх азёраў, мноства лясоў — часам такіх непраходных, што нават мясцовыя жыхары туды баяцца заглядваць, каб знарок Лясун не завёў у глыбіні, з якіх потым не выберашся.

Вядома, кожная фальклорная экспедыцыя — гэта шэраг незабыўных сустрэч з рознымі па свайму характару і поглядах людзьмі. Больш за ўсё мы знаёмімся з беларускімі жанчынамі, таму што гэта менавіта яны, нягледзячы на складаны лёс, клопаты аб сям'і, дзецях, гаспадарцы,з'яўляюцца захавальніцамі беларускага традыцыйнага фальклору. З традыцыяй мужчынскага выканання зараз мы вельмі рэдка сустракаемся. У кожнай хаце — свой маленькі свет, мікракосмас. Са сцяны простай драўлянай хаты на цябе глядзяць розныя людзі з фотакартак, хто з добрай усмешкай, а хто вельмі стрымана, падчас строга.

Калі старая жанчына пачынае спяваць — забываеш пра ўсе справы. Ёсць толькі песня больш сумная, чым вясёлая. У ёй — уся мудрасць, усё жыццё. Якія вочы ў спявачак — нібыта зоркі на небе — святло ад іх ідзе незямное і пранікае ў глыбіню тваёй істоты. У такія часы ты разумееш, што ёсць нешта большае, чым штодзённая мітусня, пошукі матэрыяльнага абсталявання, спрэчкі на рабоце і дома. «Гэтую песню вельмі любіла спяваць мая мама», — гаворыць адна са спявачак, ужо вельмі сталая жанчына. І вось ты адносішся на многа гадоў назад, амаль у мінулае стагоддзе, каб уявіць сабе маці гэтай кабеты, а можа, і бабулю.

Чамусьці ў нашых спявачак вельмі складаны лёс. І, нягледзячы на гэта, а, можа, насупраць жыццёвым нязгодам, яны спяваюць. Таму што песня адраджае чалавека, падтрымлівае ў ім прагу да дабра.

Нельга ў слове перадаць усё ўражанне ад незабыўных штодзённых сустрэч. Кожны дзень прыносіць новыя знаёмствы. «Дзень добры! Можна да вас? Мы прыехалі з Мінска, каб запісаць старыя песні. Хто нам сказаў пра Вас? Ды людзі казалі, што Вы вельмі добра спяваеце, шмат песень ведаеце. Вось мы і зайшлі да Вас», — такія словы гучалі амаль кожны дзень. І, як правіла, добрая спявачка ніколі не адмовіцца спяваць. Сапраўды толькі хвароба альбо вялікае гора можа спыніць яе голас.

Не магу не назваць імёны цудоўных беларускіх жанчын, нашых лепшых спявачак гэтага года: Таццяна Якаўлеўна Шэвалда з вёскі Падсобнае, Галіна Савельеўна Фокіна з вёскі Стаі, выдатны дуэт з вёскі Пышна — Марыя Мікалаеўна Размысловіч і Ірына Аляксееўна Жарнасек. Пра кожную з іх можна вельмі многа і доўга расказваць, таму што за іх плячыма працяглы, часам цяжкі лёс. На руцэ Ірыны Аляксееўны незмываемы нумар, які застаўся з тых страшных дзён, калі яна была вязніцай канцэнтрацыйнага лагера Аусвіц... Але ж яна спявае, добра спявае!

Час нашага прабывання ля вёскі Бор супаў з адным з самых любімых святаў беларусаў — Купаллем. Вядома, у многіх мясцінах зараз спрабуюць адрадзіць народныя звычаі, традыцыі, таму робяцца вялікія гулянні, дзе гучаць песні, танцуюць, весяляцца людзі як умеюць. А як не ўмеюць — дык свята Купалле, у ноч якога дазваляецца рабіць шмат забароненага ў будні, ператвараецца ў самае звычайнае хуліганства. Вось і сядзіць замкнёная ў сваёй хаце адзінокая бабуля, чакае, калі хто-небудзь з добрых суседзяў вызваліць яе з «палону» («Ой, а там жа кароўка нядоеная, парасяткі някормленыя!») ·Добра, калі мальцы не кранаюць агарод, а калі кранаюць... Пазабываліся мы, як трэба спраўляць Купалле.

Але не хачу завяршаць свой расказ на такой сумнай ноце, таму што экспедыцыя дае вельмі многа цудоўнага, добрага. Гэта — сустрэчы з людзьмі, іх песнямі, гэта — дотык да нашай музычнай спадчыны. Мы запісалі ўзоры шматлікіх цікавейшых жанраў, а некаторыя з іх — амаль упершыню. Са сваёй задачай — абследаваннем Лепельскага раёна Віцебскай вобласці — мы справіліся. Магу дадаць, што адной з самых галоўных рыс экспедыцыйнага жыцця, турыстычнага ў сваёй аснове (месца жыхарства — палатка, ежа гатуецца на кастры) з'яўляецца праверка чалавека на сталасць. Гэта своеасаблівы экзамен на вытрымку, здольнасць да жыцця ў любых, часам экстрэмальных, сітуацыях. І, на жаль, не ўсе гэты экзамен вытрымліваюць. Таму да самага апошняга дня застаюцца толькі сапраўдныя фалькларысты. Зразумела, нашаму ў асноўным дзявочаму калектыву не хапае моцных мужчынскіх рук: многія бытавыя справы проста не пад сілу.

Але ж мы не сумуем. Я веру, што сапраўдныя мужчыны, для якіх экспедыцыя з'яўляецца важнай старонкай жыцця, патрэбны, як паветра, будуць нам дапамагаць, заўсёды знойдуцца. А калі каго-небудзь зацікавілі мае думкі пра фальклорную экспедыцыю Белдзяржкансерваторыі гэтага года, звяртайцеся да нас, у Кабінет народнай музыкі са сваімі пытаннямі, пажаданнямі, прапановамі, пішыце нам.

**Лілія ШАМСУТДЗІНАВА.**

# ТРАЕЦКІ КАСЦЁЛ

У вёсцы Ішкальдзь Баранавіцкага раёна ўзвышаецца унікальны помнік старажытнабеларускага дойлідства — Траецкі касцёл. Пабудаваны ён быў у 1472 годзе ў гатычным стылі.

У выніку шматлікіх перабудоў XVII — XX стагоддзяў (будынак прыстасоўвалі спачатку пад кальвініцкі сабор, пасля пад праваслаўную царкву і ў рэшце рэшт зноў пад касцёл) мастацка-дэкаратыўнае аздабленне ўнутры помніка моцна змянілася, але знешне касцёл выглядае амаль як у XV стагоддзі.

Фота С. Брушко.

# ЗЕМЛЯРОБЧЫ КАЛЯНДАР



## Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры

*В. І. Паўлоўская. «Мова: цікава і займальна»*

# Падарожжа па моваznaвіі

(Працяг. Пачатак у №№ 1, 5, 10, 14).

**Адказы**

**АНАГРАМЫ.** 1. Соль — лось. 2. Сокал — колас. 3. Грыб — брыг. 4. Ліпа — піла. 5. Шпала — лапша. 6. Камар — карма — марак.

**МЕТАГРАМЫ.** 1. Елісей — Енісей. 2. Балда — банда. 3. Ака — аса. 4. Роза — Рона. 5. Грыб — грып. 6. Сардзіна — гардзіна.

**ЛАГАГРЫФЫ.** 1. Рака — ранка. 2. Рэкі — грэкі. 3. Байка — Байкал. 4. Нерон — неон. 5. Пара — парта — Спарта. 6. Куб — клуб.

**ШАРАДЫ.** 1. Дом-на. 2. Ге-рой. 3. Тракт-ар. 4. С-порт (маецца на ўвазе гук (с). 5. Пі-лот. 6. Буйвал.

**СЕТКІ-КЛЕТКІ.** Па гарызанталі: Гомель, Добруш. Рэчыца, Нясвіж, Ашмяны, Жлобін. Па вертыкалі: Магілёў, Бягомль. Барысаў, Віцебск, Пружаны, Лунінец, Жодзіна.

**ЗАДАЧА З САКРЭТАМ.** Купала, Колас — па гарызанталях і дыяганалях.

**ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ.** Па гарызанталях: Мінск, Міёры, Пінск, Брэст, Мінск. Па цэнтральнай вертыкалі: Мінск.

**АЗЁРЫ СССР.** Байкал, Нарач, Балхаш, Ханка, Таймыр, Сасык, Зайсан.

**ЛІТАРАТУРНАЯ ЗАДАЧА.** Па гарызанталі: 1) Крапіва. 2) Дубоўка. 3) Вялюгін. 4) Семяжон. 5) Мурашка. 6) Лынькоў. 7) Кавалёў.

Па дыяганалі: Куляшоў.

### АДНА ЛІТАРА

1. Калі вы правільна запоўніце ўсе клеткі гэтай сеткі, замест лічбаў усюды стане адна і тая ж літара. З яе пачынаецца кожнае новае слова, якое трэба запісаць злева направа або зверху ўніз. Кожнае слова на адну літару менш за папярэдняе. Вось значэнні слоў:

па гарызанталі —
1) дзікі конь;
2) малпа;
3) прадмет спартыўнай формы;
4) вежа з сігнальнымі агнямі;
5) месяц;
6) займеннік;
7) літара.

Па вертыкалі —
1) марка аўтамабіля;
2) від мастацтва;
3) прадмет пасуды;
4) насякомае;
5) спартыўны інвентар;
6) нота.




2. У гэтай сетцы — іншыя словы і зусім другая літара:




па гарызанталі —
1) прылада для пісьма;
2) паўднёвае дрэва;
3) гара на Каўказе;
4) жывёла;
5) частка дрэва;
6) вадзяная жывёла;
7) прыназоўнік;
8) задуманая літара.

Па вертыкалі —
1) горад у Казахстане;
2) жвачная жывёла;
3) нацыянальнасць жыхара АССР;
4) воднае збудаванне;
5) рыба;
6) хвароба;
7) літара лацінскага алфавіту.

### АЛФАВІТ

Запоўніце клеткі так, каб у сярэдняй вертыкалі зверху ўніз чыталася слова **алфавіт**:




### ЗДАГАДАЙСЯ

Запоўніце клеткі так, каб у сярэдняй вертыкалі чыталася слова здагадайся:




### МАЛЫ РОМБ У КВАДРАЦЕ

Запоўніце клеткі па гарызанталі:
1) від адзення;
2) штат у ЗША;
3) хлеб;
4) паўночная частка зямнога шара;
5) горад на паўночным усходзе СССР;
6) геаметрычны тэрмін;
7) від воднага транспарту.




### ВЯЛІКІ РОМБ У КВАДРАЦЕ

У кожным радку «Вялікага ромба ў квадраце» па два словы. Кожнае слова мае восем літар, сярод якіх у пэўным месцы павінны быць дзве: **а** і **р**. Для гэтага трэба ўпісаць у клеткі патрэбныя словы. Гэтыя словы маюць наступнае значэнне (па радках):

1) работнік друкарні; від народнага прыкладнога мастацтва;

2) машыны, якія прымяняюцца ў сельскай гаспадарцы і ў прамысловасці; лінія палёту кулі, снарада, кінутага каменя;

3) старажытная зброя; частка кнігі ці сшытка;

4) мохавае балота; від на мясцовасць, бачны вакол на далёкую адлегласць;

5) плот; лодка;

6) прыправа да страў і напіткаў; мастацкі прыём у літаратуры;

7) раздзел мовазнаўства; асоба, адказная за выпуск друкаванага або рукапіснага выдання;

8) помнік старажытнагрэчаскай культуры; людзі, што займаюцца плёткамі;

9) чалавек старэйшага ўзросту; прыкладны разлік выдаткаў;

10) матэматычны тэрмін; памочнік у правядзенні доследаў, назіранняў, аперацый;

11) жанчына, якая мае схільнасць да якога-небудзь занятку; выпадковасць;

12) прыборы, што вызначаюць месцазнаходжанне аб'екта пад вадой і ў паветры; прыбор, які вызначае надвор'е;

13) службовая пасада; прадстаўніца мастацтва.




### ЛЕСВІЧКІ

Каб падняцца і спусціцца па прыступках гэтых лесвічак, трэба на кожнай прыступцы ўспомніць назоўнік у пачатковай форме (толькі агульныя або і ўласныя, простыя або таксама і складаныя — абумоўліваецца ў кожным выпадку асобна).

Лесвічка будуецца самімі ўдзельнікамі спаборніцтва — чыя будзе вышэйшай? Літара адна для ўсіх — па дамаўленню або выцягнутая з разразной азбукі наўздагад.
















### РОМБ М

Запоўніце клеткі ромба словамі, якія пачынаюцца літарай **м**:



### СКРАЗНЫЯ ЛІТАРЫ

Запоўніце пустыя клеткі сетак літарамі так, каб можна было прачытаць назоўнікі ў пачатковай форме:



### КВАДРАТЫ

Для гульні можна скарыстаць разразную азбуку. Тлумачэнні даюцца ў выпадку патрэбы вусна, напрыклад: амар — марскі рак; Арам — імя кампазітара Хачатурана.

Колькі слоў тут у розных напрамках?




**(Працяг — у наступным выпуску «Роднага слова»).**

# «Непакоюся, турбуюся...»

**ТАК ХОЧАЦЦА, каб у маёй любай рэспубліцы хутчэй заззяла роднае слова ўсімі сваімі дыяментамі.** Мне пашчасціла вучыцца ў сапраўдных славеснікаў. І ва універсітэце ў Гродна ў нябожчыцы ўжо Таццяны Піліпаўны Сцяшковіч, якая аб'ездзіла амаль усю Гродзенскую вобласць, усе прынёманскія мясціны ў пошуках трапных народных слоў і выразаў. На кніжных паліцах беражліва захоўваю навуковыя працы пра мову, слоўнікі народнай лексікі Таццяны Піліпаўны. Ёй давялося ў Менску вучыцца ў далёкія гады разам з Якубам Коласам. Не забыць мне ніколі яе цікавыя лекцыі па беларускай дыялекталогіі. А то ўспомніць заняткі па ўводзінах у беларускае літаратуразнаўства паэта Міхася Губернатарава. Ён аб'ядноўваў вакол сябе ўсю творчую моладзь універсітэта. А фальклорная экспедыцыя ў Шчучынскі раён, якую ўзначаліў Губернатараў, пазнаёміла нас, будучых педагогаў, з сапраўднымі людзьмі вёскі. Колькі песень, легенд, казак, паданняў, прыказак, прымавак, народных фразеалагізмаў мы пачулі! Шчырае дзякуй, мае дарагія педагогі.

Ды і ў СШ № 6 г. Кобрына, дзе я вучыўся, панаваў культ роднага слова, які ўмелі стварыць настаўніца беларускай мовы Тамара Сямёнаўна Далбусіна і настаўніца рускай мовы Людміла Мікалаеўна Сцепанюк. А ці магу я забыць палескія казкі? Не, не з кніжак. А з вуснаў роднай бабулі Таццяны, якая ўмела збіраць вакол сябе ўсю вясковую дзятву.

Ды і ў самой маёй роднай вёсачцы Андронава ў чыстым тады яшчэ паветры заўсёды вітаў водар роднага слова. Родная прырода таксама ўмела размаўляць. Па-беларуску.

***

Як гэта даўно было. І так нядаўна. А зараз, у канцы XX стагоддзя, у мяне ўсё больш і больш шчыміць сэрца: за растаптаную мадэльнымі чаравікамі бюрократаў і апаратчыкаў родную мову. Мову маёй маці. І мову майго бацькі. Я нават сына свайго Максімкам назваў у гонар святога васілёчка, майго любімага паэта — Максіма Багдановіча.

***

«Планета найшла», — так казала мне маці ў маленстве, калі я станавіўся непаслухмяным. Хіба ў гэтым выразе не спрадвечная мудрасць і творчасць палешукоў?!

***

І скажу я вам, браты, слова — гэта не культ славы. І не бывае роднага слова, пякучага і сцюдзёнага, без культу роднай глебы. Без любві да Айчыны, да яе народа.

***

Многія нашы паэты ганарацца, што яны выйшлі з народа. І ўцяклі ў сталіцы выдаваць свае сціплыя зборнічкі, у якіх добра калі некалькі добрых вершаў знойдзе чытач.

Сапраўдны паэт той, хто з народа не выходзіў. А жыве і піша сярод народа.

Бо само слова — гэта не толькі прафесійная рэч. І не толькі самадзейная. Гэта душа народа, яго свята і яго боль. Як нам патрэбна і сёння добрае спагадлівае слова вернага сябра не толькі ў хвіліны душэўнай дэпрэсіі, але і ў грамадскім транспарце, і ў чэргах.

Толькі ўсё часцей замест гэтых слоў — у адказ цішыня. Людзі развучыліся сябраваць, паважаць адзін аднаго. Пра людзей забываюць у той жа дзень, калі яны памерлі...

***

Чалавек! Не лянуйся! Скажы добрае слова таму, хто побач — і ён, убачыш, усміхнецца.

***

Спачатку дзіця вучыцца гаварыць, а потым яго бацькі вучаць абгаворваць суседскіх дзяцей... Вось няма выхавання моўнай і духоўнай культуры. А што мы пакінем у спадчыну сваім унукам...

Праграму развіцця беларускай мовы? На паперы. Цудоўны падарунак —нічога не скажаш. Вось ужо, сапраўды, эра паперы і людзей, што бязлітасна рубяць дрэва жыцця.

***

Чалавек! Не бойся. Скажы заўтра сваёй маці: «Дзякуй, дарагая, за тое, што ты ёсць на свеце».

І маці, упэўнены, таксама ўсміхнецца.

***

За славай мы навучыліся ганяцца. Але наша бяда, бяда ўсёй нацыі беларусаў, што ў час гэтых вандраванняў за славай мы страцілі роднае слова.

А без слова, як без вады. Так, як усё роўна слон на вуха наступіў. Суседу? Нам так хацелася. Але, на жаль, слон наступіў на вушы, вочы і рот усёй нацыі беларусаў, усім браткам беларусам. І ад гэтага, мусіць, варочаецца дзесьці ў труне Францішак Багушэвіч. Чаго ён так баяўся, збылося: мы ўмерлі...

***

Бабулькі! Вы ж ведаеце столькі казак! Але што ж сталася з вамі? Вы сядзіце на лаўках — і замест таго, каб выхоўваць унукаў, аддадзеных на заводскую змену, — точыце лясы, абгаворваеце таго, тую, тых, тое.

Вось ваша родная мова, яе «таямніцы». Аж не верыцца, як маглі быць калісьці Арыны Радзівонаўны.

Цяпер жа гэтыя бабулькі — сварлівыя цешчы, якія ў многім спрыяюць скасаванням шлюбаў сваіх дзяцей. Тут ужо не да казак!

***

Заўтра ўсе прачнуцца зноў. Хтосьці не прачнецца. Але вы думаеце, што хтосьці заўтра змагацца будзе за слова? Не, мора людзей будзе імкнуцца выхапіць кавалачкі славы да дарагога базарнага дня.

І на тварах многіх бюракратаў і апаратчыкаў будуць напісаны словы роднымі літарамі: «Перабудова па-ўчарашняму». Вам не абрыдла так існаваць, людзі?

Перастаньце крычаць лозунгі на нянроднай мове пра родную мову — і пачніце займацца справай.

Роднае слова будзе толькі тады справай, калі яно ў сэрцы кожнага жыхара Беларусі назаўсёды знойдзе прапіску.

І тады да роднага слова прыйдзе заслужаная слава. Самая святая слава на Зямлі.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

# НЕМАЎЛЯ



**Анатоль ПАЗНЯК**

## Пра кола, Колю і кол

**(вопыт вершавання хуткавымаўлянкі)**

**На палянцы каля поля,**
**Кола круглае ляжыць.**
**Каля кола хлопчык Коля**
**Доўгі час з калом стаіць.**
**Вось раптоўна хлопчык Коля**
**Шпарка некуды бяжыць,**
**Дзе быў ён, на ўскрайку поля,**
**Каля кола кол ляжыць.**

**А. СМІРНОЎ-ЛАПІЦКІ**

## Лічылка

**2 ды 2—ужо 4.**
**Студзень, люты, красавік.**
**Я вучуся на касіра,**
**Выхадзі на першы лік.**

**2 ды 6, здаецца,—8.**
**8 менш чым 35.**
**На двары яшчэ ня восень,**
**Выхадзі са мной гуляць.**

**2 ды 8—гэта 10.**
**Снег ідзе, а з ім—дажджы.**
**Баба ў ступе ваду месіць,**
**Выхадзі дапамажы.**

**2 ды 10—колькі будзе?**
**Людзі кажуць што тузін,**
**А яшчэ казалі людзі:**
**Застаешся ты адзін!**

# Добрай ночы, «кореши»!

Не бойцеся, ніякі я не касмічны прышэлец—я самы звычайны маленькі зямлянін. А яшчэ я—лунатык, бо вандрую кожную ноч па Млечнаму шляху, узброіўшыся вялікім цесаком. Але чаму ўзабраўся так высока? Чакайце, зараз распавяду.

Таксама як і вы, я некалі соладка, моцна і адразу засынаў, ледзьве дагледзеўшы па тэлеку «Калыханку», якую дзядзькі-дэпутаты літасціва выпускалі на экран кожны вечар —ці снег, ці вецер, ці нават апошні дзень сесіі. І вось аднаго разу, здарылася гэта, добра памятаю, адзінаццатага красавіка, калі мама, як заўсёды ўвечары, уключыла тэлек, на экране раптам засвяціўся Чараўнік. Ён мовіў дзівосную лічылку і зачараваў мяне:

**Вышел месяц из тумана,**
**Вынул ножик из кармана,**
**Буду резать, буду бить,**
**Всё равно тебе водить.**

Здавалася, усё было звычайным, бо не ўпершыню, дый дзядзя, як заўсёды, пажадаў мне добрай ночы і ўсміхнуўся, але я... са мною, далібог, нешта здарылася. Дарэмна спрабаваў заснуць, накрыўшыся з галавою коўдраю, «месяц с ножиком», здавалася, пільнаваў мяне і пад коўдраю. Дарэмна паўтараў я замову ад жаху:

**Збеглі зайкі ўсе ў лясы,**
**Зніклі птушак галасы,**
**І буслы ў гняздо схавалі**
**Свае доўгія насы.**

**Баю-бай, баю-бай,**
**Вачаняты закрывай...**

Не дапамагала. А іншай замовы я не ведаў. Сон не ішоў, затое калі гадзіннік прабіў апоўнач, прыйшоў, хто б вы думалі, Шэрлак Холмс, хіжа ўсміхнуўся і без усялякага ўступу прапанаваў:

— Беримор! А вы не желаете совершить прогулку по Млечному пути? Поверьте, сэр, это гораздо интереснее, черт возьми, чем все мои химические опыты, вместе взятые.

Я нічога не разумеў, і потым, чаму ён мяне называе нейкім Бэрыморам? Я недаверліва, скоса пазіраў на яго, але Холмс, нібы прачытаўшы мае думкі, аптымістычна дадаў:

— Элементарно, Ватсон!

І мы паехалі, дакладней, паплылі. Мы плылі ў БЛАКІТНЫМ вагоне, які хутчэй нагадваў кеб узору XIX стагоддзя, чымся той сучасны, на якім бабуля Шапакляк зрэдчас адпраўляецца ад Дома радыё невядома куды. Мы плылі па БЛАКІТНАМУ ручайку, з якога, я добра ведаў, «начинается река», і мы зусім былі блізкія да «БЛАКІТНАЙ мары ружовага дзяцінства», бо на «БЛАКІТНЫМ экране», які зусім побач спакойна выпраменьваў «мірны атам», раз-пораз круцілі, бадай, садысцкія мульцяшкі.

**Может, вы обидели кого-то зря?**
**Календарь закроет старый лист,**
**К новым приключениям**
**спешим, друзья...**—

супакойвалі мяне героі мульцяшак.

Я міжволі любаваўся блакітам і дзівіўся, чаму яго так многа вакол, я запытаўся пра тое ў Холмса, але ён чамусьці сарамліва апусціў вочы і маўчаў. Затое гарланілі падпіўшыя трактарысты, перайначыўшы МАЮ калыханку на СВОЙ капыл:

**Спяць і мышкі, і стрыжы,**
**Спяць мужчыны ў гаражы,**
**Ты таксама каля бабы**
**Ціха-ціхенька ляжы.**

Ім было весела, а мне—да абыякавасці сумна. І я вырашыў тады ўзяцца за розум і болей нічога-нічога не пытацца ў дарослых, бо яны ўсё адно не ведаюць ПРАВІЛЬНАГА адказу на мае бясконцыя «ЧАМУ?» і толькі сарамліва хаваюць вочы. Я вырашыў сам шукаць адказы на свае пытанні і, пакінуўшы грэшную зямлю, адзінокі падаўся на Млечны шлях.

Але і там пытанні даставалі мяне.

**Там, далеко-далеко,**
**Кто-то пролил молоко**
**И получилась млечная дорога...**

Хто і навошта? Няўжо і на небе гаспадарнікі «дурней за трактар», што выліваюць «малочныя рэкі» і рассыпаюць «кісельныя берагі». І раптам да мяне дайшло— рэкет!

**Вышел месяц из тумана,**
**Вынул ножик из кармана...**

Дай-ка і я на ўсякі пажарны абзавядуся цесаком. З чым чорт не жартуе:

**Буду резать, буду бить...**

Такім чынам, я — Гамлет, прынц дацкі, блукаю зданню па начах, нават тады, калі пад нудныя парламенцкія дэбаты ахвотна засынае ўся краіна, блукаю з цесаком па вечнаму Млечнаму шляху і выношваю новы ўнутраны маналог:

**Быць або не быць...**
**Нацыянальнаму мульціку**
**На «Беларусьфільме» —**
**Вось у чым пытанне!**

Споведзь выслухаў
Міхась ВАЛОХА.




# Выкапні

**Багатаму чорт дзяцей калыша, а беднаму—дзіцячы садзік.**

**Голы разбою не баіцца, апрануты—рэформы цэн.**

**Хоць няўежна, ды языку няўлежна.**

**Недастаткі бяруць астаткі, астаткі бяруць крамшчыкі.**

**Беднаму добра спіцца ўночы, а багатаму—у Сочы.**

**Той мае, хто ў Швейцарыі трымае.**

**Часам з квасам, а парою з Указам.**

**Клін клінам выбіваюць, а блін—забастоўкаю.**

**Калі маеш хлеб, то будуйся, калі не маеш—перабудоўвайся.**

**Сухая лыжка рот дзярэ, сухі закон—вінаграднікі.**

**На бога спадзявайся, а суверэнітэту трымайся.**

**Поп з крыжам, чорт з чаркай, а я—з драўляным рублём.**

**Салдат не баіцца і пекла — баіцца «дзедаўшчыны».**

**На радзіме і паміраць лягчэй,... чым жыць.**

**Кроў—не вада, разліцы шкада, бывае—абувае.[1]**

*1. Дзе-нідзе донарам узялі моду выдаваць талоны на абутак.*

# ЯК ЖЫВЕШ, КІНО,

## або Што новага можа сказаць класіка?

**Беларускі кінарэжысёр Віталь Шувагін вядомай творчай «візітнай карткі» пакуль не мае. Прэм'ера яго першага мастацкага фільма «Ноч пры дарозе» адбылася два тыдні назад. У цітрах карціна заяўлена як «імправізацыя ранніх твораў К. Чорнага і М. Гарэцкага». Па-першае, само звяртанне да класічнай беларускай літаратуры ўжо заслугоўвае ўвагі, а па-другое,.. імправізацыя. Замест, здавалася б, звычайнага — экранізацыя. Але фільм сапраўды незвычайны...**



УЯВІЦЕ САБЕ, ёсць містыка, але глядзіце вы не казку і не навуковую фантастыку, ёсць эратычная сцэна, але няма прывычнай дэманстрацыі палавога акта, з'яўляюцца першыя савецкія камісары, але фільм не толькі аб гісторыі — у ім і сучаснасць са сваім ужо набалелым пытаннем, «ці аддаць зямлю сялянам?» А яшчэ прысутнічае ў фільме Думка — тое, што павінна вызначаць галоўную каштоўнасць.

Расказ К. Чорнага «Ноч пры дарозе» — філасофская прытча, сустрэча Чалавека і Смерці, вымярэнне значнасці і неабходнасці аднаго, імгненнасці і неабарачальнасці другой.

Галоўныя героі фільма — батлейшчыкі — дзядзька Улас і малады хлопец Кузьма сустракаюць на сваім шляху камісараў Старшога і Камсу, безыменных новых людзей безаблічнай новай улады. Тыя прыехалі ў вёску праводзіць «палітыку кіруючай» — раскулачванне. Прыехалі... зладзеі. І каб адразу пераканаць у гэтым гледача, высвятляецца наступнае: многа гадоў назад Старшой украў у дзядзькі Уласа жонку і сына. І вось сустрэча: Камса і два яго бацькі — па крыві і па духу...

Яшчэ ў самым пачатку з'яўляецца на экране лялечны тэатр, у якім пануе галоўная лялька — цар-ірад. Жэст невыпадковы: такім тэатрам было наша жыццё. Усемагутны ірад сярод бястварага і бязгучнага натоўпу — цяжкі час знішчэння агульначалавечых каштоўнасцей і перамогі мнімых ідэй, за якімі прыйшлі смерць і разбурэнне, фальш і здрадніцтва. Крах маральных устояў як следства кіравання чалавечымі эмоцыямі і пачуццямі, розумам і душой. Няздольнасць самастойнага існавання нараджае абыякавасць і маразматычнасць — гэтае адчуванне ўсегульнага маразму ў фільме з'яўляецца неаднойчы.

«Я ні аб чым новым не здымаў», — скажа пасля прэм'еры В. Шувагін. І сапраўды, ці мала ўжо разоў бачылі мы «камуністычную экспансію» ў сучаснай афарбоўцы: жорсткасць, цынізм і нахабства чырвонага новаўладдзя. У фільме В. Шувагіна гэтага няма. Нават, наадварот, камуніст Старшой — чалавек у многім станоўчы, які жадае дабра. Але што такое Дабро ў яго разуменні? Ці магчыма яно, калі ўжо аднойчы разам са стратай веры і чалавечых каштоўнасцей спусцілася на зямлю Зло, бязлітаснае і жыццяздольнае. Зло — фізічная смерць, якая становіцца неадступнай. І моўчкі назірае побач моцны альянс Зла і тых, хто яго ажыццяўляе. А крывавы след гэтага непарыўнага адзінства яшчэ наперадзе, калі ў недалёкім ужо трыццаць сёмым Камса застрэліць Старшога, свайго бацьку і таварыша. Зло — перад намі. І не трэба немілагучных слоў і непрыстойных жэстаў, каб пераканаць у гэтым гледача. Рэжысёр знаходзіць такое выйсце: некалькі «адштурхоўваючых» элементаў і разам з фізіялагічнай прыходзіць і маральная агіда. За ёй — абурэнне...

Магчыма, яно, абурэнне, авалодае месцамі і некаторымі ахоўнікамі гістарычных дакладнасцей. Ну, скажам, карыстанне ў «экранным» трыццаць другім машынай, якую зробяць яшчэ ў трыццаць сёмым. Або не спадабаецца каму стылістычная вольнасць аўтараў стужкі. Маўляў, адкуль узяліся сучасныя словы, якіх паўстагоддзя назад і не ведалі? Дакладнасць гістарычных фактаў — усё ж не самае галоўнае. Ды і быць да канца дакладным у бытавых абставінах шматгадовай даўнасці не дазваляюць часам нашы бытавыя абставіны. Безумоўна, з цягам часу мяняюцца ўзоры машын і жаночыя сукенкі, але нязменнымі застаюцца для людзей боль і смутак, адчай і надзея. Чалавечыя пачуцці не падпарадкоўваюцца часу. Хутчэй наадварот. Хто ж распарадзіцца табой, час?



Гэтую «звышзадачу» пісьменнік К. Чорны вырашыў адназначна — новыя людзі. Чыстыя і сумленныя. Камуністы і камсамольцы. Рэжысёр В. Шувагін сваім фільмам сцвярджае іншае: будучае за людзьмі «з храмам у душы». І не мае сэнсу іх «палітычная накіраванасць» або адсутнасць яе ўвогуле. І любая дарога ў пошуках гэтага храма павінна прывесці да сябе. І несці гэтую складаную, адказную ношу трэба самому, як нясе сваю батлейку дзядзька Улас. Свой храм, свой крыж...

Невычарпальная глыбіня вобраза, створанага К. Чорным у літаратуры і В. Шувагіным у фільме, непаўторная роля вялікага Майстра Г. Гарбука: у адказны



момант батлейшчык Улас не становіцца ні забойцам, ні здраднікам. Вось тут ён, беларус, — не забіць і не здрадзіць — тут яго храм.

Фільм «Ноч пры дарозе» дэбютуе. І разам з ім упершыню з'яўляюцца перад гледачамі студэнты БДТМІ А. Юрчанкава і С. Журкоўскі, студэнт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі Я. Пятроў. На наш суд выносіць сваю работу аператар-пастаноўшчык В. Шваоў, мастак-дэкаратар Г. Лазарэнка, кампазітар С. Бельцюкоў, ну, і, безумоўна, сцэнарыст Н. Чэпік і рэжысёр В. Шувагін. Для больш сталых і вопытных Г. Гарбука, А. Ткачонка, С. Марозава і «самага прафесійнага акцёра» Кешы Січкара, хочацца спадзявацца, фільм таксама быў у нечым дэбютам. Ёсць і яшчэ адзін чалавек, які, нягледзячы на тое, што застаўся «за кадрам», мае самае непасрэднае дачыненне да карціны. Гэта кіраўнік Беларускага рэгіянальнага цэнтра Міжнароднай асацыяцыі «8 Дзень» В. С. Кеменбет. Цэнтр стаў спонсарам фільма.

**Майя ШЭНДРЫК.**

**НА ЗДЫМКАХ: кадры з фільма «НОЧ ПРЫ ДАРОЗЕ».**

*Тэатру прысвячаецца*

# Паўгадзіны—і ўсё жыццё

**Нядаўна Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы справіў сваё 70-годдзе. Гэтай знамянальнай падзеі дакументалісты творчага аб'яднання «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» прысвяцілі свой фільм «Першая сцэна» (аўтар сцэнарыя Д. Міхлееў, ён жа і рэжысёр, аператар Ю. Плюшчаў).**

ПЕРАД СТВАРАЛЬНІКАМІ гэтай кінастужкі стаяла вельмі складаная задача. Каб паведаміць шырокаму гледачу пра славуты, таленавіты калектыў, якім вось ужо шмат гадоў кіруе заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Раеўскі, яны павінны былі ўкласціся ў нейкія паўгадзіны часу, а гэта значыць «уціснуць» у іх ажно сем дзесяцігоддзяў...

З кадра ў кадр перад гледачом паўстаюць акцёры розных пакаленняў і ўзростаў, прадстаўнікі розных школ і напрамкаў. І, вядома ж, адна з самых папулярных — Стэфанія Станюта. Колькі незабыўных вобразаў створана ёю! З яе імем звязана цэлая эпоха. Велізарную пашану заваявала яна ў мільёнаў гледачоў.

Аўтары фільма знаёмяць нас з некаторымі этапамі станаўлення, развіцця і творчымі пошукамі майстроў сцэны, паведамляюць аб гістарычным мінулым тэатра, расказваюць пра яго першага рэжысёра Фларыяна Ждановіча.

Міне час, і стануць шырока вядомыя імёны тых, хто назаўсёды ўвойдзе ў гісторыю купалаўцаў: Крыловіч, Ржэцкая, Глебаў, Платонаў...

На сцэне славутага тэатра пакінуў глыбокі след рэжысёр і драматург Еўсцігней Міровіч. Яшчэ на пачатку 20-х гадоў тэатр стаў цэнтрам нацыянальнай культуры. Нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, складаныя арганізацыйныя і творчыя праблемы, ён з дня ў дзень аб'ядноўваў лепшыя сілы літаратараў. На яго сцэне з велізарным поспехам ішлі спектаклі паводле п'ес Янкі Купалы, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы.

Фільм расказвае і пра тое, што лепшыя традыцыі адносна рэпертуару, выкарыстання найбольш таленавітых драматургаў захоўваюцца і па сённяшні дзень. П'есы беларускіх аўтараў складаюць аснову рэпертуару. Не выходзяць з афіш імёны Караткевіча, Макаёнка, Дударава...

Але ж, як зазначаюць кінадакументалісты, час так званага застою балюча адбіўся на развіцці самабытных традыцый тэатра. Прынцып фінансавання культуры па астаткаваму прынцыпу, дробныя падарункі ў выглядзе дыпломаў на аглядах-конкурсах не стымулявалі творчы працэс, на жаль, такое прыніжанае становішча захавалася і да нашага часу. Дырэктар тэатра І. Вашкевіч усё гэта перажыў на ўласнай «скуры».

Так, у тэатральным калектыве нямала праблем, якія чакаюць свайго вырашэння. Найбольш вострыя з іх — матэрыяльная незабяспечанасць акцёраў. Іх праца і дагэтуль застаецца самай нізкааплатнай.

Ёсць, аднак, надзея на лепшае. У шматлікіх кадрах паказана, што тэатр нібы адраджаецца. Сёння без галасоў купалаўцаў немагчыма ўявіць Беларускае радыё, тэлебачанне, кіно. Менавіта ім належыць вядучая роля ў адкрыцці нацыянальнага характару на беларускім экране. Прыгадаем у гэтай сувязі М. Яроменку, В. Тарасава, В. Белахвосціка, П. Кармуніна, Г. Макараву, тую ж С. Станюту...

На жаль, тэндэнцыя прыцягнення беларускіх артыстаў у кіно слабее. Замест гэтага вядуцца пошукі выканаўцаў за межамі рэспублікі.

Пра гэтыя і многія іншыя праблемы расказвае ў фільме народная артыстка СССР Стэфанія Станюта. Цікава паслухаць, як яна працуе над ролямі, над увасабленнем вобразаў у тэатры і кіно. У ветэрана тэатра Я. Купалы ёсць чаму павучыцца тым, хто збіраецца прыйсці на змену старэйшым. Рыхтуе гэту змену Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Адсюль выходзяць акцёры, рэжысёры, мастакі. Тут пачынаецца тэатр новага пакалення. Тут сцэнічнаму майстэрству вучаць шырока вядомыя тэатральнай грамадскасці Валерый Раеўскі, Аўгуст Мілаванаў і многія іншыя майстры-педагогі. Кінакамера знаёміць нас з таямніцамі іх творчай і выкладчыцкай дзейнасці, паказвае, як беражліва перадаюць яны свой вопыт, усё назапашанае імі сваім паслядоўнікам.

Дзякуючы зноў жа кінакамеры мы прысутнічаем на рэпетыцыях у тэатры імя Я. Купалы. З якім захапленнем гавораць пра сваю творчую дзейнасць Генадзь Аўсяннікаў і Галіна Макарава.

І вядома ж, з непадкупнай цікавасцю глядзяцца сцэны з розных спектакляў купалаўцаў, гордасцю якіх быў і застаецца на ўсе часы славутая «Паўлінка».

**Алена ПУГАЧОВА.**

*Сакрэт сакрэтаў*

# НЕПАПУЛЯРНАЯ ПАСАДА,

## або Чаму настаўнікам не хапае гэтай самай нестандартнасці

**Хочаце—верце, хочаце — не, а дырэктар Дома культуры вёскі Пясочнае Генадзь Ярмак з'яўляецца класным кіраўніком у мясцовай сярэдняй школе. Пад сваю апеку ён узяў дзесяцікласнікаў. І, па чутках, спраўляецца з гэтым абавязкам някепска.**

У МІНУЛЫМ навучальным годзе клас аказаўся беспрытульным: класны кіраўнік ад яго адмовілася, а ў іншых настаўнікаў не ўзнікла жадання «звязвацца». Яно і зразумела, дзевяты наводзіў жах сваімі «поспехамі»: два, як кажуць, закаранелыя двоечнікі, што прысутнічалі на занятках толькі эпізадычна — у пачатку чвэрці, ну і пару разоў — у канцы (іх у рэшце рэшт давялося выключыць са школы), і яшчэ пяць абармотаў, якім не вельмі хацелася вучыцца (зараз яны ў ПТВ). Ды і астатнія — не падарунак.

Далей гісторыя разгортвалася якраз у духу часу. На пасяджэнні савета школы і дзеці, і іх бацькі прапанавалі Генадзю (ён прысутнічаў як член бацькоўскага камітэта) узначаліць клас. Настаўнікі таксама падтрымалі кандыдатуру на гэтую непапулярную пасаду. Генадзь згадзіўся.

Праўда, узніклі складанасці з раённым аддзелам народнай адукацыі. Дырэктар школы А. В. Бурло дзейнічаў энергічна, і нарэшце здаровы розум перамог. Загадчык райана М. М. Гаўрыленка заключыў:

— Як рашылі на месцы, няхай так і будзе.

І вось з 1 верасня 1990 года Генадзь Ярмак паўнапраўны член настаўніцкага калектыву Песачанскай адзінаццацігодкі. Яму дaручылі выкладаць курс гісторыі сусветнага мастацтва. Плюс драматычны гурток.

— Зараз дзесяты займаецца без «двоек»,— заўважыў дырэктар школы.

— Не, «двойкі», вядома, трапляюцца,— удакладніў Генадзь.— Але не часта. А Таццяна Мароз, Саша Цвірка, Ваня Місючэнка займаюцца амаль на «выдатна». Наогул, у мяне ўсе вучні нечым адметныя. Хто займаецца крыху горш, напрыклад, Вова Сінкевіч, Ігар Рымашэўскі, Наташа Шаблюк ці Саша Галубовіч (зразумела, не ва ўсіх аднолькавыя здольнасці), той кампенсуе гэта актыўным удзелам у пазакласнай рабоце.

У апошнім мне самому давялося пераканацца: прысутнічаў у Песачанскай СШ на навагодняй куцці — першым падобным мерапрыемстве ў школе. Уся тэатралізацыя — і Дзед Мароз, і Снягурка, і кампанія нячыстай сілы — «трымалася» на дзесяцікласніках. А Саша Цвірка ў ролі паштальёна Печкіна праявіў сябе сапраўдным артыстам.

Пабываў і на КВЗ, на які песачанцы запрасілі каманду сярэдняй школы з вёскі Сямёнавічы Уздзенскага раёна. Шчыра, такое свята гумару і сатыры, кемлівасці і знаходлівасці я на Капыльшчыне бачыў упершыню. Песачанцы ўжо маюць пэўны стаж удзелу ў падобных мерапрыемствах, таму і атрымалі перамогу над «маладой» камандай суседзяў.

А нядаўна члены КВЗ з Пясочнага прымалі на сцэне мясцовага Дома культуры гасцей з СШ №№ 2 і 3 горада Капыля. Праўда, тут гаспадарам пашанцавала менш.

Нязменны рэжысёр і сцэнарыст — Генадзь Ярмак, нязменныя памочнікі і галоўныя ўдзельнікі — яго вучні.

— Заразіць іх цікавай ідэяй вельмі проста,— расказвае Генадзь.— І за ажыццяўленне ідэі мае дзесяцікласнікі бяруцца з энтузіязмам.

— Я так зразумеў, што перашкаджаць табе як дырэктару Дома культуры — кіраўніцтва класам не будзе.

Мяне хвалюе іншае пытанне: напэўна, цяжка з дзецьмі без спецыяльнай падрыхтоўкі?

— Дарэчы, усё так пераблыталася, што ўжо не зразумееш, дзе асноўнае, а дзе не. Ды чаму без спецыяльнай падрыхтоўкі? — Генадзь здзіўлена ўскінуў бровы.— Калі вучыўся ў інстытуце культуры, дык адна з курсавых работ у мяне была па педагогіцы. І па сваёй спецыялізацыі я заўсёды браў тэмы, звязаныя з выхаваннем. Тым больш, я ж у школе, а не ў лесе. Побач вопытныя настаўнікі. Арыентуюся, напрыклад, на Ірыну Харытонаўну Лагвіновіч: чалавек прыходзіць не проста даць урокі, а жыве школай.

Ды і сам маю такія-сякія меркаванні. Думаю, часта выкладчык не можа знайсці агульнай мовы з класам таму, што вельмі хутка забывае пра тое, як сам сядзеў за партай, якім тады быў. Стараюся не забываць, часцей ставіць сябе на месца вучняў, шукаю нестандартныя падыходы ў індывідуальнай рабоце з дзесяцікласнікамі. Хачу, каб школа для іх была не нейкім казённым домам, а каб сюды цягнула, каб тут душы было ўтульна.

Можа, сапраўды, нашым настаўнікам не хапае гэтай самай нестандартнасці? Можа, гэта дрэнна, што яны з самага пачатку запраграміраваны на вучобе, а не на дыялог роўных, на адкрытыя зносіны са школьнікамі? Хто ведае... Сакрэт сакрэтаў — чаму аднаго настаўніка дзеці паважаюць і любяць, а другога — не — кожны адкрывае для сябе сам. Генадзя, заўважыў, паважаюць.

— А як ты сочыш за паспяховасцю?

— Па-першае, рэгулярна правяраю класны журнал. Па-другое, пытаюся ў іншых выкладчыкаў, як яны ацэньваюць кагосьці з вучняў у маім класе. Ды калегі і самі гавораць. Вядома, даводзіцца таго-сяго з маіх малайцоў ушчуваць за «кульгавасць» па якому-небудзь прадмету.

— Вернемся да пазакласнай работы...

— Будую яе па прынцыпу: каб было цікава. Вось, напрыклад, задумалі серыю класных гадзін з прафарыентацыйным ухілам. Маім школьнікам да выпуску яшчэ больш як год, але няхай пакрыху вызначаюцца. Думаем запрасіць на гэтыя гадзіны прадстаўнікоў розных прафесій. Калі чалавек сам расказвае аб тым, чым займаецца, дык лепш уяўляеш яго.

А вечары адпачынку для мясцовай моладзі?! З апошніх памятаю буйную начную шоу-праграму. А колькі планаў! Фантазія Генадзя неўтаймоўная.

Дык што такое школа для Г. Ярмака: магчымасць дадатковага заробку ці нешта іншае?

— Ведаеш, хачу паспрабаваць. Некалі я — разгублены выпускнік — трызніў гістарычным факультэтам і настаўніцтвам. Але потым жыццё інакш раскінула карты — выпала культура. Дык вось і думаю, а ці не кінуць яе? Ці не ўладкавацца ў школу «навечна»? Можа тут мае здольнасці праявяцца больш поўна?



Дарэчы, на адну такую гадзіну разам са студэнткай Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Горкага Людмілай Краўчанка (былой выпускніцай Песачанскай СШ) запрасілі і мяне. Агітаваў за журналістыку: можа, хто з вучняў Генадзя Ярмака і абярэ яе справай жыцця. Буду вельмі рады.

Можна толькі пазайздросціць працаздольнасці гэтага невялікага ростам, рухавага чалавека. Не забывайце, ён жа яшчэ і дырэктар Дома культуры. Дык вось той дом рэдка калі абыходзяць бокам прафесійныя і самадзейныя мастацкія калектывы. То цырк, то ліліпуты, то экстрасенс. З кожным трэба дамовіцца, забяспечыць належныя ўмовы для выступлення.

У Пясочным — перыферыя Капыльшчыны — арганізаваны і першы відэасалон. І з гэтым узнікла шмат клопатаў: давялося вытрымаць наплыў розных камісій і правяральшчыкаў — ці ўсё законна?

А «пад крылом» Генадзя яшчэ і «дарослая» самадзейнасць. У мінулым годзе песачанцы выязджалі з канцэртамі ў Міронаўскі раён Кіеўскай вобласці. Упэўнены, нешта падобнае плануецца і сёлета. А гэта — рэпетыцыі і рэпетыцыі.

Не ведаю, што возьме верх. Ды, мабыць, і сам Генадзь не ведае. Сапраўды, усё пераплялося і пераблыталася — суцэльны клубок спраў, за якія баліць душа, і кінуць іх ужо не дазваляе сумленне.

**Сяргей КВІТКЕВІЧ.**

**Фота С. Плыткевіча.**

*Школьны тэлетайп*

### НА ТАБЕ, БОЖА...

Настаўнікам Сахалінскай вобласці мясцовыя ўлады перадалі пад пансіянат абкомаўскія дачы. Прыклад, варты пераймання? На жаль, не. Напярэдадні адтуль вывезлі амаль усё абсталяванне...

### ШКОДНАЯ ФОРМА

Магчыма, вы ўжо сустракалі паведамленні аб тым, што кааператыўная цацка са штучнага футра здольная выклікаць у дзяцей алергічныя рэакцыі. Шкодныя для здароўя і капронавыя ніткі, якія выкарыстоўваюцца замест бавоўняных, і сінтэпон, які замяняе вату.

Але, як аказалася, шкодныя для здароўя алергены можа ўтрымліваць і звычайная школьная форма. Такія факты засведчыла Талінская санэпідстанцыя.

### «ДЗІКУНЫ», НЕ ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ Ў СТАЛІЦУ!

«Канікулы ў Маскве» — так называецца карта, якую выпусціла Галоўнае ўпраўленне геадэзіі і картаграфіі сталіцы. Што ж адметнага для школьніка знайшлі складальнікі турысцкай схемы? Перш за ўсё рэвалюцыйныя месцы — ад Маўзалея да жалобнага поезда. Далей чамусьці адзіны з усіх паркаў горада — Цэнтральны парк культуры і адпачынку і ВДНГ, якая перажывае цяпер не лепшыя часы. Музеі, тэатры, стадыёны і дзіцячыя кінатэатры — стандартны і даволі сумны пералік выдатных мясцін горада. Чаго ж не знойдзеш у схеме? Таго, што вельмі важна для перапоўненых уражаннямі дзяцей і іх заматаных бацькоў ці настаўнікаў: дзе пераначаваць, дастаць білеты, хуценька пад'есці. Так, калі сталіцу наведвае арганізаваная экскурсія, яе чакае комплекснае абслугоўванне. А вось калі яны «дзікуны», то давядзецца паўгалоднымі бадзяцца па вуліцах, з жадобай пазіраючы на зачыненыя для іх «ачагі культуры». Напрошваецца пытанне: дзеля чаго такая карта? Зноў для паказухі?

**Падрыхтавала А. СТРЭХАВА.**

*Школьны тэлетайп*

# НЯЛЮБА

## НЕ ЧЫТАЙ

Недзе тут недалёка бярэ выток рэчка Бярэзіна. Нават не верыцца, што некалі і па ёй хадзілі вялікія баржы, і быў шырокі водны шлях на багаты сонцам поўдзень. Бярэзіну цяпер на Лепельшчыне пад час сухога спякотнага лета можна перайсці бродам, надта не падкасваючы штаноў. Што і казаць, парупіўся навукова-тэхнічны прагрэс, дый не апошняе важкае слова ўставілі меліяратары.

Тут, на Лепельшчыне, не толькі Бярэзіна — ёсць і Ула, і Эса, і яшчэ паўнаводнае, і яшчэ непаўторнае возера пад пахаю ў самога раённага цэнтра, пра якое Пятрусь Броўка пісаў:

**Быццам хто кавалак кінуў мора**

**Гэтым месцам людзям для забаў.**

А на Эсе яшчэ і пры маёй бытнасці проста ля шашэйкі жылі сабе, гора не ведалі лебедзі-птушкі цалюткую зіму. Яны даверліва бралі хлеб у людзей з рук, мабыць, не ведалі, што людзі бываюць жорсткімі і злымі. Некуды зніклі адначас даверлівыя лебедзі. Некуды знікла пакрысе давер'е і між людзей, саступіўшы месца, бадай, звярынаму эгаізму, зайздроснае сквапнасці, купі-прадажнае псіхалогіі ці то псіхозу, які, падобна, аказаўся мацнейшым за звычайныя чалавечыя пачуцці і займеў уладу над людзьмі. Ці то мне так здаецца. Ды што ківаць на звяроў — хіба яны ўмеюць так люта ненавідзець, так хіжа зайздросціць і адмысловыя плесці інтрыгі, як умеюць рабіць гэта людзі?

Лепельшчына — край лясны і азёрны. Тут здавён веку, як грыбы, радзілі паэты. Хто ведае, можа, клімат, спакойны, роўны і не суровы, спрыяў творчасці, а мо сам народ умеў прывецціць ды паслухаць сыноў сваіх, бо пачуць, «аб чым там араты пяе», меў такую ж патрэбу, як і з'есці скарынку хлеба надзённага. Толькі ўжо з тых часін, калі, паводле сведчання гісторыкаў, у маёнтку Цяпіна, недалёка ад Лепеля, падзвіжнічаў славуты Васіль Цяпінскі, ужо з тых часін ніколі не пераводзіліся на гэтай зямлі таленты. Толькі пералічыць: празаік Пятро Дудо, драматург Міхась Модэль, паэты Анатоль Вярцінскі, Тодар Кляшторны, а зараз і дачка яго Таццяна Кляшторная, таксама паэтка, у мінулым старшыня тутэйшага літаб'яднання. Хадзілі лепельскімі сцежкамі і паэты з Ушаччыны Еўдакія Лось ды Пятрусь Броўка. Дый зараз хто праездам, далей, а хто сюды, на бацькаўшчыну, едуць літаратары са сталіцы ўсё па віцебскай шашы, «бягом у Бягомль, а лепей — у Лепель», праўду казаў Рыгор Барадулін:

**Трэба дома бываць часцей,**

**Трэба дома бываць не госцем,**

**Каб душою не ачарсцвець,**

**Каб не страціць святое штосьці.**

Гэты раз сустракалі «вожыкаўцаў» — Івана Стадольніка, загадчыка аддзела літаратуры, і Анатоля Гармазу, галоўнага мастака часопіса. Дагэтуль яны пабылі ўжо ў Домжарыцах — «сталіцы» Бярэзінскага запаведніка, сустракаліся са старшакласнікамі і ў самім Лепелі.

Клопатна было ў тыя дні Веры Барадзіч, адно што клопаты прыемныя. Запрасіла яна «вожыкаўцаў» сама, так сказаць, па ўласнай ініцыятыве, на правах старшыні мясцовага літаб'яднання «Выток». Запрасіла на свой страх і рызыку. А правы ў старшыні аказаліся птушынымі. Так і не знайшлося ў Лепелі ніводнае зацікаўленае арганізацыі, якая хаця б пуцёўкі аплаціла «дарагім гасцям» са сталіцы. Нехта зноў жа абачліва скасавурыўся, нехта зрабіў выгляд, што яго гэта не датычыць. Прыехалі і прыехалі, выступілі — і добра, а калі што якое, дык чорт яго ведае, а можа, яшчэ якія «бэнээфы»?

**Да слова прыйшлося. Проста часам у «глыбінцы» пачуеш: не пястуюць, маўляў, нас майстры мастацкага слова, зазналіся пісьменнікі, засталічыліся, нават дадому едуць з неахвотаю. А ці заўсёды з ахвотаю «дома» іх сустракаюць? Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. А не хадзіць у лес — то і не расці на лес гледзячы. Вось і сядзяць у «глыбінцы» каторыя чыноўнікі ад ідэалогіі, як мышы, пахаваўшыся па норах і падняўшы планку інтэлектуальнага ўзроўню не вышэй свае чупрыны, і думаюць, што дасягнулі абсалюту дасканаласці, яшчэ й ганарацца тымі дасягненнямі, нібы кожны з іх уласнаручна надаіў ад кожнай каровы малака плюс да адпаведнага перыяду мінулага года.**

**У літаб'яднання «Выток», па ўсім відаць, крытэрыі іншыя. Не сказаць, каб «вытокаўцы» былі «вытокаўцамі», прэтэндуючы звацца людзьмі нейкага іншага гатунку ды іншых, скажам так, «благородных кровей», але ўсе яны яшчэ маладыя людзі самых розных, зрэшты, не толькі спецыяльнасцей, але і поглядаў, прызнаюць адно дружна — патрэбнасць расці. А паэт-гумарыст Уладзімір Седзін так і заявіў:**

— Ухваляю любы рух.

— Няўжо і «броўнаўскі» і «бэнээфаўскі» таксама? — весела дапытваўся я.

Уладзімір — выкладчык мясцовага тэхнікума. Педагогу — і карты ў рукі. Каму ж, як не настаўніку, засталося рухаць навукова-тэхнічны прагрэс? Паверце, настаўнік яшчэ і сёння, нягледзячы ні на што, застаецца самым мужным і, можа, адзіным між нас змагаром за ідэалы. Яму іначай нельга, дзеці чакаць не будуць, возьмуць, ды вырастуць. Так што апрані надзейны панашаны касцюмчык, набыты яшчэ па дарыначных цэнах, пасып сваю галаву нуклідамі, «дабы сраму не иметь», і — у бой. А калі ў цябе яшчэ застаецца час і для гумару — тады ты кум каралю.

**Гляджу — вачам сваім не веру,**

**Хоць на падлогу падай ніц,**

**Кудысьці знікла ўся папера,**

**Як быццам скокнула з паліц.**

**Тут гаспадарыў, бачна, вецер,**

**А мо і кот яе злізаў?**

**— Не, — гандляры сказалі, —**

**Седзін**

**Яе для вершаў расцягаў, —**

паскардзілася Раіса Гольдзіна, на што, аднак, Уладзімір даў вычарпальную тлумачальную:

**Не, паперу гандляры**

**Прыхавалі да пары.**

**Без паперы і пяра**

**Вершаваць даўно пара.**

**Вам, сяброўкі і сябры,**

**Прачытаю вершы тры,**

**Пяць ці сем, калі «пад мухай»,**

**А НЯЛЮБА, дык НЕ СЛУХАЙ.**

У тыя дні мясцовая газета разы са два давала аб'яву:

**«Раённая бібліятэка сумесна з літаратурным аб'яднаннем «Выток» праводзіць забаўляльную праграму «НЯЛЮБА — НЕ СЛУХАЙ», якая ўключае песні, гумар, вершы».**

І хоць у лепельскіх крамах тым часам, далібог, гаспадарыў вецер, ды не абы-які, змёўшы каб жа адну толькі паперу, а ў народзе гаспадарыла цвёрдае перакананне, што смяецца той, хто смяецца пасля другога красавіка, тым не менш, людзі ішлі па аб'яве, на гэты раз не мяняць шыла на мыла, але адвесці счарсцвелую душу шчырым паэтычным словам.

Значыць, вы, літаратары ў «глыбінцы», патрэбны не аднаму толькі мясцоваму літаратурнаму музею, які па крупінцы ствараюць энтузіясты.

Зрэдчас творы Святланы Пліско, Людмілы Тухты, Станіслава Свірковіча, Аляксандра Штэйнгарта, Людмілы Барадзейкі, той жа самай Веры Барадзіч, Раісы Гольдзінай ці Уладзіміра Седзіна паяўляюцца на старонках раённае газеты і нават кладуцца на музыку самадзейным кампазітарам Эдуардам Міхайлавічам Літвіным. Можа, і часцей хацелася б лепяльчанам чуць паэтычнае слова землякоў, можа, і варта было б «раёнцы» абзавесціся ўласнай пастаяннай паэтычнаю старонкаю, ды што ківаць на газету, якая і сама ва ўдушлівай атмасферы папяровага голаду задыхаецца: не хапае паветра, не хапае месца нават для аператыўнай інфармацыі, вымушана, папрасіўшы прабачэння ў чытача, пачаць выходзіць усяго два разы на тыдзень. Што называецца, не да жыру—быць бы жыву.

**На чым эканомім? На інтэлектуальнай адукацыі, якая ў «глыбінцы» і так ужо даведзена да ручкі і дыхае на ладан. А ў імя чаго эканомім? У імя так званае «свабоднае» прадукцыі падчас адкрыта парнаграфічнага зместу, якая наваднiла кіёскі і наўрад ці дадасць чаго новага да непрыстойна заголеных паліц нашых крамаў. Ведаеце, мне здаецца, свабода слова яшчэ не азначае свабоды славеснае прастытуцыі, тым болей, у месцах, да такога рамесніцтва непрыдатных. Ці не таму і беларускаму слову не хапае ні тыражоў, ні паперы, што ёсць у яго больш моцны канкурэнт, які, не асабліва занепакоены сур'ёзнымі мэтамі, затое рупліва змагаецца за танную папулярнасць, а значыць, і тугі кашалёк. Магчыма, некалі мы і наб'ём кашалькі. Дапускаю нават, што напоўнім таварамі крамы, але вярнуць людзям чалавечае аблічча, але выгнаць з душы сатану, баюся, будзе позна. І гэта не настальгія, як некаму падасца, па аджыўшых і неэфектыўных «маральных крытэрыях развітога сацыялізму». Проста наша заўсёдная хвароба — паталагічная любоў да крайнасцей. Калі бяжым да камунізму, то абавязкова з рэвалюцыйна-пралетарскім сумленнем — і прэч подлыя буржуазныя перажыткі! Калі сягаем да рынку, то можна і без сумлення ўвогуле — і выкінуць яго ў прыдарожную канаву, каб не замінала, і затаптаць нагамі ў бруд. Людзі! Вы ж, таксама аддаючы даніну модзе, сабраліся лезці і лезеце ўжо ў Храм Гасподні. Куды ж вы з такімі бруднымі нагамі? Гэта ж не рай спажыўсаюзаўскай крамы, гэта Божы рай, і пуцёўкі туды не выдаюць па «візітоўках».**

Усё болей яўная палярызацыя не абмінула, на жаль, і літаратурны Парнас. Паглядзіце, як далёка ад'ехалася творчая сталіца ад «глыбінкі» не столькі ў інтэлектуальным плане, колькі ў плане рэальных магчымасцей. Не буду параўноўваць, бо смешна і гаротна параўноўваць мажлівасць друкавацца ў «сталічан» і «правінцыялаў». Так, тэарэтычна «маладым усюды ў нас дарога». Калі ласка, дадатак да часопіса «Маладосць» — ыратавальны круг для пачынаючых плаваць, цялёпкайся колькі заўгодна. Калі ласка, першыя пазіцыі ў выдавецтве, да якіх без чаргі дастаюцца даўжэй, чымся ў любой чарзе. Так і чую, так і бачу паблажлівую ўсмешку каторага аксакала ад літаратуры, маўляў, лацвей вам, маладым, зараз друкавацца. Зразумела, класікі нараджаюцца не кожнага дня, не для параўнання, успомнім, аднак, калі выдаў першы зборнік Уладзімір Караткевіч, і хто з цяперашніх маладых паўтарыў такі подзвіг у яго гады? Дый, будзем шчырымі, ці багата маладых аўтараў друкуюць нашы часопісы, тоўстыя і не надта, «завочна», карыстаючы дасланыя рукапісы? Зноў жа перавага тут у «сталічан», якім намнога прасцей зрабіць пропуск у літаратуру.

А што застаецца на долю «глыбінкі»? Калі худ, не лезь на кут? Але ж стаяць на месцы, значыць, гнісці. І лезуць — такая, прабачце, дыялектыка жыцця. Лезуць хто як можа і хто з чым можа. І «прадукцыя» неаднародная, і апрацоўка не заўсёды якасная. Бывае, і «сыравіна» добрая, ды разгубіцца малады нявопытны творца і не ведае, як лацвей адшліфаваць, давесці да ладу. А хто падкажа, калі ў «глыбінцы» днём з агнём не знайсці кваліфікаванага літкансультанта? Ідзе «сырэц» прамою наводкаю ў сталіцу, асядае тоўстым слоем глею ў аб'ёмістых рэдакцыйных партфелях, выклікаючы алергію ў тамтэйшых супрацоўнікаў. І іх таксама зразумець можна. Толькі зарыентавацца, не тое, што перачытаць-перапалапаціць завалы «літарматуры» — складаная рэч. Але ж у часопісах таксама людзі, і, між іншым, творчыя, якім трэба не толькі пісаць, але і захаваць уласны стыль. Баюся памыліцца, але, мне здаецца, пісьменнік, які працуе з рукапісамі маладых, рызыкуе «загазеціцца» ніколькі не меней, чымся малады здольны журналіст у пасрэднай шэрай «раёнцы».

**Кола зачараванае. Творчы канвеер працуе безупынку. Знізу ўверх ідзе «прадукцыя» з максімалісцкім падтэкстам: «НЕ ЛЮБА — НЕ ЧЫТАЙ», назад вяртаецца падрэдагаваная: «НЕ ЧЫТАЙ — НЕ ЛЮБА». Вядома, недзе пасярэдзіне механічна-творчага працэсу здараюцца ўдалыя публікацыі, слушныя рэцэнзіі і нават адкрыцці. Ох, гэта залатая сярэдзінка, дзе і як адшукаць яе, каб не траплялі ў адходы так трагічна-часта амаль гатовыя паўфабрыкаты? Якімі праўдамі і няпраўдамі завабіць у «глыбінку» кваліфікаваных рэцэнзентаў-дзяржпрыёмшчыкаў, каб наладзіць на месцы адбор якаснай сыравіны? Хіба завабіш, калі ўсе лепшыя здаровыя сілы магутным патокам скіравалі да цэнтра, ратуючыся ад інтэлектуальнага вакууму ўскраін, якія самі ж і ўтварылі?**

У маленькай утульнай зале раённае бібліятэкі — вялікая і неардынарная дзея. Не так часта збіраюцца людзі затым, каб і было што распавесці, і было каму, дый паслухаць было каго, абмяняцца небагатым пакуль творчым вопытам, падумаць разам, як ратаваць тое слова, якое кожнаму тут па-свойму дарагое, як выбавіць слова з агульнае бяды.

Радзілі на Лепельшчыне з даўніх давён грыбы і паэты. Няхай жа і надалей пашанцуе гэтаму адносна экалагічна чыстаму краю не зарасці духоўным палыном. Рупнасці табе, паэтычны «Выток», і плыві смела ў вялікую літаратуру. Можа, і яна, родная беларуская, дачакаецца калі часіны, каб магла мець, па-сучаснаму кажучы, альтэрнатыўны выбар ды з годнасцю заявіць новаму нацыянальна-свядомаму чытачу: НЯЛЮБА — НЕ ЧЫТАЙ! Ці дачакаемся?

**Уладзімір МІХНО.**

## ПОЛАЦКАЕ ПРАФЕСІЯНАЛЬНА-ТЭХНІЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА № 2 БЫТАВОГА АБСЛУГОЎВАННЯ

### АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ НАВУЧЭНЦАЎ НА 1991/1992 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

У вучылішча прымаюцца юнакі і дзяўчаты, якія маюць сярэднюю і дзевяцігадовую адукацыю.

Вучылішча рыхтуе спецыялістаў для Міністэрства бытавога абслугоўвання насельніцтва, лёгкай і мясцовай прамысловасці БССР па наступных спецыяльнасцях:

Кравец, закройшчык (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання— 1 год 10,5 месяца.

Кравец, закройшчык (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання—2 гады 10,5 месяца.

Кравец (на базе 9 класаў). Тэрмін навучання — 2 гады.

Кравец (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання — 1 год.

Кравец (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання — 2 гады.

Швачка, аператар швейнага абсталявання (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання—1 год. (Для работы на Полацкай швейнай фабрыцы).

ЗАЎВАГА: навучэнцы па ўсіх спецыяльнасцях навучаюцца раскрою тканін у гуртках тэхнічнай творчасці.

**ПАРАДАК ПРЫЁМУ**

Падаецца заява аб прыёме ў вучылішча на імя дырэктара з указаннем выбранай прафесіі. Да заявы прыкладаюцца:

Дакумент аб заканчэнні сярэдняй або дзевяцігадовай школы, медыцынская даведка (форма № 086/у), 5 фотакартак (3х4), карта аб прышчэпках (ф. 25-Ю), даведка з месца жыхарства і аб складзе сям'і.

Пасля прыбыцця на мандатную камісію паступаючыя праходзяць медыцынскі агляд для вызначэння годнасці па стану здароўя да работы па выбранай спецыяльнасці.

**ПАРАДАК ЗАЛІЧЭННЯ**

Заява аб прыёме ў вучылішча з усімі прыкладзенымі дакументамі і медыцынскае заключэнне разглядаюцца прыёмнай камісіяй.

**УМОВЫ ПРЫЁМУ**

Паспяваючыя навучэнцы атрымліваюць стыпендыю ў размеры 40 рублёў у месяц і забяспечваюцца харчаваннем. Па прафесіі «швачка, аператар швейнага абсталявання», «вышывальшчыца, швачка» выплачваецца стыпендыя ў размеры 80 рублёў. Навучэнцам, якія маюць выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах, размер стыпендыі павялічваецца на 25 працэнтаў. Навучэнцы, якія паступаюць на базе 9 класаў, знаходзяцца на дзяржзабеспячэнні. Акрамя таго, навучэнцам праводзяцца грашовыя выплаты за работы, выконваемыя імі ў працэсе вытворчага навучэння.

Асобы, якія скончылі вучылішча на «выдатна», залічваюцца ў ВНУ па роднаснай спецыяльнасці па-за конкурсам.

Маючым вострую патрэбу прадастаўляецца інтэрнат.

У вучылішчы створаны добрыя ўмовы для вучобы. Маюцца добра абсталяваныя кабінеты і вытворчыя майстэрні.

Навучэнцы вучылішча займаюцца ў розных гуртках тэхнічнай творчасці, спартыўных секцыях, гуртках мастацкай самадзейнасці.

Харавому калектыву вучылішча прысвоена званне «Народны».

Зборныя каманды вучылішча па розных відах спорту і калектывы мастацкай самадзейнасці пастаянна займаюць прызавыя месцы ў горадзе, вобласці, рэспубліцы.

АДРАС ВУЧЫЛІШЧА: 211400, БССР, г. Полацк, пр. К. Маркса, 20, прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 2 бытавога абслугоўвання насельніцтва.

## ЧЭРВЕНЬСКАЕ ПТВ-80 БУДАЎНІКОЎ

аб'яўляе прыём навучэнцаў на 1991/1992 навучальны год

**НА БАЗЕ 11 КЛАСАЎ (ТЭРМІН НАВУЧАННЯ — 1 ГОД) ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ:** тынкоўшчык, абліцоўшчык-плітачнік, сталяр (будаўнічы), станочнік з уменнем выконваць разьбу па дрэве.

**НА БАЗЕ 9 КЛАСАЎ (ТЭРМІН НАВУЧАННЯ — 2 ГАДЫ) ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ:** сталяр (будаўнічы), станочнік, тынкоўшчык, абліцоўшчык-плітачнік.

На базе няпоўнай сярэдняй адукацыі (тэрмін навучання — 3 гады) па спецыяльнасці: маляр (будаўнічы), тынкоўшчык; муляр-мантажнік стальных і жалезабетонных канструкцый; тынкоўшчык, абліцоўшчык-плітачнік, слесар-сантэхнік, электрагазазваршчык, сталяр (будаўнічы), станочнік.

Навучэнцы, прынятыя ў вучылішча з 2-гадовым тэрмінам навучання, навучаюцца толькі абранай спецыяльнасці, прынятыя ў вучылішча з 3-гадовым тэрмінам навучання атрымліваюць 3—4 разрады па абранай спецыяльнасці і сярэднюю адукацыю.

Навучэнцы знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні. Круглыя сіроты, дзеці інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і дзеці, пазбаўленыя апекі, забяспечваюцца стыпендыяй.

У час праходжання вытворчай практыкі навучэнцам выплачваецца 50 працэнтаў ад заробленай сумы. Усе навучэнцы забяспечваюцца добраўпарадкаваным інтэрнатам.

Выпускнікі, скончыўшыя вучылішча на «выдатна», маюць права паступаць у тэхнікумы і ВНУ на льготных умовах.

Навучэнцы маюць ільготы на гарадскім і чыгуначным транспарце.

Навучэнцам, залічаным у вучылішча на базе 11 класаў, выплачваюць стыпендыю і даплату базавага прадпрыемства, усяго 87 рублёў.

Выпускнікам вучылішча прадастаўляецца работа па спецыяльнасці ў г. Мінску і гарадах Мінскай вобласці.

Паступаючыя ў вучылішча падаюць заяву на імя дырэктара, а таксама наступныя дакументы: Пасведчанне аб адукацыі (арыгінал), медыцынскую даведку (форма № 86-у), даведку з месца жыхарства, 6 фотаздымкаў (3х4), накіраванне арганізацыі, калгаса (для асоб, якія накіроўваюцца на вучобу).

Залічэнне ў вучылішча — без уступных экзаменаў, пасля праходжання медыцынскай і мандатнай камісій.

Дакументы можна выслаць па пошце або здаць асабіста з 9.00 да 17.00 гадзін (выхадны — нядзеля).

Прыбыццё ў вучылішча па выкліку.

Пасля прыбыцця ў вучылішча паступаючыя прад'яўляюць (пры наяўнасці пашпарт, прыпіснае пасведчанне або ваенны білет).

Пачатак заняткаў 1 верасня.

АДРАС ВУЧЫЛІШЧА: 223210, МІНСКАЯ ВОБЛ., Г. ЧЭРВЕНЬ, ВУЛ. МІНСКАЯ, 64, ПТВ-80. ТЭЛЕФОНЫ: 55-4-39, 54-2-32, 55-1-39.

ДЫРЭКЦЫЯ ПТВ-80.

## АРШАНСКАЕ МЕДЫЦЫНСКАЕ ВУЧЫЛІШЧА

аб'яўляе прыём навучэнцаў на 1991/1992 навучальны год

з адукацыяй 8—10 класаў на спецыяльнасці: «лячэбная справа», «сястрынская справа», «акушэрская справа», «стаматалогія».

Тэрмін навучання з адукацыяй 8 класаў па спецыяльнасцях «лячэбная справа» і «акушэрская справа» — 3 гады 6 месяцаў, па спецыяльнасці «сястрынская справа» — 2 гады 10 месяцаў.

Тэрмін навучання з адукацыяй 10 класаў па спецыяльнасцях «лячэбная справа» і «акушэрская справа» — 2 гады 6 месяцаў, па спецыяльнасці «сястрынская справа» — 1 год 10 месяцаў, па спецыяльнасці «стаматалогія» — 2 гады 10 месяцаў.

Прыём заяў у групы на базе 8 класаў з 1 чэрвеня па 31 ліпеня, у групы на базе сярэдняй школы з 1 чэрвеня па 14 жніўня.

Уступныя экзамены: на базе 8 класаў і 10 класаў з 1 па 21 жніўня 1991 года па беларускай (рускай) мове (дыктант), біялогіі (вусна).

Без уступных экзаменаў прымаюцца асобы, якія скончылі: на «выдатна»—базавую агульнаадукацыйную школу, з залатым або сярэбраным медалём — сярэднюю агульнаадукацыйную школу, з дыпломам з адзнакай — прафесійна-тэхнічнае вучылішча на базе няпоўнай сярэдняй школы.

На падставе вынікаў субяседавання залічваюцца асобы, скончыўшыя сярэднюю школу з адзнакамі «4» і «5» на спецыяльнасці «акушэрская справа» і «сястрынская справа».

Залічэнне асоб вышэйназваных катэгорый праводзіцца за 5 дзён да пачатку ўступных экзаменаў у межах 60 працэнтаў плана прыёму на гэтую спецыяльнасць. Пры наяўнасці конкурсу сярод іх прыёмным камісіям прадастаўляецца права праводзіць з імі адзін уступны экзамен. Незалічаныя здаюць другі экзамен на выбраную спецыяльнасць і залічваюцца на аснове конкурснага адбору.

Пераможцы (1, 2, 3 месцы) 1990 і 1991 гадоў міжнародных, агульнасаюзных, рэспубліканскіх (БССР) алімпіяд школьнікаў і навучэнцаў ПТВ залічваюцца ў навучальныя ўстановы без уступных экзаменаў па меры падачы заяў.

Прыёмным камісіям прадастаўлена права вызваляць ад уступнага экзамену па адпаведнаму прадмету з выстаўленнем ацэнкі «5» (выдатна) пераможцаў (1, 2, 3 месца) 1990—1991 гадоў абласных (БССР) тураў алімпіяд школьнікаў і навучэнцаў ПТВ.

Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых ацэнак на ўступных экзаменах залічваюцца: дзеці-сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў; інваліды I і II груп; звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, якія маюць пасведчанні ваенкамата аб праве на льготы пры залічэнні, рэкамендацыі воінскіх часцей.

Прыём на спецыяльнасці «стаматалогія» праводзіцца толькі з ліку жыхароў сельскай мясцовасці на ўмовах мэтавага прыёму.

Вучылішча па ўсіх спецыяльнасцях вядзе мэтавы прыём, накіраванне кандыдатаў на навучанне, па якому праводзіцца галоўнымі ўрачамі раёнаў з населеных пунктаў, выключаючы абласныя цэнтры і гарады абласнога падпарадкавання.

Пры роўнасці агульнай колькасці балаў перавагай залічэння карыстаюцца асобы, накіраваныя на навучанне дзяржаўнымі, кааператыўнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі на дагаворных пачатках, у тым ліку і за поўны кошт і пажадаўшымі працаваць пасля навучання на прадпрыемстве, якое накіравала яго ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў СССР ад 31 жніўня 1989 г. № 708 і № 1311 ад 19 снежня 1990 г., а таксама маючыя вялікі стаж практычнай работы па профілю абранай спецыяльнасці.

Заява аб прыёме падаецца на імя дырэктара вучылішча. Да заявы прыкладаюцца:

1. Дакумент аб базавай або сярэдняй адукацыі ў арыгінале.
2. Медыцынская даведка па форме №086/у.
3. Выпіска з працоўнай кніжкі або кніжкі калгасніка, завераная адміністрацыяй (прадстаўляецца маючымі стаж практычнай работы).
4. Чатыры фотакарткі для дакументаў памерам 3х4 см.
5. Пашпарт (пасведчанне аб нараджэнні), дакумент аб адносінах да воінскага абавязку прад'яўляецца асабіста ў прыёмную камісію.

Вучылішча мае добраўпарадкаваны інтэрнат.

Дакументы накіроўваць па адрасу: 211030, г. Орша, вул. Леніна, 195. Медыцынскае вучылішча. Прыёмная камісія.




(Заканчэнне. Пачатак у №№ 8—15, 17).

Перад заўтрашнім ад'ездам развітваюся — па тэлефоне і асабіста — са старымі і новымі знаёмымі. І кожны паведамляе нешта цікавае. Антон Шукялайць кажа, што з Бостана, ад дырэктара Міжнароднай кангрэгацыі унітарыяў Міла Гувера, прыйшоў ліст, дзе выказана гатоўнасць супрацоўнічаць у выданні нашай спадчыны. Антон Адамовіч дапамог у высвятленні лёсу беларускага драматурга Міколы Ільінскага, брата акцёра Аляксандра Ільінскага — хутчэй за ўсё, яму «скруцілі галаву» ў час акупацыі ў мінскім СД, прычынай жа таму быў яго «востры язык». Вітаўт Кіпель прыгадаў, што ў класіка амерыканскай дзіцячай літаратуры Мэры Антын ёсць аўтабіяграфічны твор «З Полацка ў Бостан», дзе з сімпатыяй гаворыцца пра беларускае дарэвалюцыйнае простанароддзе. Вучоны ж са штата Арызона Майкл Урбан апублікаваў вельмі цікавую, заснаваную на камп'ютэрных падліках навуковую працу аб заканамернасцях фарміравання беларускай «эліты». А даследчыкі «высокага калібру» Чарлз Ангоф і Меір Левін у сваёй кнізе «Узняцце амерыканскай яўрэйскай літаратуры» сцвярджаюць, што іх «цывілізацыя» не гіне, а толькі мяняе «прапіску»: на пачатку нашага стагоддзя Мінск «перамясціўся» ў Бостан, Вільня — у Нью-Йорк, а Гародня — у Філадэльфію...

Янка Запруднік затэлефанаваў, што па Нью-Йорку ходзіць прысланая з Полацка «Індульгенцыя Георгію Скарыне». Яе рускамоўны тэкст даволі дасціпны, але часам прымітыўны, грубаваты. Што гэта — блазенства? Рэакцыя на спробы зноў вярнуцца да імя, якім наш першадрукар ніколі не падпісваўся?

### 15 кастрычніка

З раніцы яшчэ раз прайшоўся па Нью-Йорку. Паўзіраўся ў твары людзей, што, апранутыя па-дзелавому, спяшаліся на працу. Твары бясхмарныя і заклапочаныя, але пераважна прыветныя, не абцяжараныя комплексамі. Паспрабаваў гледзячы на іх, уявіць сабе «аблічча ворага» — і не здолеў.

Заўважыў і змены: вунь той трохпавярховы будынак, заціснуты хмарачосам, ператварыўся ўжо ў друз, які акуратна грузяць на самазвалы. А вунь той хмарачос за маю бытнасць падрос ажно на пяць паверхаў. Будуюць тут хутка і трывала, каб узведзеным дамам не пагражалі аніякія катаклізмы.

Як жа зрабіць так, каб наш нацыянальны дом перастаў быць хісткім, моцна стаяў на роднай зямлі?

Гэтая думка праследавала мяне і ў час збораў, і ў час развітанняў, і па дарозе ў аэрапорт, і ў самалёце, дзе маім суседам аказаўся сімпатычны казах, задаволены падпісанымі ў Амерыцы дзелавымі пагадненнямі. Спрабаваў чытаць аповесць Карсан Макалерс «Балада пра сумнае кафэ», выдатна перакладзеную Уладзімірам Шчасным. Паступова перада мной паўставалі пустынныя краявіды дзесьці на мяжы ЗША з Мексікай, адзінокая жанчына, якая, перасільваючы адчужанасць паміж людзьмі, прывязалася да знявечанага жыццём чалавечка, адчыніла для суседзяў кафэ. Але дабро адплацілася злом. Духоўна спустошаная гаспадыня кафэ замкнулася ў сабе... Дайшоў я да фразы: «Дом міс Амеліі пахіліўся ў правы бок і праз нейкі час зусім разваліцца, людзі баяцца падыходзіць да яго блізка» — і сціснулася сэрца, бо нібы пра нас, сённяшніх сказана.

Адклаўшы кнігу, задумаўся. Значыць, так. Наш дом збудаваны на скорую руку, састарэў, патрабуе абнаўлення. І мы перабудоўваем яго: то адно гнілое бервяно заменім, то другое. Дзірку ў даху залатаем, выбітую шыбіну фанерай заб'ём. Але дом усё роўна хіліцца — у правы бок, у левы. У залежнасці ад таго, які вецер падзьме.

І тут успомніўся «барадаты» анекдот. На тым свеце сустракаюцца Сталін, Хрушчоў і Брэжнеў.

— Што вы там такое набудавалі? — пытаецца адзін з іх.

— Здаецца, нічога асаблівага...

— І я нічога стаяшчэга...

— Тады што ж яны там перабудоўваюць? — дзівуюцца ўсе.

Менавіта — што? Перабудоўваць можна тое, што ўзведзена з тоўстых бярвенняў, старадрэвіны, што стаіць на моцным падмурку. Тады можна і гнілое бервяно замяніць, і дах перакрыць, і наогул усе сцены перасыпаць нанава.

А калі бярвенні тонкія, наспех скіданыя? І прагніло не адно, а многія? Калі адну сцяну падапрэш, а хіліцца другая? Тады толькі марная трата працы, грошай і часу.

Значыць, няхай валіцца?! Але дзе ж тады жыць? Пайсці ўсім у чужую хату, заакіянскую? Але хто нас, разгультаеных, там прыме? Аднаго, сотню — так, але не нацыю.

Выходзіць, трэба не столькі перабудоўваць (заклікі да перабудовы ўжо гучалі на пачатку 30-х гадоў, і мы ведаем, чым, на жаль, яны скончыліся) стары, колькі будаваць новы дом. Як раней рабіў добры гаспадар, калі згніе хата: пакідаў яе ў сярэдзіне, папраўляў крыху, а вакол узводзіў новы, больш прасторны будынак. Затым, калі ўжо можна было ў ім схавацца ад дажджу, выносіў, разабраўшы, старое і пускаў на дровы. Каб было чым абагрэцца зімой.

Добра, значыць — будаваць. Але як? І каму? І за чые грошы? Амерыканскі «хмарачос» нам не падыходзіць — не па кішэні, ды і няўтульна ў ім беларусу будзе. Курная хатка, якую ў нас цяпер спрабуюць ідэалізаваць, — таксама. Лагерны барак — тым болей. Значыць, гэта павінен быць свой, пабудаваны ў адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі, але адначасова і сучасны, прасторны і дастаткова выгодны гмах, які зможа служыць не толькі нам, але і нашым унукам. Гмах асобны (што ж, «дзеці» ў нашай сям'і падраслі, і няма асаблівай трагедыі ў тым, што яны адасабляюцца) і адначасова ўзведзены на агульнай вуліцы нашых суверэнных рэспублік, звязаны з імі надзейнымі камунікацыямі. А тая вуліца сыходзіцца з іншымі вуліцамі на еўрапейскай плошчы. А тая плошча звязана з іншымі плошчамі адзінага горада па імю Зямля...

І тут я спахапіўся: тэарэтычна то яно выглядае ўсё лёгка і проста, а вось практычна... З чаго пачаць? Вядома, не з даху, не са сцен, а з фундамента. І, відаць, такім фундаментам з'явіцца рынак, прыватызацыя. Але як?.. Уся бяда ў тым, што ў нас архітэктарам сябе лічыць кожны. І кожны хацеў бы будаваць па-свойму: адны — па ўсходняму ўзору, другія — па заходняму, трэція — па маламестачковаму. А трэба, відаць (і ў гэтым наша перавага), выкарыстаць лепшае з усіх узораў — сваіх і чужых. Здаецца, да гэтага, да такога спалучэння, заклікаў, калі спрошчана ўзяць, акадэмік Сахараў.

А як будаваць? Канкрэтна — я не ведаю, бо не дойлід. Тады ў каго склаўся ў галаве абрыс таго гмаха? У Вячаслава Кебіча? У Зянона Пазняка? У... З жахам падумаў: як мала ў нас лідэраў-дойлідаў, якія ведаюць, што ім хочацца збудаваць і з чаго пачаць работу.

То, можа, аб'яднаць ім свае намаганні? А ўсім астатнім — не глядзець збоку, не пацiраць рукі ад задавальнення, што нешта не ўдалося, а — дапамагаць, закасаўшы рукавы, будаваць!

Бо іншага паратунку няма. Можна, вядома, запрасіць багатага дойліда збоку, улезці ў даўгі да яго. Ды тады ён захоча быць гаспадаром ва ўзведзеным доме. А шматвяковая гісторыя нас ужо навучыла, што такое быць прымаком-парабкам у чужым, хоць і ўзведзеным яго працай палацы.

І тут прыгадалася тэлеказанне аднаго з самых папулярных амерыканскіх прапаведнікаў Шулера, якое трансліравалася са створанага ім «крыштальнага палаца» дабрачыннасці. Ён сказаў, што ведае магічнае слова, якое дапамагае пры ўсіх бядотах. І слова гэтае гучыць вельмі будзённа: «пра-ца-ваць»! Такую ж матэрыялістычную параду даваў польскі кардынал Вышынскі: «Тшэба працоваць!» Бо калі мы не пабудуем дом самі, няхай і зацягнуўшы, папругу на апошнюю дзірачку, то для нас яго не пабудуе ніхто. Папрасіць суседзяў і несуседзяў, каб прыйшлі на талаку,— ужо іншая справа.

Калісьці талакой у нас узводзілі святыні — праваслаўныя, каталіцкія, уніяцкія, пратэстанцкія. Будавалі хутка, за якія два-тры гады, і трывала — на стагоддзі. То няўжо мы, з усёй нашай тэхнікай і нашай прыроджанай кемлівасцю, горшыя за сваіх продкаў?!

Дойлід, агу, дзе ты?! Прыйдзі хутчэй на нашу шматпакутную зямлю, знясіленую пад крыжам Чарнобыля, зняверанную і спустошаную маральна, амаль пазбаўленую нацыянальных традыцый. І збірай каменне на новы дом, бо стары вось-вось можа пахаваць нас пад сваімі руінамі. Абвясці талаку.

**Ад аўтара:**

Чытачам, напэўна, хочацца ведаць, чым жа скончылася наша хаджэнне ў бібліятэку Пірпонта Моргана. Адказу адтуль не было доўга, а ўсялякія напаміны ўспрымаліся раздражнёна. Нарэшце нешта праз месяцы два ў наша прадстаўніцтва пры ААН паведамілі, што крыжа Ефрасінні Полацкай у фундацыі Пірпонта Моргана няма, але фундацыя не ручаецца за прыватныя зборы Морганаў. Нам параілі выступіць з адпаведным артыкулам пра крыж у спецыялізаваным міжнародным часопісе «ІФАР-рыпортс», які займаецца пошукам такіх каштоўнасцей.

Што яшчэ? Антон Шукялайць стрымаў сваё слова і прыслаў фотакопію спісу тых карцін, кніг і прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія ў час акупацыі былі вывезены з Мінскага музея ў Вену. Спіс аказаўся надзвычай цікавы. На яго падставе пачынаюцца пошукі вывезеных каштоўнасцей у Аўстрыю.

З дапамогай паэта Паўлюка Пранузы ўдалося высветліць, што пісьменнік Цімох Зарэчны адразу ж пасля вайны выехаў з Нясвіжа ў Польшчу пад прозвішчам сваякоў жонкі. Якім? Куды? На гэтыя пытанні трэба яшчэ адказаць.

А з-за акіяна цяпер часта прыходзяць лісты і кніжныя бандэролі, у якіх багата звестак па гісторыі беларускай культуры і беларускай дыяспары ў ЗША.

*Замежны дэтэктыў*

**Джон Діксан КАР.**

# ГОСЦЬ У ДОМЕ

Два госці, якія не заставаліся начаваць у Крэнлей Корце, пайшлі хутка пасля адзінаццаці. Маркус Хант праводзіў іх да дзвярэй. Потым ён вярнуўся ў сталоўку, дзе жэтоны для покера ўжо былі акуратна расстаўлены белымі, чырвонымі і сінімі слупкамі.

— Згуляем яшчэ? — прапанаваў Ролф.

— Утраіх ужо не тое, — сказаў Дэрэк Хендэрсан.

Гаспадар стаяў ля буфета і глядзеў на іх. Нізкі, доўгі дом, размешчаны пасярод прастораў Уілда, быў пагружаны ў цішыню, і іх галасы прагучалі незвычайна гучна. Сталоўка, вялікі пакой з панелямі, цьма асвятлялася электрычнымі насценнымі бра, і ад гэтага карціны здаваліся больш змрочнымі, чым на самай справе. У звычайным загарадным доме не часта ўбачыш двух Рэмбрантаў і Ван Дэйка ў адным пакоі, і ў карцінах было штосьці задзірлівае.

Для Артура Ролфа — гандляра творамі мастацтваў — яны азначалі грошы, неймаверную суму. Для Дэрэка Хендэрсана — крытыка — загадку. Што яны азначалі для Маркуса Ханта — ніхто не ведаў.

Хант стаяў ля буфета, упёршыся рукамі ў бакі. Гэта быў мацак сярэдняга росту, з круглым ружовашчокім тварам. Калі б у яго былі яшчэ і бакенбарды на шчоках, ён быў бы вельмі падобны на галандскага бюргера. Кашуля яго выдавалася наперад. З іранічнай усмешкай ён сачыў, як Хендэрсан падабраў доўгімі пальцамі калоду, падзяліў яе на дзве часткі і рэзкім шчаўчком пальцаў прымусіў палавінкі зліцца разам.

Зрабіўшы гэта спрытна і акуратна, быццам фокуснік, Хендэрсан пазяхнуў.

— Дарагі мой, — сказаў Хант, — вы мяне здзіўляеце.

— Гэта я і хацеў зрабіць, — усё так жа стомлена адказаў Хендэрсан. Ён падняў галаву. — А што менавіта вы маеце на ўвазе?

Хендэрсан быў малады, высокі, хударлявы, бездакорна апрануты. Рыжаватая барада часта служыла прычынай для жартаў, што, дарэчы, зусім яго не засмучала.

— Мяне здзіўляе, — сказаў Хант, — што вам падабаецца покер.

— Мне падабаецца вызначаць людскія характары, — сказаў Хендэрсан. — Покер, ведаеце, цудоўная магчымасць для гэтага.

Вочы Ханта звузіліся.

— Вось як? Вы можаце вызначыць і мой характар?

— З задавальненнем, — сказаў Хендэрсан. Ён здаў сабе карты тварам уверх. Яму прыйшла пара пяцёрак, апошнім выпаў пікавы туз. Некалькі секунд Хендэрсан глядзеў на яго.

— Павінен сказаць, — працягваў ён, — што гэта вы здзівілі МЯНЕ. Я магу гаварыць прама? Я заўсёды ўяўляў вас гэткім калосам бізнесу, рашучым чалавекам, які часта ідзе на рызыку. Ну, а вы зусім не такі.

Маркус Хант рассмяяўся. Але Хендэрсана гэта не збянтэжыла.

— Вы з падвохам, але асцярожны. Я сумняваюся, што вы рызыкавалі хоць раз у жыцці. І яшчэ раз мяне здзівіў, — ён зноў раздаў сабе карты, — вось містэр Рольф. Ён пры падыходзячых абставінах гатовы пайсці на вялікую рызыку.

Артур Ролф задумаўся. Сказанае быццам бы здзівіла, але і цешыла яго. Ён быў падобны на Ханта і ростам, і складам цела, але апранаўся больш акуратна. У яго — квадратны цёмны твар, зморшчаны лоб і акуляры ў тонкай аправе.

(Працяг будзе).

## Тэлебачанне

### 1 мая, СЕРАДА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**9.05.** Наш каментарый. Майскі ранак.
**9.10.** «Пра час свой гавару». Дак. фільм.
**9.45.** «Вясёлкавыя песенькі». Выступаюць выхаванцы дзіцячых садоў г. Мінска.
**10.25. Мінск. Плошча імя У. І. Леніна. Перадача, прысвечаная Дню міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая.** Пасля заканчэння — «Спяём для вас яшчэ раз». Канцэрт удзельнікаў дзіцячай мастацкай самадзейнасці.
**12.30.** «Мой лёс — маё каханне». Канцэрт з твораў народнага артыста СССР І. М. Лучанка.
**13.00.** Фільм — дзецям. «Цімур і яго каманда».
**15.40.** «Зноў чую голас твой...» Музычны фільм.
**16.20.** «Усе зоркі». Кінаканцэрт.
**17.10.** Святочны канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца БССР.
**17.55.** Мультфільмы. «Пакацігарошак», «Пластылінавая варона», «Дзіўны манеж», «Нехачуха», «Нататкі пірата».
**18.45.** Песню бярыце з сабою. Музычная праграма.
**19.30.** Рэпартаж аб святкаванні ў рэспубліцы Дня міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая.
**20.00.** І Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Ад бацькі я не адракуся», «З чаго сарока кашу варыла». Дак. фільмы.
**21.45.** І Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Працяг.
**23.00.** «Верую ў каханне». Мастацкі фільм.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** ТСН.
**8.20.** Дак. фільмы «Вольны табун», «Чонар-Даш».
**8.55.** Канцэрт Акадэмічнага хору рускай песні Дзяржтэлерадыё СССР.
**9.55. Масква. Красная плошча. Мітынг, прысвечаны Дню міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая.**
**11.00.** «На балі ў Золушкі».
**12.05.** Мастацкі фільм «Фалькон».
**13.05.** П. І. Чайкоўскі. «Лебядзінае возера». Спектакль.
**15.05.** «Шмат галасоў — адзін свет». Адкрыццё цыкла перадач, прысвечаных старажытнаму мастацтву апавядальнікаў.
**15.40.** «Ступень да Парнаса». Канцэрт зорак першага і другога фестываляў.
**16.55.** КВЗ-91. Сустрэча каманд Уральскага політэхнічнага інстытута і Маскоўскага інжынерна-будаўнічага інстытута.
**18.50.** «Уолт Дысней прадстаўляе...»
**19.40.** Мастацкі фільм «Князь Удача Андрэевіч».
**21.00.** Час.
**22.00.** «Блакітны агеньчык».
**23.55.** «Танцы, танцы, танцы». Кубак Еўропы сярод прафесіянальных выканаўцаў.
**0.30.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.15.** Канцэрт рускага харэаграфічнага і песеннага фальклору.
**8.40.** «Дзядзька Сцёпа—міліцыянер». Мультфільм.
**9.00.** Фільм — дзецям. «Вялікая прыгода». 1-я серыя.
**10.15.** Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра СССР.
**11.15.** Дак. фільм «Гідранаўты».
**11.35.** В. Шукшын. «Старэчая справа». Тэлеспектакль.
**12.35.** Народныя мелодыі.
**12.50.** Дак. фільм «Гімназісты».
**13.40.** «Не бойся, я з табой». Мастацкі фільм 1-я і 2-я серыі.
**16.10.** «Запаветныя мясціны». Нарыс.
**16.30.** «Даніла і Няніла». Мультфільм.
**16.50.** «Тэатр, які я люблю».
**17.50.** «Гаспадар кабарэ — лёс». Творчы вечар паэта Н. Дзяніcава.
**20.00.** Добрай ночы, малышы!
**20.15.** Рускія народныя песні выконвае А. Маладцова.
**20.30.** Музей на Дэлегацкай. Мастацтва шчырай прыгажосці.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**22.00.** «Беражыце жанчын». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.

### 2 мая, ЧАЦВЕР

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**9.00.** Дак. фільмы «Прыроды храм нерукатворны», «Ёсць куток на зямлі».
**9.40.** «Верую ў каханне». Мастацкі фільм.
**11.00.** «Запрашальны білет». Танцы народаў свету выконвае Ўзорны ансамбль «Равеснік».
**11.45.** Фільм — дзецям. «Мама».
**13.10.** «Партрэт любімай жанчыны». Дак. фільм.
**13.50.** Забаўляльна - пазнавальная праграма для дзяцей.
**14.40.** «Рамэо і Джульета». Спектакль тэатра оперы і балета БССР.
**16.50.** Запрашаем на вячоркі. Фальклорны ансамбль вёскі Маканавічы Рэчыцкага раёна.
**17.55.** Футбол. «Дынама» (Мінск) — «Металіст» (Харкаў).
**19.50.** Панарама.
**20.20.** «Дзеючыя асобы і...» Фільм-канцэрт.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Выбірай!», «Сніўся мне сад». Дак. фільмы.
**21.50.** Крок.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.20.** «Натхненне». Дак. фільм.
**8.30.** «Рабі з намі, рабі, як мы, рабі лепш за нас».
**9.15.** Фільм — дзецям. «Вялікая прыгода». 2-я серыя.
**10.35.** М. Дзярфаш. «Прачніся і спявай!» Фільм-спектакль.
**12.15.** «Востраў скарбаў». Мультфільм.
**14.05.** «Цяпло ад аленяў у тундры». Цыкл «Зямля Еўропы» (Фінляндыя).
**14.55.** Хакей. Чэмпіянат свету. Матч каманд фінальнай групы.
**17.45.** Спорт для ўсіх.
**18.00.** Футбол. «Шахцёр» — «Спартак».
**18.50.** Мультфільм.
**18.55.** «Заўтра будзе дзень добры» (Краснаярск).
**19.30.** «Прэм'ера ў Сасноўцы». Мастацкі фільм.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.45.** Мастацкі фільм «Дні Турбіных». 1-я серыя.
**23.00.** Вертыкаль. «Бярозавыя галасы».

## Дзяўчына тыдня



Фота **В. ВАЙЦЯХОЎСКАГА.**

## Кінаафіша

### «КОЛА ДРУГОЕ»

Журботны абавязак сына, адзіны для ўсіх жывучых,—пахаваць бацьку — галоўная і адзіная падзея новай каляровай мастацкай кінастужкі «Кола другое», створанай рэжысёрам Аляксандрам Сакуравым па сцэнарыю Юрыя Арабава.

У гэтай падзеі і выявіліся раз'яднаныя сувязі нашага жыцця, механічная інерцыя агульначалавечых рытуалаў, якія ўжо распаліся, а некалі мелі і змест, і значэнне...

У фільме здымаліся Пётр Аляксандраў, Надзея Раднова, Тамара Цімафеева, Аляксандр Быстракоў.

### «ПРЫНЦ-ПРЫВІД»

Новую каляровую мастацкую кінастужку з такой назвай зняў рэжысёр Сапармухамед Джалдыеў.

Элегантны свет Вашынгтона Ірвінга і сакавітыя, яркія фарбы ўсходніх казак—спалучэнне, згадзіцеся, нечаканае. Тым не менш фільм туркменскіх кінематаграфістаў створаны па навелах менавіта гэтага пісьменніка. Камедыйная фантазія — так можна вызначыць жанр стужкі—уключае ўсе атрыбуты ўсходніх казак: высакароднага юнака, хітрага візіра, непаўторную прыгажуню. Прыгод у гэтым фільме—колькі хочаш!

Галоўныя ролі выконваюць Рустам Уразаеў, Алена Паршына, Міхаіл Свецін, Эмануіл Вітарган.

### «ВАЛЬС НА ЗЫБКАЙ ХВАЛІ»

Гэта новая каляровая сатырычная камедыя створана венгерскімі кінамайстрамі. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык фільма Петэр Бача—вядомы майстар у сатырычным кінематографе, аб чым маглі меркаваць і савецкія кінагледачы, якія бачылі яго фільмы «Раяль у паветры», «Сігнальны выстрал».

Галоўны герой фільма Агаштан Кондач — хірург, які мае паспяховую практыку. Вялікія людзі горада лічаць за гонар быць яго пацыентамі, а іх жонкі—яго каханкамі. Жыццё, здавалася б, складваецца ўдала. Хутка ён ажаніўся з дзяўчынай з вялікім пасагам... Аднак трэба прызнаць, што ўдалая фартуна і поспех не пазбавілі героя шчырасці, высакароднасці, не зрабілі фанабэрыстым і раўнадушным. Аднаго разу, спяшаючыся ў загс, Агаштан убачыў у натоўпе, які сабраўся ля помніка рэвалюцыі, агаленую жанчыну. І калі, быццам пад гіпнозам, яна праходзіла міма Кондача, ён, рухомы натуральным чалавечым пачуццём, накінуў на яе свой плашч, у якім (як аказалася пазней) засталіся яго дакументы. Менавіта гэтая, самая звычайная чалавечая рэакцыя, карэнным чынам зменіць яго жыццё. Гэта кінастужка — удзельніца конкурснай праграмы «Залатога Дзюка» ў 1988 годзе—карысталася ў дасведчаных адэсітаў заслужанай папулярнасцю. Гэтым яна ў немалой ступені абавязана выканаўцам галоўных роляў, вядомым майстрам венгерскага экрана— Дароце Удвараш, Міхаю Дэшу і інш.





### «САКРЭТНЫ ЎКАЗ ІМПЕРАТАРА»

**Карціна створана кітайскімі кінамайстрамі. Аўтар сцэнарыя — Му Шэн, рэжысёр — Яо Шаукан.**

**Фільм пераносіць нас у XVII стагоддзе—у часы шматгадовага сялянскага паўстання, дынастыі Мін, якая правіла Кітаем больш як два стагоддзі. Спрабуючы вярнуць страчанае панаванне і задушыць паўстанне сялян, феадалы заклікалі на дапамогу маньчжурскіх уладароў. Аднак скінуты імператар не ўлічыў, што маньчжурцы самі захочуць захапіць уладу...**

**У фільме здымаліся Сінь Фэн, Хэ Вэй, Сунь Гэньфа, Гу Елу.**

*МАЗАІКА*

Афрадыта 90-х гадоў — так аднадушна называюць французы маладую актрысу Мацільду Мэй. «Ніколі яшчэ не было такога цудоўнага стварэння жаночага полу, пры тым, што трэба ўспомніць, якімі прыгажунямі былі маладыя Джына Лолабрыджыда, Катрын Дэнёў, Сафі Ларэн, Клаўдзіа Кардынале і Анук Эме»,—так пісалі пра Мацільду ў адным з часопісаў. Ёй 25 год, яна ўжо знялася амаль у 20 фільмах. Яе знешнасць параўноўваюць з анёльскай. Цудоўныя цёмныя валасы, пяшчотнейшая скура, у параўнанні з якой скура персіка літаральна цямнее, цудоўныя цёмна-карычневыя вочы, паэтычна прыкрытыя вейкамі. Новая Брыжыт Бардо, новая Ава Гарднер, новая Одры Хёпберн — усе гэтыя параўнанні маюць рацыю, калі размова заходзіць пра Мацільду Мэй...



# Выклікаем «Дынама»

**Не на матчавую сустрэчу, а на працяглыя спаборніцтвы задумалі выклікаць каманду майстроў вышэйшай лігі дзяўчынкі са спартыўнага клуба «Мінчанка».**

КРЫХУ БОЛЬШ ЯК год таму гэты клуб аб'яднаў 12—14-гадовых прыхільніц скуранога мяча. Але выніковасці, з якой выступаюць школьніцы, асы могуць пазайздросціць. Дзяўчынкі парадавалі сваіх балельшчыкаў на ўсесаюзным турніры па жаночаму футболу. Яны заваявалі 3-е месца ў барацьбе на прыз ЦК ВЛКСМ «Скураны мяч», забіўшы амаль 60 галоў і прапусціўшы толькі 4. «Мінчанка» добра паказала сябе, удзельнічаючы ў нядаўна адбыўшыхся спаборніцтвах на прыз касманаўта Юрыя Гагарына ў Маскве.

У планах юных спартсменак — удзел у турнірах у Польшчы, Германіі, Канадзе. І таму ўвесь вольны ад заняткаў у школе час дзяўчынкі прысвячаюць трэніроўкам, удасканальваюць майстэрства і... шукаюць спонсараў. Камандзе патрэбна матэрыяльная дапамога. У адказ жа спартсменкі гатовы рэкламаваць прадукцыю прадпрыемстваў, якія змогуць працягнуць ім руку дапамогі.

**На здымках:** мы з «Мінчанкі». У цэнтры — трэнер каманды Уладзімір **Самусевіч;** момант гульні; Людміла **Кузняцова** — лепшы нападаючы клуба; трэнер Уладзімір **Самусевіч** праводзіць заняткі.

Фота **В. Аляшкевіча.**
(БЕЛТА).







# КАІСА

**ШАХМАТНЫ КЛУБ**

**З творчасці чытачоў**
**М. ГЛУШАК**

**Белыя:** Крb4. Фf8. Cd2. Ce4. Kd5 (5).
**Чорныя:** Крa7. п. b7 (2).
**Мат у 2 ходы.**




Прапануем увазе аматараў шахматаў двухходовую мініяцюру, якую прыслаў наш чытач са Століна Міхаіл Глушак. Паспрабуйце знайсці яе рашэнне. Свае адказы прысылайце па адрасу: **220041, Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Чырвоная змена», «Шахматы».**

**Крыўдны зрыў**

У Ленінградзе завяршыўся занальны турнір СССР у новым цыкле розыгрышу першынства свету па шахматах сярод жанчын. У спаборніцтвах выступілі 32 мацнейшыя шахматысткі краіны, якія змагаліся за 5 пуцёвак у міжзанальны турнір. Сярод удзельніц былі і дзве прадстаўніцы Беларусі — міжнародныя майстры Алёна Заяц (Мінск) і віцябчанка Раіса Эйдэльсон.

Студэнтка БДУ імя У. І. Леніна А. Заяц бліскуча стартавала і ў першых 6 сустрэчах набрала 5,5 ачка, што дазволіла мінчанцы захапіць аднаасобнае лідэрства. Аднак у другой палове турніру Алёна гуляла надзвычай няўдала

А ў цэлым турнір завяршыўся нечаканым вынікам. На фінішы адразу 6 удзельніц — М. Ліцінская, І. Чэлушкіна (Львоў), Ю. Дзёміна (Навасібірск), А. Сафіява (Баку), З. Папова (Луганск) і С. Мацвеява (Бішкек) набралі па 7.5 ачка і падзялілі 1—6 месцы. Згодна з умовамі, цяпер адбудзецца новы турнір—у два кругі, які павінен усё ж вызначыць 5 мацнейшых, якія працягнуць барацьбу за шахматную карону.

# Чайнворд «Шахматы»

**Вакол ладдзі:**

1. Першая чэмпіёнка свету па шахматах.
2. Адзін з удзельнікаў 47 чэмпіянату СССР па шахматах 1979 г.
3. Кубінскі шахматыст, чэмпіён свету (1921—27 гг.)
4. Чэмпіён свету па шахматах (1927—35 гг.)
5. Вядомы гросмайстар.
6. Спаборніцтва на першынство.
7. Метад гульні, які прымяняецца пры шахматнай сустрэчы.
8. Шахматны майстар, ленінградзец.
9. Від шахматных спаборніцтваў.
10. Першы чэмпіён свету па шахматах.
11. Частка шахматнай дошкі.
12. Неаднаразовы чэмпіён Кіева па шахматах.
13. Чэмпіёнка свету па шахматах (1956—58 гг.)
14. Нападзенне.

**Вакол пешкі:**

15. Венгерскі гросмайстар.
16. Спартыўнае таварыства.
17. Першая студыя шахматнай партыі.
18. Спартыўнае спаборніцтва па шахматах, шашках.
19. Удзельнік 47-га чэмпіянату свету па шахматах, над якім Купрэйчык атрымаў перамогу ў апошнім туры.
20. Вынік агульнай шахматнай партыі.
21. Імя чэмпіёна СССР па шахматах 1979 г.
22. Горад, у якім праходзіў 47 чэмпіянат СССР па шахматах у 1979 г.
23. Імя вядомай беларускай шахматысткі.






*Красавіцкія тэзісы*

# Напярэдадні

У КРАІНЕ бушавала рэвалюцыя, хваля рэпрэсій пракацілася па шыхтах апазіцыі. Апошні загад прэзідэнта Пяціцэнтава «Аб забароне натоўпаў больш за два чалавекі» яшчэ раз прымусіў насцярожыцца жыхароў вялікай імперыі. На вуснах у людзей была падзея, якая зусім нядаўна скаланула краіну. Вось што пісала аб ёй вядучая газета «Крыўда»:

«Крывавым Ражством» ахрысціў гэты дзень народ. Усё адбылося ў Мышкавічах. Не жадаючыя прызнаваць царкоўныя святы, улады горада аддалі загад атрадам амапаўцаў разагнаць стракатае шэсце гуляючых. Людзі неслі плакаты з надпісамі: «З вамі Маркс, з намі — Бог», «Даеш Устаноўчы сход!», «Лепш канец свету, чым улада Савета», партрэты з перакрэсленай выявай прэзідэнта. Шэсце ўзначальваў запрошаны з Мінусінска Панчак. Напорыстай траскатнёй ён заклікаў дэманстрантаў да захавання спакою. Дзе-нідзе па-рэвалюцыйнаму заспявалі «Божа, цара вярні...». Сутычка была справакавана Саюзам баптыстаў-чырвонаяечанцаў. У іх атрымалася запэўніць народ у тым, што амапаўцы выйшлі, каб перакрыць шлях да магазіна, у які толькі што прывезлі рэшткі месячнай нормы сечкі. Галодны натоўп здрыгануўся: сечкі хацелася ўсім. Змінаючы міліцэйскія кардоны, дэманстранты кінуліся займаць чаргу. Пярэднія былі растаптаны напіраўшымі заднімі...

А ў гэты час, вярнуўшыся з Шушанскага, Барыс Мікалаевіч тайна пасяліўся ў Смалакурні. Не пакідаючы сувязі з таварышамі, Піхцін закончыў работу над сваёй галоўнай рэвалюцыйнай працай «Як на духу». Нядаўні правал чарговага палітычнага «кірмашу», разыгранага на апошнім з'ездзе народных дэпутатаў, пераканаў яго ў памылковасці палемічнай практыкі. Піхцін зразумеў, што толькі народныя масы здольны вярнуць краіне дэмакратыю. «Мы пойдзем іншым шляхам...» — пісаў ён. Ужо рыхтаваў свае баявыя «тройкі» чэкіст Кастрамін, вялася спешная зборка перасоўных барыкад і загарод. Перадаючы бандэролі з талонамі, авіятары, чым маглі, дапамагалі Піхціну. Та-ак, не лепшым чынам адчуваў сябе Пяціцэнтаў. Перабіраючы варыянты адступлення, ён не пераставаў наносіць афіцыйныя візіты ў швейцарскія банкі. Не адмовіўся яшчэ ад свайго шляху і непапулярны мышкавіцкі ўрад. АБВГД сабраўся ў чацвёрты раз злавіць і скінуць з моста папулярнага бунтаўшчыка Піхціна. У краіне нарастаў крызіс. Яго не магла спыніць нават доўгачасовая, у выглядзе прадуктовых пасылак, дапамога ўсяго свету. Набліжаўся семнаццаты год перабудовы.

**Алег ЗАЙЦАЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ.**




## *Галава — не булава, мазгі — не пілаванне?*

**Гэт-к вам, шаноўныя свядомыя чытачы, толькі здаецца. А вось умелыя фальсіфікатары «гісторыі савецкага народа» на працягу многіх гадоў думалі інакш (некаторыя думаюць і цяпер). І ствараліся штучныя славаслоўі ў гонар «непераможнай і неўмiручай», і выдавалася «на-гара» штучная народная мудрасць, якая сёння, акрамя горкай усмешкі, нічога не выклікае... Урэшце, цікава было б даведацца, хто аўтар шэдэўраў, змешчаных ніжэй?..**

- За камуністамі пайшлі, волю і шчасце знайшлі.
- Славе партыі крылаў не трэба.
- Што наша партыя кажа — увесь свет слухае.
- Рэвалюцыя настала — і жанчына вольнай стала.

**Запісаў Ігар СІДАРУК.**

## *Апалітызмы*

✦ Парторг сцвярджаў, што любіць партыю, але цалаваўся чамусьці са сваёй сакратаркай.

✦ Зігзаг лёсу: выведзены з членаў ЦК у турэмную камеру.

✦ Камунізм не за гарамі! — сцвярджаюць тыя, хто толькі што вярнуўся з-за гор.

✦ Закрыўшы з трэскам падручнік гісторыі, студэнт Вася з раздражненнем прамармытаў у адрас белагвардзейскіх генералаў: — Нягоднікі! Сволачы!.. Не здолелі падавіць Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю!..

**Уладзімір КУЗЕМКА.**




*Пародыі*

**Антон ПРЫЦЭЛ**

## Не з нашай эры

*Напэўна, мы ўсе крыху першабытныя...*
*Любоў ФІЛІМОНАВА*

Мы з табой не з нашай эры.
Нарадзіліся даўно.
Ходзяць людзі ўсе праз
дзверы,
А мы лазім праз акно.
І пад небам пад блакітным
Мы ўцякаем ад зімы.
Лад жыцця ў нас першабытны,
Першабытныя і мы.
Птушак слухаем напевы
Ці схіляемся ў журбе,
Ты — Адам мой, а я — Ева,
Я — адзіная ў цябе.
Не хапаем з неба зорак,
Проста ўсё ў нас ў жыцці.
Толькі дзе знайсці лячору?
Дзе нам маманта знайсці?

**Андрусь ПАХМЯЛЮСЬ**

## Сябрам «Маўра»

*Сляза не блісне радасцю*
*з-пад вейкі,*
*не свеціць нават таннай*
*славы лаўр...*
*З нас кожны — ад*
*Купалавай жалейкі,*
*і кожны,— як апошні*
*дыназаўр.*
*Раіса БАРАВІКОВА*
*(«Сябрам паэта»)*

У наш магазін завезлі
дыназаўра, —
з нагоды 8 Сакавіка.
Мяснік смуглявы, з тварам
маўра,
чакаў, пакуль збудуецца чарга.
Глядзеў на нас, і слёзы беглі
ў яго з-пад веек на арліны нос.
Тым часам усе талоны леглі
на плаху, у паперны стос.
І раптам «маўр» схапіў сякеру,
паднёс да... вуснаў і давай
іграць!
А я гляджу, вачам не веру:
наш дыназаўр пачаў знікаць.
То сябры «маўра» — ад
Ракфелера жалейкі —
панеслі мяса лаўрам аздабляць.
Адпомсціць як? Лінуць
слязой з-пад вейкі.
І верш пра Дэздэмону напісаць!

*Частушка ў нумар*

## Умова

Гаворыць новы аграном:
— З умовай буду ў вас я,
Кватэру дайце мне з акном
На ўсе палі калгаса.

**А. ГАРЭЛІК.**

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

**Заснавальнік: ЦК ЛКСМ Беларусі**

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 32-13-54, аддзел пісьмаў і сацыяльных праблем — 32-50-01

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, г. Мінск. Індэкс 63906



Зак. № 18.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12